НАША НІВА

*Беларуская газэта* ***№6, 1994***

# БЕЛАРУСКІ БРЭМЭРХАФЭН



**ПАЛАЦ.** Эсэ пра Гомель. У межах аднаго горада доўжаць свой даўні дыялёг графскі Палац, чыгуначны Вакзал, стараверская Слабада і Дом камуны. Яны то спрачаюцца, то змагаюцца паміж сабою, то знаходзяць паразуменьне...

**ХАМ.** Прэзыдэнцкія выбары паказалі, што ў беларускім народзе, як у любым іншым, жыве стыхія натоўпу. Калі яна пераважвае сабою культуру й мараль, тады не народ абірае сабе прэзыдэнта, а натоўп — крыкуна... Інтэрвію Славаміра Мрожака «Пакліканьне хама» і артыкул Валянціна Грыцкевіча «Таталітарны чалавек».

**ВЯДЗЬМАРКА І ДОЖДЖ.** Самы «скандальны» літоўскі раман 1993-га году быў забаронены для шырокага продажу за адкрытае апісаньне эратычных сцэнаў. Самы «цнатлівы» ўрывак з раману — у гэтым нумары «НН».

**БОСЬНІЯ.** Нататкі з ваеннага зьезду Таварыства пісьменьнікаў Босьніі і Герцагавіны называюцца «У жалезных абдоймах братэрства». Падзагалоўкі: «Да чэтнікаў ці да ўсташоў», «Кама-Сутра па-сэрбску», «Урбіцыд», «Хто робіць зло?».

**АРЛОЎ**. Пра Лёндан.

**НАСТУПНЫ НУМАР.** Рэдакцыя мяркуе прысьвяціць яго акупацыі. Пастаноўка праблемы: што ёсьць акупацыя Беларусі паводле «сусьветных стандартаў» па працягу гісторыі і сёньня?..

**Апавяданьне**

# ЖАЛОБНЫ МАРШ

Уладзімер Сьцяпан



Віцька Жытнік і Васіль Маршын біліся двойчы...

Біліся люта, але іх расьцягнулі. Калі б нікога не было побач, бойка магла скончыцца ня выбітымі зубамі, сінякамі й падранай вопраткай, а сьмерцю — у гэтым упэўнены, бо добра ведаў абодвух...

І Віцька, і Васіль былі музыкамі. Гралі на трубах, ці, як яны казалі, на «трупах». Грошы зараблялі на пахаваньнях: правялі ў апошні шлях чалавека — і па дваццаць пяць рублёў у кішэні. Заробак як заробак... Нехта робіць труны, нехта пячэ хлеб ці круціць гайкі, а нехта павінен граць Шапэна — рабіць «жмура».

Спачатку, да першай бойкі, яны працавалі ў аркестры, якім кіраваў Лявон Барталамеевіч Боршч, — чырванатвары, вялізны, як капа, заўсёды пры гальштуку й капелюшы, на лёгкім падпітку, пяцідзесяцігадовы барабаншчык. Парадак пры ім быў яшчэ той — пахавальнай камандай можна было ганарыцца, яе ведалі ва ўсёй ваколіцы.

Лявон Барталамеевіч — кіраўнік духавога аркестру — загінуў, замерз...

Ён ляжаў на дне сьвежавыкапанага долу, які падрыхтавалі руплівыя сваякі для старой Машніхі, бо доктар паабяцаў, што больш за дзень старая не працягне. А Машніха, на злосьць доктару, суседзям і сваякам, пражыла яшчэ тыдзень і памерла ў самыя студзеньскія маразы. Як усе клялі старую й яе руплівых сваякоў — не перадаць.

Маразы былі лютыя, муштукі прымярзалі да вуснаў, а пальцы да кляпанаў. Музыкам, як належыць у такіх выпадках, добра налівалі, інакш на могілкі йсьці яны не згаджаліся. І праводзіць у апошні шлях загадчыка прыёмнага пункту шклотары — Эдуарда Радзевіча — давялося б бяз музыкі, пад скавытаньне завеі й енк дзьвюх дачок і жонкі.

Эдуард Радзевіч засіліўся на Стары Новы год ва ўласным гаражы... Залез на капот навюткага «Запарожца», прычапіў да бэлькі скураны пас — і ўсё...

Малодшая дачка Радзевіча вучылася ў адной клясе са мной і Васілём Маршыным. Праўда, гэта было даўно, і яна ўжо двойчы пасьпела выскачыць замуж і нарадзіць дзіця. Вось што дзіўна — кожны раз загадчык пункту шклотары даваў за дачкой новыя «Жыгулі»: першая машына была вішнёвая, а другая васільковая — прыгажэйшая, як лічылі ў гарадку...

Золата, якое шукалі міліцыянты, вядома, не знайшлося, хоць і шукалі з сабакам. Людзі сьмяяліся, бо хто ж шукае золата з сабакам. Ды й Радзевіч не ідыёт, каб трымаць яго пад падушкай ці ў прыбіральні — разумны быў мужчына. І каб не зрабілі канфіскацыю — засіліўся.

Вось на пахаваньні Радзевіча музыкі й выпілі. З дому пайшлі на могілкі, а там выпілі яшчэ — загрузілі ў аўтобусік інструмэнт, а на Лявона Барталамеевіча й забыліся, хутчэй бы з гэткай сьцюжы да стала трапіць.

А кіраўнік пахавальнай каманды, калі згледзеў, што музыкі зьехалі, рушыў праз могілкі, напрасткі, і зваліўся ў глыбокі дол. Бо старая Машніха хацела ляжаць глыбака, каб сабакі не раскапалі капец ды не расьцягнулі косткі па сьвеце. Не паверыце, але такое на нашых могілках было.

Лявон Боршч жыў адзін, і хапіліся яго толькі на наступны дзень, калі апоўдні трэба было йсьці да «жмура» — хаваць старую Машніху. Хапіліся — ды не знайшлі, бо адны казалі, што ён быў на хаўтурах, другія ж сьцьвярджалі, што не было...

Віцька Жытнік стаў за барабан, а астатнія выконвалі звыклую справу. Мароз, завея... людзі нават не павыходзілі на балькона, каб падзівіцца на жалобнае шэсьце, якое па-спартоваму хутка прайшло праз гарадок, да засьнежаных могілак.

А вось на могілках усе прысутныя й ахнулі. Лявон Боршч, прыцярушаны сьнегам, ляжаў у куточку долу, падкурчыўшы ногі й схаваўшы рукі пад пахі. Ён так замерз, што яго не змаглі разагнуць, і давялося класьці ў гарачую ванну, каб зьняць вопратку й каб выпрастаць нябожчыка.

Хавалі кіраўніка духавога аркестру аж на чацьвëтры дзень пасьля таго, як знайшлі. А старую Машніху пахавалі позна ўвечары, амаль уначы, бо прыехала міліцыя, пачалі разьбірацца, шукаць «канцы», дапытвацца... Але выкапаць новы дол у такі мароз справа цяжкая, і таму старую хуценька паклалі на месца Лявона Баршча, закідалі мерзлай зямлёй — і хутчэй да стала.

На хаўтуры зьбеглася, хоць і было позна, ці не палова жыхароў гарадка. Усім было цікава, як ды што: хто згледзеў першы, як ляжаў, ды яшчэ шмат розных пытаньняў хвалявала й патрабавала абмеркаваньня, бо ня кожны дзень такое здараецца...

У аркестры пачаліся сваркі й разброд. Спрачаліся, каму лічыцца кіраўніком, а галоўнае — хто будзе дзяліць грошы, бо хто дзеліць грошы, той і ёсьць сапраўдны кіраўнік.

Што Віцька Жытнік, што Васіль Маршын — талент мелі роўны, калі так можна пра такую далікатную матэрыю — талент. Але гэта, калі глядзець збоку, а вось кожны з музыкаў лічыў сябе непараўнальным і неперαўзыйдзеным. Тады яны не счапіліся, а толькі лаяліся ды абражалі адзін аднога. Лявон Барталамеевіч гэткага б вэрхалу не дапусьціў, даў бы кожнаму па шыі дый выкінуў за дзьверы, і скуголь потым, прасі прабачэньня... Ды не было ўжо Лявона Барталамеевіча ў пакоі аркестру, а быў толькі яго вялікі чорна-белы партрэт у жалобнай рамцы, ды люстэрка, завешанае кавалкам кумача. І глядзеў з партрэту мужчына з сытым тварам, які аздаблялі бакенбарды, на

*Працяг на старонцы 4*

# ДЗЁНЬНІК ПРЫВАТНАГА ЧАЛАВЕКА



Прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі падводзяць рысу пад ілюзорным спадзевам на тое, што нас *усё гэта* абміне. Маю на ўвазе тую ломку пасьля наркатычнага забыцьця ў мінулай ідэалёгіі, якую так ці інакш — хто толькі з дэпрэсіяй, а хто і з кроўю — перажываюць усе посткамуністычныя краіны. І цяпер трэба гаварыць не пра кандыдатаў, не пра будучыню й Бацькаўшчыну, а пра тое, ад чаго залежаць камплікацыі, пра беларускі народ, які нарэшце выявіў сябе. Дагэтуль мы мелі справу хутчэй з уласнымі, досыць ідэалізаванымі ўяўленьнямі пра народ, імкнуліся не заўважаць у ім стыхію натоўпу.

Народ не памыляецца й не «безмолвствует». Падобна, што гэты прыродны арганізм увесь час спакушаецца самазьнішчэньнем, ён мазахіст, ён **асуджаны** на тое, каб абіраць сабе «горшае ў сьвеце начальства». Гутарка йдзе ня толькі пра наш народ, а пра народ увогуле. Зьмяняюцца дватры пакаленьні і — усё спачатку. Досьведу расстрэлаў, войнаў, зьдзекаў аднаго над адным — як не было. Здаецца, пра гэта разважаў перад сьмерцю Л.Талстой: напісаў шмат тоўстых кніжак, а ніякага палепшаньня ў чалавеку так і не адбылося...

Мабыць, ня будучы глыбока ў цемры душы сваёй зьвярамі, людзі не змаглі б нармальна пладзіцца, радавацца, хацець. Але будучы пераважна зьвярамі, яны ня здольныя ўжывацца паміж сабой. Таму ўся справа ў стрымваньні дзікунства. А стрымлівае гэты прыродны мазахістычны парыў матылька, які заўсёды ляціць у вагонь, цывілізаванае грамадзтва, якое мінімалізуе ў народзе натоўп. Гэта інтэлігенцыя (у самым шырокім сэнсе слова), якая сьцьвярджае культуру й мараль; гэта добра адладжаныя інстытуты ўлады; гэта дэмакратычныя традыцыі — чым даўнейшыя, тым больш эфэктыўныя. Там, дзе ўсё гэта ёсьць, прэзыдэнтам краіны ня можа стаць крыкун. Там, дзе гэтага няма, натоўп абірае ў прэзыдэнты крыкуна. Тады запаноўвае прырода, базавы інстынкт, які ня ведае маралі. Тады «интеллигенция — говно», а культура... яе прадукт. Тады ўлада не інстытуюецца, а функцыянуе як строга вэртыкальная іерархія ў ваўчынай зграі. Традыцыя проста не ўзьнікае, бо гістарычная памяць — гэта якраз тое, чым адрозьніваецца чалавек ад жывёлы. Паводле А.Пушкіна.

Напэўна, у кожным чалавеку жыве дзікі зьвер, які ведае толькі плоць, сілу і інстынкт. І кожнага разу некалькі мільёнаў павінны загінуць, каб астатнія зьведалі што-небудзь акрамя гэтага. «Кожны раз чалавецтва бліжэй да шчасьця на вышыню нашых магіл», — казаў Караткевічаў Каліноўскі. Рамантычны герой не ўлічыў, што магільныя капцы прасядаюць і рассыпаюцца вельмі хутка. Няма вышыні ў магіл. Ёсьць толькі мярзотны халадок пад сэрцам.

Вядома, можна было здагадвацца, што гістарычнага вопыту ня йснуе, што ні Сталін, ні Гітлер нічому не навучылі, што поўная бясправнасьць чалавека ўвесь час ходзіць за ім крок у крок, што калі жанчыну прылюдна б'юць нагамі ў жывот, усе навокал могуць маўчаць, а яна — плакаць і біцца ў істэрыцы ад любові да сваіх забойцаў... Можна было здагадвацца, але ня думалася, што ўсё гэта абавязкова давядзецца перажыць.

Пасьля першага туру выбараў адзін мой сябра ў запале крыкнуў: хто, паводле якой маралі даў права крыкуну пасягаць на пасад Бацькаўшчыны?! Але самыя словы «мараль» і «права» прагучалі пустым гукам. Гэта ж падумаць, Кебічу яшчэ можна было нешта растлумачыць... А што растлумачыш зграі? Усё, што можа належаць ёй на нашай зямлі, — гэта натоўп. Падобна, што яго больш, чым хацелася думаць. Але ўсё астатняе належыць нам. І калі здарыцца так, што на Беларусі запануе зграя хамаў, мы будзем процістаяць ёй усімі магчымымі сродкамі. Або процістаяць, або ахамець самім, — трэцяга тут ня дадзена.

# ПАКЛІКАНЬНЕ ХАМА

*Адказ на пытаньне газэты «Polityka»*

Славамір Мрожак



**(нар. 1930) — польскі драматург і празаік, аўтар гратэскава-сатырычных апавяданьняў («Слон») і філязофскіх ды звычаёвых п'ес («Паліцыя», «Танго», «Эмігранты», «Партрэт»). Жыве ў Мэксыцы.**

Камунізм зварушыў у Польшчы хама. Трэба, каб мы паразумеліся, што гэтае слова значыць.

У перадваеннай Польшчы яно значыла таго, хто паходзіў зь вёскі. Найчасьцей гэтае слова ўжываў люмпэнпралетарыят і вельмі дробнае мяшчанства, якое такім чынам хацела паказаць, што яно за «хамаў» лепшае. І чым вышэй па клясавай лесьвіцы, тым гэтае слова ўжывалася радзей. На самай гары — ня ведаю, я там ня быў, але, мусіць, не ўжывалася наогул.

Хам сапраўдны, хам прыроджаны, хам натуральны — гэта нешта зусім іншае. З сацыяльным паходжаньнем ня мае ён нічога супольнага і спрадвеку здараецца ва ўсіх сфэрах. Яго дэфініцыя — нахабства, абсалютная ўпэўненасьць, што яму належыць усё, але яго не абавязвае нічога, бо ўсё належыць яму проста так. Ён не паважае чужога існаваньня, таму што лічыць, што сьвет створаны толькі на тое, каб мог узьнікнуць ён, і ніякай таямніцы быцьця ў гэтым няма. Хам ведае ўсё, ён ведае ўсё найлепей і ня мусіць даведвацца нічога. З гэтага пункту гледжаньня ён меў бы рацыю, бо сапраўды ведае ўсё тое, што ёсьць у абсягу ягонага лыча, калі б не лічыў, што ў гэтым абсягу зьмяшчаецца ўсё і па-за ім не існуе нічога.

Няма большай памылкі і несправядлівасьці, чым блытаць «хама» з хамам. Мой бацька быў «хамскага» паходжаньня, я добра яго ведаў і магу вас запэўніць, што хамам ён ня быў. Сярод «хамаў» не было хамства і не было яго шмат дзе яшчэ. У Польшчы не было натоўпу, нават люмпэнпралетарыят, нават злачынны сьвет меў нейкія свае правілы гульні, кодэксы і пачуцьцё гонару. Нешта дазвалялася, а нешта не, нешта было прыстойнае, а нешта не. Цямнота, ксэнафобія, тупасьць увогуле, але хамства — не. Хам ня быў у модзе, ён быў пад спэцыяльным кантролем.

Толькі камунізм вызваліў хама. Зьнішчыў грамадзтва, якое яго кантралявала і замяніў яго дзяржавай, якая нічога ня мела супраць хама, калі хам ня меў нічога супраць яе. А хам нічога ня меў супраць дзяржавы, таму што не любіў грамадзтва, якое яго абмяжоўвала, а любіў уладу, калі атрымліваў яе над грамадзтвам, супраць чаго, у сваю чаргу, нічога ня мала дзяржава, якая не любіла грамадзтва. Вось так яны й паразумеліся.

Камунізм адыйшоў, хам застаўся. І журботна мне, калі параўноўваю польскасьць мінулую, тую, што безь яго, зь сёньняшняй.

Чаму хам застаўся? А чаму ён мусіў адыйсьці? Менавіта цяпер настаў ягоны час. Бо цяпер шмат што на сьвеце зьмянілася.

Ідэалы гуманізму, рацыяналізму, асьветніцтва — вельмі прыгожыя. Такія прыгожыя, што паўстае пытаньне: чаму сьвет, якім ужо дзьвесьце гадоў усё лепш і лепш кіруюць паводле гэтых ідэалаў, выглядае ўсё горш і горш? Ідэалы ператварыліся ў дзяржаўныя правы: свабода — прымусовая, за роўнасьцю пільнуюць канстытуцыя, паліцыя і суды, братэрства — загаданае. Але нічога не выходзіць. Відавочна, нешта схіблена ў разьліках, нешта ня ўзята пад увагу.

Ня ўзяты пад увагу хам. Правамі найбольш эфэктыўна карыстаецца хам, таму што нармальны чалавек заўсёды мае нейкія сумлевы — ці ўсё належыць яму. Нават калі ён ведае, што ўсё можна, то ня ўпэўнены, ці ўсё выпадае. Калі яму кажуць, што ён роўны, то ён схільны верыць, што ўсё ж ёсьць нехта вышэйшы за яго, бо такім чынам ён мае надзею, што ня ўсе так нізка, як ён. Калі ён чуе, што ён гаспадар сусьвету, яму маркотна, бо чаго варты сусьвет, які мае такога гаспадара. Калі яго пераконваюць, што толькі ён сам вырашае, што ёсьць Дабро, а што Зло (а Дабро — гэта тое, да чаго ён акурат ахвочы), то ён захворвае на нэўроз. Але ня хам. Гэты ўсё як знайшоў.

Калісьці хам ня быў у модзе, пазьней ён стаў модны, цяпер ён дыктуе моду. І наш айчынны зрэбны хам ляціць у абдымкі хама сусьветнага. Цяжка нам быць сучаснымі ў гаспадарцы, арганізацыі, тэхніцы, бо мы іх ня маем, а ў хамстве — адразу й без высілкаў. Мы ня маем аўтастрадаў і электронных клязэтаў, але маем хама, ня горшага чым на Захадзе. «Бедныя, але хамскія», — можам мы сказаць пра сябе з гонарам. Наша голая дупа ня менш голая, чым дупа ў «Пэнтхаўзе».

Чаму наш хам-дэбютант уражвае мяне больш, чым высокаразьвіты хам замежны? Таму што ён мой.

# ПАЛАЦ

*Накіды эсэ пра Гомель*

Мікола Сердзюкоў

.....................................................................

................. Накіды, можа, павінны пачынацца хоць бы з 1142 году, пад якім горад упершыню згадваецца ў Іпацеўскім летапісу. Трэба прывесьці прыклады, як ламалі сабе языкі папярэднікі: ...Гомій... ...Гомей... ...Гомін... ...Гомь... ...Гомье... ...Гам'ё... І я малы амаль тое самае чуў — абы-што пасьля «м» і выкрутасы з «а» — «о». Першы погляд мой на яго — збоку, бо першая частка дзяцінства прайшла ў вёсцы Харошаўцы, ня вельмі далёка ад гораду. Зьбіраючы што на продаж, суседзкая цётка звычайна прыгаворвала: «Паеду ў Гамель, а вярнуся з Гомля».

.....................................................................

........................ дадзеныя пра Чарнігаўскае княства й Вялікае княства Літоўскае, пра Маскоўскае таксама, пра Рэч Паспалітую, а яшчэ пра тых, хто ў горадзе валадарыў; і мусіў бы я, паважаючы дэталі, акуратна пазначыць, каму гомельцы самі адчынялі брамы, а з кім біліся. Я б не стамляўся ўпэўніваць усіх: «Так было». Сам жа думаў бы: «Або так не было». Ці трэба прызнаваць гісторыю за рэальнасьць, калі не заўсёды верыш у яе? Здараюцца дні — пачуцьці мае не пераносяцца ўсьлед за думкамі ў адвольную даўніну, дэман адрачэньня ўсяляецца ў мяне й пакеплівае зь іншых: вось чалавек напісаў «1142 год» і — што адчувае?

Тады мне здаецца, нібыта многія мае сучасьнікі блукаюць вакол нежывой вэртыкалі гісторыі, як вакол капішча, у якім вера ўжо выгарала.

Той, хто пазначыў у Іпацеўскім летапісу год, толькі сьпісаў яго з больш старажытнага скрутка. Ягоны папярэднік — зь яшчэ аднаго. Гістарычны час, куды ні кінь вокам, парваны, пасечаны на кавалкі. Летапісцы сьпісваньнем здаўна намагаліся злучаць іх. Няўжо ўдалося?..

Але й дні адмаўленьня гістарычнага часу неяк пралятаюць, я вяртаюся ў звычайнае жыцьцё.

Немагчыма заўсёды захоўваць сур'ёзнасьць.

Неяк гэтае вяртаньне, гэтае ачалавечваньне гістарычнай вэртыкалі адбылося ў мяне праз дзяўчыну. Ёй у той дзень споўнілася васемнаццаць, яна ці то мне, ці то сабе самой сказала слова «можна», і я адразу пайшоў па шампанскае:

.....................................................................

................. у эсэ дзяўчыны звычайна выбіваюцца з кантэксту.....................................

Тое вяртаньне да гісторыі, тое ачалавечваньне вэртыкалі было ў мяне самае яркае.....................................................

...... роўна ў фільмах пра інквізыцыю складзены дровы, на якія ўзыходзяць вядзьмяркі й ерэтыкі. Гэтак жа выглядае вогнішча часу, складзенае з нашых цел. Мы адно на адным. Янка й Марыля нарадзілі Сымона, Сымон і Настка нарадзілі Агасю, Агася й Васіль.............. .............

Дзе апаліць цябе вечна жывы агонь — не выбіраеш. У тым выпадку гэта была майстэрня Валодзі Баброўскага, мастака й майго сябра. Знаходзілася яна ў даволі вядомым у горадзе збудаваньні.

## ДОМ КАМУНЫ

............... не выпадкова я спасьцігаю гісторыю часьцяком праз архітэктуру.

Палац і парк, зьвязаныя з жыцьцём графаў Румянцавых і князёў Паскевічаў, — тое, што звычайна вядомае нягомельцам пра Гомель. Але, акрамя графаў і князёў, былі тут іншыя людзі, якіх варта ўспамінаць. Напрыклад, Шабунеўскі. Архітэктуры ён вучыўся ў Пецярбургу, а потым, з канца мінулага стагодзьдзя да 1937 году, праектаваў многія прыкметныя ў горадзе будынкі: мужчынскую клясычную гімназію, гатэль «Савой», пажарнае дэпо, дом лекара, банкі, лякарні, даходныя й жылыя дамы.

Архітэктурнае саракагодзьдзе Станіслава Шабунеўскага ў Гомлі расьсекла напалам рэвалюцыя.

Для мяне гэты чалавек фэнамэнальны тым, што будаваў у розных стылях. Гімназія — нешта «нэагрэцкае», іншыя дарэвалюцыйныя будынкі — у стылі мадэрн, напрыклад, камэрцыйны банк.

Пасьля рэвалюцыі запанаваў канструктывізм: ніякіх упрыгожваньняў, бясконцыя голыя плоскасьці. Але наватарства савецкага часу ня зводзілася да зьнешняга выгляду будынкаў. Жылыя дамы прадугледжвалі й калектывізацыю быту. Яскравы прыклад: дом камуны, узьведзены ў 1929—1931 гадах для рабочых паравоза-вагонарамонтнага заводу. Шасьціпавярховае збудаваньне на сваіх жылых паверхах мела пакоі-ячэйкі для сну, пакоі для сумеснага прыгатаваньня ежы, сумеснага мыцьця бялізны, грамадзкія прыбіральні. Першы паверх паводле праекту Шабунеўскага прызначаўся для сталовай, бібліятэкі, дзіцячай дашкольнай установы, залі атракцыёнаў. Карацей, сацыялістычны храп павінен быў спалучацца з калектывізмам у перамешваньні капусты й чытаньнем уголас пралетарскіх маніфэстаў.

Нават у 60-80-я гады я нідзе ў Гомлі ня бачыў такой галечы, такога бруду, такой колькасьці сьпітых бандыцкіх твараў, як у доме камуны. У час вайны падпольшчыкі не выпадкова менавіта над ім узьнялі чырвоны сьцяг.

.....................................................................

.......... настальгія па мінулым тым ня менш існуе, нікуды яе не схаваеш. Што рабіць, калі ты быў тады малады, калі самая прыгожая дзяўчына, якую ты сустрэў у жыцьці, абдымала цябе менавіта ў тым доме?

Мяне трохі супакойвае тое, што дом камуны шасьціпавярховы, а майстэрня Баброўскага знаходзілася на сёмым паверсе. Ня ведаю, як назваць гэтую архітэктурную дэталь, гэтую надбудову над зьнявечаным бытам. Дзякуй Шабунеўскаму ад мяне й маёй дзяўчыны. Надбудова добра прадзімалася ветрам, хоць п'янкі ў майстэрні былі іншы раз такія, як і ўнізе.

У 1937 годзе Станіслава Шабунеўскага, здаецца, расстралялі. У Алэсе. Або ён памёр там у турме. Наўрад ці ён, «былы»,

*Працяг на старонцы 6*

# ТАТАЛІТАРНЫ ЧАЛАВЕК

Валянцін Грыцкевіч



### ЭТЫКА ЦІ ПАЛІТЫКА?

Час таталітарызму становіцца ўспамінам. Ад гэтага таталітарызм не перастаў быць праблемай для асэнсаваньня. І наша абавязковая задача — зразумець тое, што мы лічым пэражытым.

Цяпер у нас выпрацоўваюцца новыя навыкі душэўнага складу й спосабу мысьленьня. Камунізм, які зьнікае ў імгле, служыць нам для таго, каб зваліць на яго заганы й паскудзтвы нашага грамадзтва. Але ж гэтыя заганы складваліся раней. Камунізм толькі паспрыяў іх праяўленьню.

Узяць, напрыклад, такі фэномэн, як падпарадкаваньне этыкі палітыцы, што адкрывае ўладам шлях для злоўжываньняў. Так, Асьветніцтва XVIII стагодзьдзя ўпэўніла нас у тым, што людзкое вераваньне ў дабро й зло ў культурным і гістарычным пляне адноснае. Аднак у гэтым ёсьць небясьпека. Ці магчыма сьцвярджаць, што розьніца паміж вегетарыянцам і канібалам — толькі справа густу? Пры прыняцьці шмат якіх рашэньняў усё ж прыходзіцца браць пад увагу маральную цану. Распаўсюджваць цярпімасьць нават да фанатызму азначае выступаць у абарону нецярпімасьці.

Вучэньні эўрапейскіх кантынэнтальных філёзафаў зыходзяць з агульнасьці «Бог, гісторыя, права» (у адрозьненьне ад ангельскай школы, у якой адпраўны пункт — чалавек, а ягоная палітызаванасьць дабра не прыносіць, нягледзячы на яе неабходнасьць). Чалавек як асоба ў кантынэнтальнай філязофіі зьнікае. Прызнаньне за гэтай агульнасьцю вядучай ролі хавае ў сабе пагрозу таталітарызму.

Таталітарныя сыстэмы прад'яўляюць чалавеку высокія, парою непасільныя этычныя патрабаваньні. Толькі нямногія могуць справіцца зь імі, вытрымаць іспыт пеклам.

Нармальныя крытэрыі чалавечага супольнага жыцьця: прыстойнасьць, сумленьне, шчырасьць, — разглядаліся пры таталітарызьме толькі ў іх клясавым адлюстраваньні. Камунізм быў нечым падобны да хваробы. Тое, што робіцца сёньня, ёсьць заканамернай рэакцыяй на гэтую хваробу.

Філёзаф Ханна Арэндт у сваіх «Каранях таталітарызму» (1951) пісала, што падзеньне таталітарнага рэжыму не пакідае іншых сьлядоў, апроч вычарпаных нацый, эканамічнага хаосу, палітычнай пустэчы й духоўнай табуля раза (сьвядомасьці чалавека, які не валодае, у сілу адсутнасьці зьнешняга пачуцьцёвага вопыту, якімі-небудзь ведамі, напрыклад, навародка).

### БЯСПРАЎЕ, ЖАБРАЦТВА, ЖОРСТКАСЬЦЬ

Таталітарызм прынес незвычайны вопыт зла. Ягоная сутнасьць застанецца незразумелай, калі мы абмяжуем гэты лад бяспраўем. Зь бяспраўем чалавецтва сутыкалася шмат разоў. Няшчасьці, што вынікаюць ад яго, вядомыя добра. Але таталітарызм перарастае падобнае бясправе.

Мы не зразумеем прыроды таталітарызму, калі будзем бачыць у ім выключна эканамічны крызыс і ягоныя вынікі. Умовою заняволеньня грамадзтва ёсьць сьпіхваньне яго на нізкі ўзровень існаваньня. Як лічыць пісьменьнік Р.Капусьцінскі, зьніжэньне ўзроўню жыцьця — агульная яго дэградацыя, пагаршэньне яго якасьці, памяншэньне выгодаў і памнажэньне небясьпекаў пры гэтым — рэчы зусім невыпадковыя. Гэта вынікі палітыкі тых, хто імкнецца ўмацаваць сваё панаваньне. Ім вядома, што чалавек аслаблены, чалавек, зморaны барацьбой з тысячай перашкодаў, які жыве ў сьвеце жаданьняў, што ніколі не выконваюцца, лягчэй паддаецца маніпуляцыі, падпарадкоўваецца без супраціву. Барацьба за існаваньне — занятак, які адымае шмат часу, паглынае й вычэрпвае. Стварыце такія антыўмовы людзям, і ўлада гарантаваная вам на дзесяцігодзьдзі!

Насаджалася ўбоства матэрыяльнае й духоўнае. Беднасьць вымотвала й падаўляла чалавека, рабіла яго больш пакорлівым, узнаўляла адчуваньне непаўнавартасьці. Чалавек з абмежаванымі патрэбамі нават не здагадваецца пра існаваньне належных яму па праву рэчаў, якіх можна патрабаваць і за якія можна змагацца.

У падобным грамадзтве татальнай галечы спадарожнічае татальная бязьдзейнасьць. Спосаб выжываньня тут — зусім не барацьба з прыродаю, не актыўная вытворчая дзейнасьць, не безупынная праца ў поце чала, а наадварот, мінімальнае выдаткаваньне энэргіі, сталае імкненьне нічога не рабіць. Філязофія, якая апраўдвае такія паводзіны, — фаталізм. Чалавек адчувае сябе не ўладаром абставін, а іх рабом.

Менавіта цяжкасьці жыцьця пры таталітарызьме й пасьля яго: транспарт, чэргі, ушчыльненыя кватэры, — ахоўваюць жыхарства такіх краін ад таго, каб яны задумаліся аб сэньсе жыцьця, аб яго жаху, аб тупіку каханьня, аб непазнавальнасьці самага каханага й блізкага чалавека. Калі людзі задумаюцца — яны жахнуцца. Бо экзыстэнцыйны тупік, які на Захадзе мастацтва й філязофія пасьпелі дасьледаваць і апісаць, у іх яшчэ наперадзе. Таму сапраўдная нармалізацыя жыцьця можа абярнуцца для такіх людзей катастрофай. Бязьдзейнасьць — адзіна годнае чалавека становішча толькі тады, калі гэтая бязьдзейнасьць суправаджаецца працаю духу. Тады чалавеку прыходзіцца задумацца ўжо не аб тым, дзе й як знайсьці кавалак хлеба, але й пра галоўнае й нявырашанае: пра канечнасьць існаваньня.

Да капрызаў гісторыі, як і да капрызаў прыроды, такі заняволены чалавек ставіцца аднолькава. Для яго адно й тое — што зьмена ўлады, што навадненьне. Для яго гэта перамена натуральная. Ён робіць усё, каб прыстасавацца да іх, і таму тут спробы бунту рэдкія. Бо крыніца мяцежнай сілы — не няшчасьці, якія суправаджаюць галечу (яна хутчэй прыгнятае, чым распаляе энэргію пратэсту), а жывая й незалежная сьвядомасьць, што ўпэўненая ў сваёй рацыі. Таталітарызм абяцае ліквідаваць нястачу ў краінах, дзе ён яшчэ не захапіў уладу. Але ўяўляць сабе, што нястача сама па сабе можа быць ліквідаваная — гэта значыць не зьвяртаць увагі на ўвесь гістарычны вопыт. Нястача акрэсьліваецца патрэбнасьцямі. А людзкія патрэбнасьці могуць расьці бясконца — успомніце бабулю з казкі пра залатую рыбку!

Таталітарызм вызваліў у людзях незвычайную жорсткасьць, якая ў канечным разьліку засноўваецца на таямнічай схільнасьці чалавека да зла. Гэта добра паказаў у сваёй жорсткай прозе Шаламаў. Толькі ў выніку чагосьці такога маглі паўстаць канцэнтрацыйныя лягеры й лягеры зьнішчэньня, сыстэмы грамадзкага кантролю, установы, што выпрацоўвалі хлусьню, урэшце, невядомае дагэтуль пэрманентнае забойства людзей.

Камуністычная, як і іншая фашысцкая таталітарная мэнтальнасьць, адпавядае натуры пэўных тыпаў людзей. Яна спрадвечная. Яе можна прасачыць па ўсёй гісторыі. Гэта адзінаўладзтва, нянавісьць да грамадзтва, дзяленьне яго на антаганістычныя часткі, тэрор, дэмагогія, нігілізм. Атрымліваецца разумовы хаос, які ствараецца ў такіх умовах і вядзе да прымітыўнага мысьленьня. Выхаваны такім чынам фанатызм выклікае ў чалавеку больш энэргіі, чым дабрыня й мяккасьць. Таму фанатыкам лягчэй навязаць іншым сваю волю й дамагчыся ўлады.

У пэўных пластах нашага грамадзтва караніцца такі тып субкультуры, паводле якой прымяненьне фізычнай сілы ў вырашэньні канфліктаў — доблесьць. Выхаваныя яшчэ зь дзяцінства ў бацькоўскай сям'і, такія ўяўленьні застаюцца ў чалавека на ўсё жыцьцё.



*Малюнак Андрэя Скідана*

### ЗЬМЯШЧЭНЬНЕ МАРАЛЬНЫХ КАШТОЎНАСЬЦЯЎ

Паняцьці дабра й зла былі выкараненыя зь сьвядомасьці савецкага чалавека. І цяпер нам хочацца пераскочыць праз нялёгкую працу выхаваньня свабоды, праз цяжар разьвіцьця саміх сябе. На працу жыцьця адважыцца цяжка. Але толькі гэта й ёсьць свабода.

Прага сувэрэннасьці асобы шукае пацьверджаньня ў мінулым. З кожным этапам так званай перабудовы й пасьляперабудовы, з кожным крызысам пасьлякамуністычнай улады рассоўваюцца межы й крыніцы паходжаньня перамен у грамадзкім жыцьці. Думка адстае ад гэтага. Прымхі апераджаюць аналіз і здаровы сэнс. Духоўны землятрус аказаўся непрадбачаны для многіх людзей. Мала таго, народ не прызвычаіўся да прапанаваных яму дэмакратычных вартасьцяў, тым больш, што прышчапленьне іх на Беларусі пасьпяхова наладзілася кіруючымі пластамі грамадзтва, якія паказалі, што здолелі фармальна абыйсьціся без КПСС і без СССР.

Сёньняшняе неўспрыняцьце значнай колькасьцю жыхарства дэмакратыі тлумачыцца тым фактам, што пры Хрушчове й Брэжневе не забівалі. Гэта для малодшых за маё пакаленьне людзей засланяла папярэднія жахі Сталіна.

Бальшавікі праіснавалі за кошт бясплатнай працы й гандлю сыравінай даволі доўга. Савецкі Саюз вырваўся ў космас, распрануўшы да ніткі народ. Народу за гэта ўдзячна была пакінутая адсутнасьць выгодаў, магчымасьць неабмежавана піць горкую да страты арыентацыі ў часе й прасторы. Народу навязалі такія фантомныя зьявы, як сацыялістычнае спаборніцтва, стаханаўскі ці гагарынаўскі рухі, якія старанна апявалі гісторыкі КПСС і марксісцка-ленінскія філёзафы. Народу пасьпелі прышчапіць рэальную дэвальвацыю працы, веру ў сацыяльную абароненасьць, звужэньне часавага гарызонту, зайздросьлівы эгалітарызм, калектыўны эгаізм і арыентацыю на пасрэднасьць.

Мы мелі такіх неінтэлігентных правадыроў, што горшых можна было б адшукаць толькі дзе-небудзь ва Ўгандзе ці Экватарыяльнай Гвінеі, а можа, на Гаіці. Новая кіраўнічая кляса паступова стала агранічна аднароднай, убогай зьнізу даверху з той пары, калі былі зьнішчаныя больш-менш здольныя й адукаваныя кадры. Вышэйшы розум сыстэмы ніяк не дасягаў узроўню, прыдатнага да вырашэньня гістарычных задач. Гэта не выпадковасьць, а заканамерны вынік разьвіцьця.

Кіраўнічы пласт ні палітычна, ні інтэлектуальна ня быў здольны вырвацца з таго кола, якое сам накрэсьліў вакол сябе. Ён быў засяроджаны на адной мэце й патрабаваў задавальненьня сваіх нястрыманых, маніякальных патрэбнасьцяў, нібы наркаман. Тыя, хто быў здольны зразумець рэальны стан рэчаў, адрываліся, зьнішчаліся, абвяшчаліся ворагамі менавіта за гэтую здольнасьць.

Грамадзтва было даведзенае да нізкага ўзроўню ведаў, да абмежаванасьці бачаньня сьвету, каб лягчэй было ім кіраваць. Для людзей не існавала іншага сьвету, апроч таго, у якім яны нарадзіліся. Іх не выпускалі за межы краіны. У сьвядомасьці такіх людзей лёгка насадзіць стэрэатыпы, спрошчанае бачаньне сьвету без духоўных каштоўнасьцяў.

Спачатку зьнішчалі тых, хто ствараў такія каштоўнасьці. Потым тых, хто ведаў ім цану і ведаў, што менавіта зьнішчаныя раней людзі іх стваралі. Калі страчвалася здольнасьць да ацэнак, тады ніхто ўжо не разумеў, што тое, што ён робіць, завецца варварствам.

### ДЭФАРМАЦЫЯ ПАМЯЦІ

Мэтаю сыстэмы быў усеагульны кантроль за дзейнасьцю й думкамі людзей. Парушаліся ўзаемаадносіны чалавека з часам. Чалавек пры гэтым губляў арыентацыю й разгубляўся.

Вобраз мінулага дэфармаваўся з пункту гледжаньня палітычных і ідэалягічных патрэбнасьцяў. Тым больш, што сьвядомасьць фармуюць ня толькі гісторыкі (якія дапамагалі містыфікаваць гісторыю), але й пісьменьнікі й публіцысты, ідэолягі й палітыкі, агітатары й прапагандысты, якія карысталіся набыткам спрэпараванай гістарычнай навукі ў духу сваіх уяўленьняў.

Як пісаў гісторык А.Некрыч, партыйная ўстаноўка заключалася ў тым, каб стварыць новую калектыўную памяць народа, дашчэнту выкінуць успаміны пра тое, што адбывалася ў рэчаіснасьці, выключыць з гісторыі ўсё тое, што не адпавядае, ці проста абвяргае гістарычныя прэтэнзіі камуністычнай партыі.

Гэтая ўстаноўка ўголас нідзе не выказвалася. У мафіёзных структурах (а партыя адпавядала такой структуры) рашэньні апранаюцца ў імглістую форму, не фармулююцца выразна. Таму нікога з завадатараў схапіць за руку немагчыма. Падначалены сам адгадвае думкі свайго шэфа, ніколі не выказваныя напрасткі.

Ачыстка калектыўнай памяці праводзілася перш за ўсё шляхам фізычнага зьнішчэньня жывых сьведкаў гісторыі. Сыстэматычны тэрор зьнішчыў паслойна інтэлігенцыю — захавальніцу народнай памяці, уключаючы ўсіх прадстаўнікоў буржуазных партый. За імі пайшлі эсэры, потым марксісты-меншавікі і, у рэшце рэшт, марксісты-бальшавікі. Пасьля гэтага пачаліся рэгулярныя чысткі сярод новага пакаленьня гуманітарыяў. І кожны раз народ пазбаўлялі ад часткі ягонай калектыўнай памяці, ад часткі ягонай гісторыі. Замест гэтага насаджалася памяць пра тое, чаго на самой справе не было, — штучная памяць.

Мінулае ці адмянялі, ці вярталі, і чалавека пакідала бачаньне ў ім трывалай апоры. Улада спыняла час, бо рух часу хаваў у сабе перамены. У чалавека скрадалі час і памяць. Было ўсё роўна, што гаварылася, што абяцалі яшчэ ўчора. Хлусьня станавілася непакаральнаю.

Толькі з упадкам камунізму мы вярнуліся ў сьвет гісторыі. Гэта можа гучаць дзіўна, бо, уласна кажучы, марксізм быў аглядам гістарычнага сьвету, пабудаваным на разуменьні чалавека, які ўпісаўся ў гістарычны працэс, і на дэтэрмінізьме, які гэтым працэсам кіруе. Але калі камунізм стаў пануючым і адзіна слушным сьветапоглядам, ён увёў сапраўдную фэадальную стабільнасьць, затрымаў гісторыю.

Г.Гэрлінг-Грудзінскі лічыць, што яшчэ навінна адбыцца апошняя, канчатковая барацьба між злодзеямі памяці і абкрадзенымі імі нацыямі, грамадзтвамі й асобамі.

# Ларыса Раманава

* * *

*На аброчным крыжы мой ручнік вісіць.*
*Не ручнік то — мая душа ляціць*
*Бліжэй к каменю, бліжэй к беламу...*

* * *

*Ізноў вясна прыходзіць.*
*І сьнег па вуліцы сплывае ў мора,*
*якое дзесь пад горадам жыве,*
*імя якому — «ўчора».*

*Заўсёды ўчора за сьпіною.*
*І я іду, нясу яго з сабою —*
*зь вясны — у лета,*
*з восені — ў зіму.*
*Няма пачатку,*
*і няма канца яму.*

*Абапал берагоў —*
*бязладзьдзе сіняй ночы.*
*І нехта тут крычыць,*
*і птушка тут прарочыць.*



*Здымак Анатоля Клешчука*

## СТРАЧАНЫ СОРАМ

**Адам Глёбус. Дамавікамэрон. — Менск-Вільня-Беласток: БАДППР, 1994.**

Ад таго часу, калі Зянон Пазьняк папракаў Алеся Гуркова першымі Глёбусавымі «дамавікамі» ў альманаху «Літаратура-1» (маўляў, нягожа нацыяналісту распаўсюджваць парнаграфічныя творы), прайшло пяць гадоў. Цэлая эпоха ў сусьветным прыгожым пісьменстве, пазначаная, з аднаго боку, глябальным усьведамленьнем таго, што *ўся рэчаіснасьць* ужо засвоеная сродкамі літаратуры, з другога — вынаходніцтвам гіпэртэксту (ад Павіча да кампутарных раманаў, дзе на кожнае слова й кожны сэнс існуе пэўнае мноства варыянтаў і вытлумачэньняў), з трэцяга — жанравым спрашчэньнем, вяртаньнем да аптымальнае празаічнае формы — показкі (перакладаючы гэтым словам «анекдот», В.Ластоўскі меў на ўвазе не сучаснае значэньне (досьціп, пікантны жарт, трапны зьдзек), а колішняе — кароткі «вусны» аповед, выкладзены на паперы). 66 показак Глёбуса, трапляючы ў гэткую агульную жанравую заканамернасьць, сьведчаць адначасова, што беларуская літаратура толькі пачынае зазіраць у жывую рэчаіснасьць, за межы свае вузкае сацрэалістычнае рэзэрвацыі.

Людзі кажуць: не для газэты, не для дзяцей, не для чужых вачэй, — і робяць усім вядомыя рэчы, перажываюць усім вядомыя сытуацыі й пачуцьці. Людзі спакушаюцца, займаюцца фізычным каханьнем, ходзяць у прыбіральню, п'юць гарэлку, ванітуюць, пакутуюць у родах, па-ўсякаму паміраюць... І ўсе гэтыя праявы чалавечага існаваньня ня менш уплываюць на асобу чалавека, чым праца каля станка ці змаганьне з фашысцкім ворагам. Назавем гэтую *тыповую* сфэру чалавечага існаваньня прыблізным словам «інтым». Інтым — гэта ня толькі сэкс, але ўсё, пра што гаворыцца *давяральна*, г.зн. шчыра. Гэта і ёсьць уласна шчырасьць — давяральная размова пра патаемнае й сарамяжнае. Такой давяральнай размовы й шукае чытач у літаратуры. Калі ж браць беларускае прыгожае пісьменства, дык там шчырасьць, як правіла, — гэта пафасны альбо сэнтымэнтальны тон, ня больш. Г.зн., што ўласна шчырасьці ў беларускай літаратуры няма.

Іншая рэч — літаратура замежная, ад Бакача да Мілера. Мы чытаем яе, суперажываем, задумваемся пра сваё жыцьцё, але яе аддаленасьць — геаграфічная, моўная, часавая, сацыяльная, нацыянальная — дазваляе нам як бы захоўваць уласную цнатлівасьць. Нават калі гэта перакладзены на беларускую мову Сартр: тут «страчвае сорам» толькі мова, а ня мы самі. Хоць заўважым, што калі мова «страціла сорам», інакш кажучы, спазнала шчырасьць, — то ў гэты момант яна выказала сваю поўную здатнасьць да жывога жыцьця.

У 66-ці показках Глёбуса няма нічога анамальнага, вычварнага, спэцыфічнага (парнаграфічнага), аўтар не пераходзіць мяжу тыповага. Ён разбурае табу беларускай савецкай літаратуры, але пры гэтым застаецца ў межах прыгожага пісьменства, разам зь героямі й рэаліямі, якія добра вядомыя кожнаму беларускаму пісьменьніку, але пра якія ня піша беларуская літаратура.

За гэтыя пяць гадоў ніхто на Беларусі не стварыў гіпэртэкст. Але тое, пра што я пішу, здаецца, для нас ня менш істотнае. Я маю на ўвазе прызнаньне нармальнасьці нармальнага — таго, за што ў 1989 годзе Зянон Пазьняк папракаў Алеся Гуркова.

Крыт.

# ЖАЛОБНЫ МАРШ

*Працяг са старонкі 1*

сваіх вучняў і падначаленых і разгублена, крышку зьдзіўлена ўсьміхаўся поўнымі вуснамі-кіўбаскамі.

Не далі пабіцца хлопцам альтыст з басістам — стаялі між імі й слухалі лаянку... Так і не абралі ў тыя дні музыкі сабе кіраўніка.

А перад самым пахаваньнем цельпукаваты й няўклюдны Васіль Маршын зьнёс трубу свайго канкурэнта — і ня змог Віцька Жытнік граць на пахаваньні, а толькі глуха й незадаволена бухаў у вялізны барабан і шалёстка ляскаў літаўрамі. Ня клеілася музыка, не атрымоўвалася жалобных уздыхаў у каманды «жмуравікоў», уздыхаў, пад якія лёгка ліюцца сьлёзы й спакайней б'ецца сэрца...

Не атрымлівалася музыкі — і не магло атрымацца, бо не было паразуменьня й суладнасьці, безь якіх ня можа йснаваць аркестар.

Калі адгучалі прамовы, і зямля схавала ў халоднай глыбіні чырвоную труну, а людзі пачалі разыходзіцца й пакідаць засьнежаныя могілкі — спыніў іх высокі й чысты голас трубы. Каля часовага кумачовага помнічка, які патанаў у стракатых вянках парафінавых кветак, стаяў, шырока расставіўшы ногі і ўзьняўшы трубу, як тую бутэльку, Васіль Маршын... І гучала музыка Шапэна, але ня ў звыклым выкананьні каманды «жмуравікоў», а па-сапраўднаму, так, як мог граць кароль тапляцоўкі — Васіль Маршын.

Спалохаліся людзі й зьдзівіліся басіст з альтыстам, і ціха дакрануліся адна да другой медныя талеркі, падхапіў мэлёдыю альт, а за ім бас, і падтрымаў іх вялікі барабан...

А на саракавіны, відаць, перавярнуўся ў труне Лявон Боршч, бо на могілках пабіліся Васіль зь Віцькам, павыбівалі зубы, павыдзіралі валасы й бакенбарды, якія хлопцы пасьпелі адгадаваць, каб нагадваць настаўніка й выглядаць больш паважна... паадрывалі гузікі на вопратцы й звалілі помнічак, бо качаліся па вянках і капцы, як мядзьведзі...

Першы прыбег у пакойчык аркестра Віцька Жытнік. Акрываўлены, зь пенай на вуснах, схапіў Васілёву трубу, бразнуў яе аб падлогу й пачаў таптаць, як парожнюю кансароўку, як ненавіснага ворага, як бліскучую зьмяю...

А каштавала тая труба вялікія грошы, здаецца, ці ня трыста рублёў аддаў за яе Васіль ленінградзкаму джазісту.

Была яна даўняй Васілёвай марай — марай, якая зьдзейсьнілася.

Аднойчы ў школе, здаецца, у чацьвертай клясе, а можа ў пятай, выклікала Васіля да дошкі настаўніца сьпеваў і прымусіла прасьпяваць нейкую рэвалюцыйную песьню...

Васіль быў сарамлівы й зацяты падлетак, а пра тое, што ён можа сьпяваць, ніхто не падазраваў. Настаўніца ўзяла акардыён, разьвяла мяхі й пачала граць. Васіль маўчаў. Настаўніца паўтарыла ўступ. Васіль моўчкі крывіўся. Настаўніца разззлавалася, а ён сказаў, што яна няправільна грае, і таму пад такі акампанэмэнт сьпяваць нельга.

Кляса зьнерухомела й сьцялася ў напружаным чаканьні скандалу. Дзяўчаты апусьцілі вочы, а хлопцы пахавалі рукі пад парты.

— Ты жартуеш? — прасіпела настаўніца.

— Не жартую. Вы няправільна граеце...

— А калі ты такі разумны, то пакажы, як трэба! — яна бразнула акардыён на стол. — Ну, я чакаю! — у голасе гучала такая пагроза, што ў мяне па сьпіне пабеглі мурашкі.

— Я ня буду граць, я пасьвішчу...

— Што?

Васіль апусьціў вочы й пачаў насьвістваць рэвалюцыйны марш.

Ён прасьвістваў той марш ад першага да апошняга такту. Ён прыстукваў далонямі па стале, прытупваў, прыкрываў далоньню рот і пашчоўкваў пальцамі.

Здавалася, што грае сапраўдны аркестар: чуліся галасы флейтаў, геліконаў, альтаў, чуліся нават літаўры — гучала музыка.

Настаўніца страціла мову й колькі хвілінаў маўчала, засяроджана разглядаючы свае чаравікі.

— А што ты можаш яшчэ?

— Магу «Песьню індзейца», магу «Пахавальны марш».

«Песьню індзейца» мы пачулі, а вось ад Шапэна настаўніца адмовілася.

Гэта яна завяла Васіля ў музычную школу, дзе на той час вучыўся Віцька Жытнік, які марыў пра саксафон, джаз, белы зь іскрамі строй, лякавыя чаравікі, аркестар, ярка асьветленую сцэну, на якой ён, Віктар Жытнік — саліст.

Але давялося ім граць у музычнай школе не на бліскучых трубах, бо не было такіх выкладчыкаў, а на баянах, і хадзілі падлеткі па гарадку, згінаючыся ад цяжару футаралаў-скрынь.

Дырэктар музычнай школы заўсёды незадаволена моршчыўся, калі яго вучні сьпяшаліся пасьля заняткаў у аркестар Палаца культуры да Лявона Баршча. А вось той адчуваў, што падабаецца падлеткам, ведаў іх патаемныя мары і памкненьні й дазваляў граць на тых інструмэнтах, якія хлопцы абіралі самі.

І Васіль, і Віцька з радасьцю схапілі срэбныя трубы й пачалі перавўчвацца.

Між імі пачалася нябачная барацьба за лідэрства ў духавым аркестры.

Лявон Барталамеевіч гэтым ганарыўся, бо ў душы быў пэдагогам, але спаборніцтва стрымліваў і скіроўваў на больш настойлівыя заняткі. Праз якія два гады ён ужо браў маладых трубачоў на пахаваньні.

А пасьля войска хлопцы гралі на танцах, на вясельлях, больш — на «жмурах». Заўсёды яны былі пры справе, пры грашах і нападпітку —бо нябожчыкі зьяўляліся калі не ў гарадку, то побач — у суседніх мястэчках ці вёсках, так што бяз працы аркестар не сядзеў...

Пасьля першай бойкі Віцька адкупіўся ад Васіля залатым пярсьцёнкам з чырвоным каменьчыкам. Адкупіўся праз музыкаў, а сам з аркестру сыйшоў, бо не даравалі яму той зьнішчанай трубы, абразаў і таленту. Дый сапраўды, ня могуць існаваць адначасова два роўныя таленты ў маленькім аркестрыку.

Жытнік зьехаў у Менск, граў у нейкім рэстаране, потым пры пахавальным бюро, але там ён ня быў першы й таму ня вытрымаў і вярнуўся...

Прыехаў не адзін — прывез змрочнага, злоснага «баксёра» з крывавымі вачамі — такіх крываногіх сабак у гарадку не было.

Віцька хадзіў па вуліцах, а побач пазвоньваў ланцугом Джэк і кідаўся на кожнага, хто набліжаўся да гаспадара. Нават вахцёрка не змагла, а хутчэй збаялася затрымаць Жытніка, калі ён з сабакам зайшоў у Палац культуры й падняўся па мармуровых сходах у пакойчык духавога аркестру.

Віцька зьдзекваўся з Васіля Маршына. Джэк злосна гыркаў і хрыпеў, ірваўся з ланцуга. Музыкі ціснуліся да сьцен і прыкрывалі трубамі й футараламі ніз жывата.

Потым Віцька навязаў Джэка да радыятара, выцягнуў з кішэні пляшку армянскага каньяку й прапанаваў выпіць. Музыкі пагадзіліся й выпілі, пасьля выпілі яшчэ й яшчэ, бо дзень быў вольны — «жмура» на сёньня не прадбачылася, а танцы ў гарадку ладзілі па суботах і нядзелях. Сядзелі да позьняга вечара і, здавалася, памірыліся. Успаміналі Лявона Барталамеевіча, школьныя гады, пахаваньні, вясельлі й танцы. Джэк гучна жаваў ліверку, якую шчодра кідалі на падлогу лагодныя мужчыны, зрэдку незадаволена гыркаў і спр бабаў грызьці мэталёвы ланцужок.

А праз дзень, калі Віцька Жытнік прыйшоў граць «жмура», аказалася, што музыкі зьехалі гадзіну таму, па яго ніхто не зайшоўся. Віцька пакрыўдзіўся, раззлаваўся й разам з Джэкам перастрэў п'янаватую каманду на ганку Палаца культуры.

Бойка адбыла на пляцы — імгненная й жорсткая. Віцьку павалілі, заламалі рукі й пачалі мясіць нагамі. Можа, яго й забілі б, але Джэк, навязаны да афішы з запрашэньнем на танцы, парваў ланцуг і кінуўся на дапамогу гаспадару. Сабаку музыкі ў разьлік ня бралі, бо не заўважылі: было цёмна, а ліхтары, як заўсёды, не працавалі.

Джэк моцна пакусаў Васіля Маршына й немаладога барабаншчыка — Антона Пігулеўскага.

## БАІМСТВА ЖЫЦЬ

Раўналежнасьць Беларусь—Ірляндыя сёньня калі не актуальная, то прынамсі, вельмі папулярная. Вось і на вокладцы гэтай кніжкі зьмешчаныя абрысы радзімы піва «Гінэс».

На слова «выспа» кожны чалавек мае сваю сталую асацыяцыю. Для некага гэта Эйрэ, для іншага — Таймыр. Выспа Міры Лукшы — Беластоцкі край.

У кніжцы дзевяць апавяданьняў. Страшных апавяданьняў. Чытаючы іх, разумееш, што беларуская літаратура нарэшце адчула набліжэньне канца стагодзьдзя, больш за палову якога яна правяла ў салодкім ідылічным сьне. Прачнулася, пабачыла рэальны стан рэчаў і спужалася. Паніка — вось асноўная прыкмета веку, які праз колькі гадоў мусіць пакінуць нас.

Апавяданьні Міры Лукшы не вызначаюцца асаблівай напружанасьцю сюжэту або стылістычнымі вышукамі. На першы погляд, звычайная шараговая беларуска-савецкая кніга пра вёску. Толькі вось яе стрыжань... сьмерць. Сьмерць працінае гэтыя крыху наіўныя й шчырыя творы.

**Міра Лукша. Выспа. Апавяданьні. Беласток, 1994, 60с.**

Старыя паміраюць ад старасьці. Моладзь проста баіцца жыць і ні ад каго (ад сябе ў тым ліку) гэтага не хавае. Маладыя баяцца зьехаць у іншы сьвет, баяцца ўзяць на сябе адказнасьць даць жыцьцё іншым. З гэтага панічнага страху шукаюць выйсьце. Адзінкі парываюць гэты вузел самагубствам. Але гэта адзінкі. Эгаісты. Астатнія працягваюць жыць далей, ня ведаючы, як пераступіць накрэсьленае крэйдай кола, не жывуць — топчуцца на адным месцы. Ніякага руху, ніякага разьвіцьця, нават — імітацыі.

Не абыйшлося тут без просталінейнага нацыянал-рэалізму. У апавяданьні «Коця-Коця» хлопец і дзеўка, што маюць адзін да аднога самыя што ні ёсьць цёплыя пачуцьці, застаўшыся сам-насам, пачынаюць размаўляць пра беларускую культуру.

Гэты эпізод выклікае ўсьмешку. Але гэта толькі эпізод.

Чым далей наш каляндар будзе набліжацца да лічбы 2000, тым больш на нашых кніжных паліцах будзе зьяўляцца кніг, напоўненых фаталізмам.

Андранік

## НОВАЯ КНІЖКА

Плынь гістарычнай фактуры, што абрынулася на беларускага чалавека, ужо робіць яго неўспрымальным да такой інфармацыі. Час, калі чыталі ўсё «па гісторыі», пераходзіць у час калі «па гісторыі» не чытаюць нічога. Спрыяе гэтаму й адсутнасьць у масавага чытача сыстэмы ўяўленьняў аб гісторыі (у дадзеным выпадку — аб гісторыі Беларусі).

**Лойка П.А. Гісторыя Беларусі: Вучэбны дапаможнік для 7-е клясы сярэдняй школы / У аўтарскай рэдакцыі. — Менск: Народная асьвета, 1993. — 191 с.**

Нейкая важная зьява можа быць не заўважаная ўвогуле, калі яна не сэнсацыйная. А прапанова чарговага агрэсіўнага сюжэту зьнішчае адчуваньне экстрэмальнасьці тае падзеі. І праўда, калі найбольш пісаць пра справядлівыя войны, іх урэшце рэшт можна перакруціць — і будзе «іншая» справядлівасьць. Такім чынам, паўстае праблема тае трансляцыі гістарычнай веды, што робіць вартасным успрыняцьце гэтай інфармацыі. Сыстэма трансляцыі ёсьць дынамічнаю сыстэмаю, але дзейнічаць яна пачынае на базавых узроўнях. Гэта значыць, з народнай адукацыі.

Адчуваецца, што Павал Лойка мусіў выбіраць з трох магчымых прынцыпаў аповеду:

— праз падзеі (уласна храналягічна);
— праз асобы;
— праз мастацкае асэнсаваньне.

Аўтар жа вырашыў спалучыць усе гэтыя прынцыпы й таму стварыў складаную тэкставую структуру. У лінейны храналягічны аповед зроблены аўтаномныя ўстаўкі: «Галасы мінулага» (цытаваньне аўтэнтычных дакумантаў), «Постаці гісторыі» (кароткія біяграфіі), «Вачыма пісьменьніка». Тое, як гэта выглядае ў тэксьце, можна лічыць аўтарскім вынаходніцтвам.

Традыцыйна для новай беларускай гістарыяграфіі вялікая ўвага нададзена тэрміналёгіі. Ужо зацятай спрэчкі «Літва — Летува» аўтар пазьбягае праз вяртаньне й актыўнае паслугоўваньне тэрмінам «літвіны» ў дачыненьні да супольнасьці ВКЛ. «Літоўцы» разумеюцца хутчэй «па-сёньняшняму». Такіх «патэнтаваных» прапаноў Павал Лойка робіць нямала: ВАЕННА-АБАРОНЧАЕ АБ'ЯДНАНЬНЕ зямель ВКЛ у XIII—XIV стст. і ДЗЯРЖАЎНА-ПАЛІТЫЧНАЕ АБ'ЯДНАНЬНЕ грамадзтва Вялікага Княства ў XV—XVI стст.; вызначэньне перыяду канца XVI — першай паловы XVII стст. як часу РАЎНАВАГІ СІЛАЎ і ПЕРАХОДНЫ ПЕРЫЯД ад часоў дамінацыі ва Ўсходняй Эўропе ВКЛ у XV—XVI стст. да панаваньня Расеі, «якое пачалося ў XVIII ст. і захоўвалася да нашых дзён». Выкладзеныя ў сыстэме Вучэбнага дапаможніка для 7-е клясы, гэтыя прапановы набываюць навізну й дазваляюць пазбавіцца фаталістычных паглядаў марксызму на гістарычны працэс. Затое даюць адчуваньне дынамізму.

Усё ж трафарэтнаю апынулася частка тэксту аб Адраджэньні й Гуманізме XVI — пачатку XVII стст. — «адбываецца адрыў ад сярэднявечча ва ўсіх сфэрах чалавечага жыцьця,.. ідзе пераацэнка каштоўнасьцяў». За гэтым сьцьверджаньнем хаваецца разуменьне прагрэсу як працэсу Хуткасьці. Мы ж скажам, што нам важнае — мінімалізацыя стратаў.

Асобны сюжэт з гісторыі дадзенай кніжкі — напады на яе ў цяперашнім Вярхоўным Савеце. Досыць рэдка падручнікі робяцца прадметам экзальтаваных прамоў у парляментах. Што ж выклікала такія атакі? Павал Лойка наўмысна імкнуўся вытрымаць балянс, зусім ня зьвёўшы гісторыю Беларусі да супроцьстаяньня з Масковіяй. Падобна, што камуністых найбольш напалохала тое, як гісторыя Беларусі апынулася па-за расейскім абшарам, як яна пачала разглядацца на школьным узроўні ў рэгіянальным кантэксьце.

---

Да наступнага навучальнага году кніга выходзіць як паўнавартасны падручнік. А пакуль яна ўжо згадваецца сярод «лепшых беларускіх кніжак паваеннае пары» ў анкетаваньні «НН» «Беларуская гістарыяграфія 1945-1991, 1992-1994».

Алег Дзярновіч

Акрамя ўсіх непрыемнасьцяў, якія пачаліся на наступны дзень, Васіля й Антона прымусілі штодня хадзіць у бальніцу, дзе на працягу месяца ім рабілі балючыя ўколы ў жываты, бо й дактары, і музыкі думалі, што «баксёр» Джэк — шалёны.

Бойка на пляцы была другой і апошняй. Духавы аркестар сабраўся празь месяц і яшчэ паўгода граў на пахаваньнях. А потым высьветлілася, што ў Васіля Маршына — язва страўніка. Відаць, таннае віно, самагонка й цыгарэты зрабілі сваю справу. Васілю зрабілі адну апэрацыю, а праз два месяцы — другую й апошнюю. Ён паміраў цяжка: ссох, шырокі твар зрабіўся дыктавы, валасы вылезьлі так, што здавалася — на падушцы ляжыць чэрап з вушамі. Васіль плакаў і не хацеў паміраць... А за дзень да сьмерці паспакайнеў, прасіў, каб на яго пахаваньні граў на трубе толькі Віцька Жытнік. Як ён прасіў — так і зрабілі...

Віцька плакаў і граў Шапэна... А пасьля таго пахаваньня ніколі больш ня браў у рукі трубу. Кінуў музыку й пайшоў працаваць на завод — «круціць гайкі», бо нехта павінен займацца й гэтым.

Я не лічыў і не лічу, як музыкі з духавога аркестру, што Віцька звар'яцеў, але нешта ў ім зьмянілася.

Зімой Віцька завёў свайго Джэка да скарняка Дышлевіча й за дзьве пляшкі гарэлкі замовіў зімовую шапку.

Ён сказаў, што Джэк хворы й хутка здохне, а ён вельмі да яго прывязаўся й хоча мець памяць.

Кульгавы Дышлевіч зрабіў адмысловую шапку, і яшчэ той зімой Жытнік хадзіў у ёй па гарадку.

Людзі дзівіліся, крадком паказвалі на яго пальцамі, але ўголас нічога не казалі — баяліся...

Праўда, былі й такія, хто пляваў усьлед Жытніку й наракаў на ягоную нялюдзкую жорсткасьць...

Віцька папраўляў шапку-вушанку, кідаў у адказ: «Нічога вы не разумееце...» — адварочваўся й павольна крочыў па сваіх справах.



## «АПОШНІ» ЎСХОДНЕ-ЭЎРАПЕЙСКІ ПРАЕКТ ІМПЭРЫІ

**Lietuvos Metrika — Lithuanian Metrika — Литовская Метрика. — Vilnius: Mokslo ir enciklopedijų l-kla, 1994 —. Kn. 5: (1427-1506): Užrašymų kn. 5. — p. 402. ISBN 5-420-01071-2.**

На сканчэньні 70-х гадоў XX ст. была сфармуляваная міжнародная навуковая праграма па публікаваньню кніг Мэтрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Удзел бралі бакі — ПНР і СССР. Апошні быў прадстаўлены навуковымі цэнтрамі — Масква, Вільнюс, Кіеў, Мінск. Уласна навуковыя інтарэсы няшмат што значылі — такое рашэньне магло прымацца на ўзроўні не ніжэй ідэалягічнага аддзела ЦК КПСС. Гэты праект мусіў «канчаткова» ў гістарычным сэнсе сьцягнуць Усходнюю Эўропу, пераўтварыць яе ў нешта зусім аднароднае, г. зн., зьнішчыць. Маўляў, глядзіце, якая славянская мова, якая кірыліцкая графіка! — і на ўвесь рэгіён адна! Гэта ўсё расейскі цывілізацыйны абсяг!

Між тым Мэтрыка звычайна знаходзілася ў цэнтры ўвагі цэнтралісцкіх схем. Калі надыйшоў час замацаваць этнапалітычную аднароднасьць Рэчы Паспалітай, архіў канцылярыі ВКЛ, ведамы пад назваю «Літоўская Мэтрыка» (ці ў арыгінале — Мэтрыка Вялікага Княства Літоўскага) быў перавезены да 40-х гадоў XVIII ст. зь Вільні ў Варшаву. Пасьля ўзяцьця 29 кастрычніка 1794 г. расейскімі войскамі Варшавы камандуючы А.В.Сувораў атрымаў імпэратарскі загад перавезьці ўсе агульнадзяржаўныя архівы ў Санкт-Пецярбург. Згодна з артыкулам IX Мірнай дамовы паміж Літоўскай Рэспублікай і РСФСР ад 12 ліпеня 1920 г., Літва мусіла атрымаць з Масквы ўсю спадчыну ВКЛ, вывезеную расейскім урадам. Але ж Мэтрыкі літоўцы так і не дамагліся. Частку фондаў усё ж атрымала Польшча, калі ў 1923 г. сумесная расейска-ўкраінска-польская камісія пастанавіла зрабіць гэта.

Рэалізацыя савецка-польскага праекту публікацыі Мэтрыкі прасоўвалася досыць марудна. З таго часу (з канца 70-х) толькі палякі мелі канкрэтныя вынікі: Анджэй Рахуба ў 1987 г. апублікаваў Кнігу рэгістрацыі прывілеяў 1709—1719 гг., якія выдаваліся канцылярыяй ВКЛ (так званая Кніга сігілят), а ў 1989 г. — Рэестар падатку з дыму Віленскага ваяводтзва 1690 г. Арыгіналы гэтых дакумэнтаў знаходзяцца ў Варшаве. Уласна Мэтрыка ВКЛ і цяпер ляжыць у Маскве й добра вядомая пад назваю Фонд № 389 Цэнтральнага дзяржаўнага архіву старажытных актаў Расейскай Фэдэрацыі. Беларусы здолелі атрымаць мікрафільмы гэтага фонду, і толькі са студзеня 1994 г. Мэтрыка стала даступнаю дасьледнікам у Менску. Літоўцы таксама зрабілі копіі й рыхтавалі археаграфічную публікацыю. 10 апошніх гадоў жыцьця гэтым займаўся Эгідыюс Банёніс (Egidius Banionis), прозьвішча якога (таксама як і прозьвішча ягонага бацькі-актора) па-расейску непісьменна перадаюць як «Банионис». Па-беларуску (гл. «Беларускі гістарычны часопіс», №1 за 1994) калькуюць з расейскай і пішуць «Баніёніс». Ужо ў шпіталі Э.Банёніс вычытаў першую карэктуру Кнігі запісаў Літоўскай Мэтрыкі № 5, што была падрыхтаваная да друку.

Нельга сказаць, каб зусім нічога не рабілі паўднёвыя суседзі. Кніга запісаў № 13 практычна падрыхтаваная беларускім дасьледнікам В.Мянжынскім. Але мы ня ўпэўненыя, што яна можа зьявіцца бліжэйшым часам. Цэлы Інстытут археаграфіі дзейнічае на Ўкраіне, хутка можна будзе чакаць іхняй прадукцыі. Але віленскае выданьне стала першым выданьнем Мэтрыкі адным з былых савецкіх удзельнікаў міжнароднага праекту (дакладней, суб’ектаў праекту стала значна больш).

Тое, што кніга рыхтавалася ў рамках менавіта дадзенага праекту, вызначыла панаваньне ў Археаграфічнай прадмове й даведачным апараце расейскай мовы. Па-расейску перакладзеныя й лацінскія дакумэнты. Падобна, у будучыні тэксты прадмоваў будуць ствараццца па-ангельску (плюс адна мова рэгіёну). Сёньня ж кніга стала даступнаю для карыстаньня ўсімі нашчадкамі ВКЛ.

Сама структура выданьня была дастаткова падрабязна распрацаваная й жорстка вызначаная ў кнізе, якая выйшла ў 1985 г. у Вільні — «Методические рекомендации по изданию и описанию Литовской Метрики». Уся даведачная частка максымальна стандартызаваная — для загалоўкаў дакумэнтаў указана нават, у якім склоне павінна быць тое ці іншае слова. На вокладцы значацца дзьве лічбы «5". Адна зь іх інфармуе, што гэта Кніга запісаў № 5. Але другая »пяцёрка" сведчыць аб працягу нумарацыі выданьня Мэтрыкі яшчэ ад публікацый пачатку XX ст., калі выйшла чатыры кнігі архіву канцылярыі ВКЛ. Такая скразная нумарацыя — адзін з прынцыпаў праекту.

Самае ж галоўнае, што ўсе дакумэнты друкуюцца на мове арыгіналаў, і неяк сама адпадае праблема іх культурнай ідэнтыфікацыі. Тут адчувальныя й падыходы самога Э.Банёніса — у літоўскай анатацыі пазначаныя мовы, на якіх ёсьць тэксты ў кнізе, у тым ліку «sen. balt.», што значыць «стар. бел.» Гэтая кніга так і ня стала ілюстрацыяй да імпэрскага сюжэту. Увесь рэгіён загаварыў на «sen. balt.»

Мэтрыка — цікавы прыклад грамадзкага кнігаабмену. Літоўскія кніжкі ўжо тры гады не трапляюць на Беларусь. Але ў Менску ёсьць ужо шмат людзей, каторыя маюць менавіта гэтае выданьне.

Алег Дзярновіч

## «ТАТАРЫ ІЎЯ ПРАЦУЮЦЬ У КАЛГАСЕ»

**А.І.Лакотка. Бераг вандраваньняў ці адкуль у Беларусі мячэты. — Менск: Навука і тэхніка, 1994. 96 с.**

Фэномэн ісламу ў Беларусі, нягледзячы на маргінальнасьць, вабіць дасьледнікаў. Не паставіла тут кропку і зьместоўнае выданьне «Беларускія татары: мінулае і сучаснасьць» С.Думіна і І.Канапацкага. Наадварот, зьявілася патрэба ў спэцыялізаваных выданьнях па гісторыі, мове, тэалёгіі... Зварот дасьледніка драўлянае архітэктуры А.Лакоткі да ісламскага дойлідзтва ў Беларусі стаў лягічным працягам старое сэнтымэнтальнае традыцыі.

На 96 старонках можна было б распавесьці пра ўсе беларускія мячэты, хаця б мімаходзь спыняючыся на краязнаўчых цікавостках. Ад спэцыяліста ў архітэктуры можна было чакаць пераліку помнікаў, раскрыцьця іх стылёвых асаблівасьцяў, параўнаўчага аналізу.

Аўтар пачынае ад Чынгісхана, нагадваючы экспрэсыўнай лексыкай вядомыя раманы В.Яна. Чатыры з васьмі разьдзелаў — гэта спроба распавесьці пра антрапалёгію і прагісторыю ледзь ня ўсёй Эўразіі, пра Батухана, Мухамеда, Яна III... Нарэшце сьцьвярджаецца, што «... татары Беларусі зьяўляюцца продкамі кіпчацкіх плямёнаў Паўночнага Прычарнамор’я, Крыма, а таксама некаторых народнасьцяў Сярэдняй Азіі», а «іслам запазычылі... у туркаў». Зь незразумелай радасьцю аўтар паведамляе, што «татары Іўя працуюць у калгасе», а згуртаваньне татараў Беларусі наладжвае «шырокія сувязі з суайчыньнікамі» (па Залатой Ардзе?).

Але вось і мячэты... Пасьля хрэстаматыйных зьвестак пра мусульманскія бажніцы наогул зьмешчаны пералік мячэтаў ВКЛ. Але — ні ў храналягічным, ані ў альфабэтным парадку. Пасьля бажніцаў, што былі да 1795 г., пераходзім у... 30-я гады XX ст.

А вось і аналіз мастацтвазнаўчы. «Асаблівасьцю мячэтаў Беларусі й Літвы быў падзел унутранай прасторы на дзьве часткі: мужчынскую і жаночую». На думку аўтара, гэта «асаблівасьць». Але ж адсутнасьць такога падзелу рэдка сустракаецца ў мусульманскай практыцы ўвогуле.

Аўтар угледзеў у Іўейскім мячэце «зухаватасьць», адценьне «узорнасьці» (?). Што тады можна было б сказаць пра мячэт Мухамада-Алі ў Каіры? «... мінарэты праз зыходныя прапорцыі і формы званіц... набылі дадатковы дынамізм, узьнёсласьць», — піша А.Лакотка. А хіба мінарэты на Ўсходзе былі дзе-небудзь статычныя і прыземленыя?

Наогул, кніга выйшла мала прыдатная для спэцыялістаў ня толькі праз блытанасьць аповеду (як і ілюстрацыйнага дадатку, дзе здымак Іўейскіх татараў пач. XX ст. трапіў паміж выявамі каірскага і кардоўскага мячэтаў), прэтэнзію на ўсеабдымнасьць, але і праз інфармацыйны перакос у бок толькі двух, няхай сабе і вельмі значных, помнікаў — Даўбуцкага і Іўейскага мячэтаў, а таксама праз адсутнасьць сур’ёзнага навуковага апарату. У бібліяграфіі не знайшлося месца артыкулу самога А.Лакоткі ў часопісе «Мастацтва», працам І.Луцкевіча, Я.Станкевіча, А.Антановіча, згаданай кнізе «Беларускія татары...» і нават Карану. Ці энцыкляпэдыя «Скарына і яго час» тут прыдатная больш?

Фундамэнталіст

# ПАЛАЦ

*Працяг са старонкі 2*

мог уратавацца, да таго ж калектывісцкая «каробачная» архітэктура сапраўды стварыла новага чалавека, які ахвотна страляў.

### БАГЕМА

Сацыялістычная мадэль прымітыўна-лягерная: рабочыя й сяляне працуюць, нічым не валодаючы, інтэлігенцыя (таксама безь нічога) арганізуе іхнюю працу і ўслаўляе яе. «Вярхушка» сочыць, каб іншадумцы ў час ізаляваліся або адстрэльваліся.

Адно з галоўных у мадэлі — яе нязьменнасьць, застыласьць, блізкасьць да сьмерці, паколькі найболыш лаяльнымі да нязьменнасьці й застыласьці заўсёды былі мерцьвякі.

Таму наша багема не зусім тое, што ў іншых краінах. У часы самага багемнага стану маёй душы мне цяжка было параўноўваць сябе, напрыклад, з бадзякамі Манмартра.

Мы ніколі ня мелі такой, як у іх, лёгкасьці да перамены месцаў, бо ў краіне жорстка вытрымліваўся рэжым прапіскі.

Тая самая француская багема жыве як бы бяз продкаў. Пакідаючы грамадзтва, яна пакідае й бацькоў. Мы, наадварот, любілі сваіх бацькоў. І ў мяне, і ў Баброўскага, і ў Міколы Трухана — тэатральнага рэжысэра яны былі й ёсьць, што называецца, ад зямлі. Не ад сыстэмы. Чалавек, мала зьвязаны з сыстэмай і яе лягернай ідэалёгіяй, успрымаўся тады як бясспрэчна сапраўдны.

У Францыі багема рашуча адмаўляецца ад дзяржаўнай службы. Мы не адмаўляліся, бо гэта, зноў жа, азначала крымінал.

Не лічылі мы сябе, у адрозьненьне ад бадзякаў з Манмартра, вялікімі геніямі.

То, можа, мала падставаў гаварыць пра багему?

Тады цяжка растлумачыць стан душы.

Нейкія падставы ёсьць.

У нашых умовах нават людзі з прэтэнзіямі на багемнасьць жылі, хоць бы часткова, двайным жыцьцём.

На працы мы выглядалі дзяржслужачымі з усімі зьнешнімі атрыбутамі «саліднасьці», пасьля ж як бы зьдзіралі зь сябе ўніформу, запівалі й наогул разбэшчваліся. Менавіта таму ўжываю слова «багема», што амаль усе нашыя спробы нешта зрабіць у літаратуры й мастацтве замыкаліся на дзённым жыцьці, на імкненьні ўшчаміцца ў дэпартамэнты літаратуры й мастацтва. Сыстэма ня дужа прапускала, «адчуваючы» ня тое, каб зусім нелаяльнасьць, а не зусім лаяльнасьць. Крыху й пускала... Наша ж вечаровае, начное жыцьцё мала пераліваласа ў творчасьць, больш зацыклівалася на размовах, п’янках, прыгодах. Па вечарах і начах мы не андэграўнд рабілі, а стваралі самы галоўны, самы геніяльны твор багемы — яе саму.

Яшчэ адно сіло сыстэмы: пакуль зразумееш, што літаратура й мастацтва маюць вельмі малое дачыненьне да літаратуры й мастацтва, а андэграўнд бліжэй да іх, — усё, маладосьць прайшла.

Без Баброўскага й Трухана я ў Гомлі больш бы пісаў. Калі б не звар’яцеў ад адзіноты.

.........................................................................

Ёсьць спакуса ўспомніць што-небудзь вясялейшае. Як пілі пасярод Сожа — бутэлькі й шлянкі стаялі на пенапластавай пліце, а мы плавалі вакол яе, утрымліваючы кожны ў руцэ па піражку. Як зьбіраліся наняць цыганоў зь гітарамі й справіць дзень нараджэньня Баброўскага на чаўнах. Як правялі «парад» на цэнтральнай плошчы. Трухан узыйшоў на трыбуну, міма яго прамаршавала адна калёна, другая... Баброўскі камандаваў «парадам» і аднačасова, як мастак, афармляў калёны — былі пакінутыя пасьля параду транспаранты.

Трухан выкрыкваў лёзунгі за партыю, за салідарнасьць працоўных. Раптам зьявіўся міліцыянт — да Трухана. Той павярнуўся:

— У чым справа, таварыш міліцыянт?

— *Вы нарушаете общественный порядок. Я вам счас, бля...*

Яшчэ адзін з нашай кампаніі ўзьлез на трыбуну:

— Хто тут брыдкасловіць?

Падняўся й Баброўскі:

— Чаму парушаеце субардынацыю, старшына?

Пасьля слова «субардынацыя» міліцыянт «извиникнул» і пайшоў сваёй дарогай.

У рэшце рэшт успамінаць пра тое, як некалі было вясёла, даволі сумна...

### ЦЕНІ АВАКУМА Й НІКАНА

Расейскі раскол XVII стагодзьдзя пачынаўся з рэвізіі Ніканам царкоўнага абраду. Гэта — на паверхні, у глыбіні ляжала іншае. Паводле Ключэўскага, многія сьцьвярджалі тады, што «вычарпаны запас творчых сіл народа й дамарослага разуменьня, што даўніна ня дасьць прыгодных урокаў для сучаснасьці, і таму ў яе нечаму больш вучыцца, за яе нечага больш трымацца».

Паварот часткі расейцаў да Захаду быў спробай вырашыць унутраны расейскі крызыс. Супраць тых, хто застаўся з Авакумам, на пазыцыях даўніны, «свайго Усходу», улады разгарнулі рэпрэсіі. Многія стараверы, пераадольваючы мяжу Расейскай дзяржавы й Вялікага княства Літоўскага, эміграваліі. На Гомельшчыне іх прыцягвалі густыя лясы, невялікія падаткі і, як сказалі б мы сёньня, талерантнасьць уладаў. Адно з пасяленьняў старавераў узьнікла ў паўвярсьце ад гомельскага замка (яшчэ не палаца) і называлася яно Слабадой.

Удумаемся, які тут парадокс! Людзі з арыентацыяй на «свой Усход» уцякалі да нас. Фактычна, сэнс гэтай зьявы адваротны: стараверы не ўцякалі, а ўмацоўвалі свае перадавыя рубяжы, накіроўваючы дэсант на Захад. Ці не таму раскол у Расеі не пераадолены дасёньня?

Мне здаецца, стараверы ўскладнілі беларускую гісторыю. Асабліва на Гомельшчыне. Ёсьць асяродзьдзе для пропаведзі «единого славянского пути».

Разумею, чаму мой край хутка пасьля таго трапіў у межы імпэрыі, якога духу у стараверскай Ветцы набіраўся Ямелька Пугачоў. Саперніцтва беларускага й расейскага на Гомельшчыне вострае. Здараецца, і ў адным чалавеку.

Ды я не даводжу, што праявы расейскай культуры абавязкова варожыя беларускай. Ці варагуюць культуры наогул? Проста палітыкі няшчыра выкарыстоўваюць іх здабыткі.

Так, зьяўленьне ў Гомлі палаца зьвязана з уключэньнем Гомельшчыны ў імпэрыю. Але ж значэньне самога палаца... Тут ёсьць містычны сэнс. Палац пабудаваны як бы ў піку Слабадзе зь яе прыхільнасьцю да даўніны, кансэрватызмам, гаспадары палаца найчасьцей мысьлілі шырока, арыентаваліся на культуру ўсясьветную, зьбіраючы й творы мастацтва, і нават дрэвы ў парк з далёкіх краін.

### СУПРАЦЬПАСТАЎЛЕНЬНІ

.........................................................................

........... гомельскі палац супрацьстаіць ня толькі Слабадзе, але й дому камуны. Ён, палац, і гістарычны, і эстэтычны цэнтар горада.

Уявіце сабе вуліцу, на адным канцы якой, на высокім стромым пагорку над Сожам, палац, а на другім — вакзал, як вышэйшае дасягненьне (зразумела, чыгунка) ужо не эстэтыкі, а тэхнічнай культуры. Вуліца раней называлая Замкавай. Яе ў рэшце рэшт перайменавалі ў праспэкт Леніна і, каб назва адпавядала зьместу, недалёка ад палаца, на цэнтральнай плошчы, паставілі помнік правадыру, а недалёка ад вакзала — дом камуны, фактычна таксама помнік яму ж.

На паўдарозе ад палаца да вакзала або (як каму больш зручна) ад помніка да Дома камуны знаходзіцца гастраном «Космас» зь віна-гарэлачным аддзелам. Працытую тут апавяданьне С.Дубаўца «Памёр Баброўскі»: «Гэты смутак — такое сьветлае пачуцьцё!.. Рэдкая нагода адчуць, што й ты — Космас, а не сьмярдзючая блышчыца ў бязьмежным сусьвеце. Чамусьці сярод нашых убогіх гастраномаў у кожным беларускім горадзе трапляецца й гэткі — «Космас».

Для нас з Баброўскім гастраном быў яшчэ й па дарозе ад працы да майстэрні. Тут часьцяком і куплялася выпіўка.

Мне блізкае такое абыгрываньне: чалавек — Космас, зайсьці ў «Космас». І далей: ты чалавек, калі зойдзеш або калі ня зойдзеш? Там, дарэчы, я купляў шампанскае для самай прыгожай дзяўчыны.

# НАСТАЛЬГІЯ ПА ГОМЛЮ

Сяргей Паўлоўскі



Пакаленьне, якое цяпер можа й мае што сказаць пра Гомель, згадвае найперш сваё савецкае дзяцінства, у якім Горад быў сьведкам першых юначых настрояў ды сытуацый. Трэба, каб менавіта так падалі сонечныя промні, так стаялі будынкі й такі дачуваўся пах, — і ты зноў перажывеш тое, што запала так моцна, бо было ўпершыню. «Вобразы мілыя роднага краю...» Той час — ужо мінулая эпоха, але тут мала чаго дадае ці адбірае яе палітычны зьмест, крыху больш — антураж: піянэрыя, сьціплае даволі жыцьцё, савецкі калектывізм... Юначыя вобразы розных пакаленьняў тут не такія кантрасныя й непадобныя, як у іншых гарадох. Бо эпохі амаль не зьмяняюць паветра Гомля.

Вялікія гарады Заходняй Беларусі зьведалі савецкі час, як канфліктны з папярэднім. Яшчэ нядаўна быў «польскі час» — такі непадобны да гэтага, — ён нагадваў пра сябе і ўваходзіў у «вобразы роднага краю».

Вялікія гарады Усходу... У Віцебску чулася рэха нядаўняе культурнае рэвалюцыі. Магілёў аж расьпірала ад уласнай багатай гісторыі, Менск быў горадам-зьездам усіх гэтых спэцыфікаў, горадам на ростанях.

Паніжаныя рангам Мазыр, Полацак, Бабруйск, Пінск, Маладэчна... як бы звыкаліся з роляй мястэчак.

Мне здаецца, што самая чыстая і пранікнёная настальгія па дзяцінстве — у гомельцаў. Тут пасьляваенны час бяз злому і без дамешкаў вырастаў з эпохі энкавэдэ, а тая — з дарэвалюцыі. Нішто не тырчала, нішто не замінала дзіцяці фіксаваць рэальнасьць у чыстым выглядзе. Калі Горадню нельга было адчуць без таго, каб патрымаць у рукох старую польскую кніжку, а Магілёў — бяз кніжкі дарэвалюцыйнай, дык Гомель даваўся з тымі кніжкамі, якія чытаў кожны савецкі школьнік. «Корціка» і «Палескіх рабінзонаў» было зусім дастаткова, каб пачувацца ў Гомлі сваім. Старыя «графскія развалiны» і вуліцы купецкіх дамоў былі зусім *легальнымі* рэаліямі. Нічога, што б выламвалася як «не сваё», не было. А большыя веды пра мінуўшчыну не прыносілі сэнсацыйнага адкрыцьця й не рабілі перавароту ва ўяўленьнях. «Вобразы» Гомля натуральна разьвіваліся, напаўняліся і ўскладняліся зусім не на шкоду сабе.

Я зразумеў гэта, калі гаварыў з Аляксандрай Уласавай, жонкай рэдактара колішняй «Нашай Нівы». Яна, карэнная жыхарка Гомля, уся належала той, дарэвалюцыйнай эпосе, але ў гутарцы пра тую эпоху ёй нічога ня трэба было ўдакладняць. Магчыма, таму, што яе веданьне ні ў чым не супярэчыла маім стэрэатыпам?

Пасьля доўгае адысэі Ўласава вярнулася ў Гомель у 1946-м. «Застала адныя руіны». Але мне здаецца, што нават ваенныя разбурэньні не паўплывалі на вобраз Горада. Тут не адчуваеш пэрыядычнасьці гісторыі, яе напластаваньняў. Тут незвычайна аднародны грунт.

У літаратуры Гомель пакуль — толькі поле для паэтаў, а не аб'ект адлюстраваньня. Тут існуе немалая рускамоўная літаратура, прадстаўленая ці не цалкам жыдамі. Цудоўныя паэты, што праўда, заставаліся існаваць у аматарскіх гуртках, бо шлях як у Менску, так і ў Маскве быў для іх перакрыты. Зрэшты, яны й не выяўлялі літаратурнага кар'ерызму. Адзін дзіцячы тутэйшы паэт Шварц выдаў у Маскве некалькі кніжак. Але ж таксама — ня больш, чым «для сябе». У Горадзе, які аб'ектыўна быў пляцоўкай для талентаў першае велічыні, яны пачувалі на сабе гнёт правінцыйнага статусу. І тутэйшы, якога не задавальняла самадастатковасьць багемы, які хацеў выбіцца ў літаратурныя людзі, непазьбежна пакідаў Гомель.

Пры першых павевах легалізацыі беларушчыны тут зьявілася цэлая плойма «выхадцаў». Што праўда, і ў Гомлі яны былі пераважна прышлыя з тутэйшай правінцыі. Але «выйшлі» адсюль.

Можна шмат казаць пра мясьціны, падзеі й творы, зьвязаныя з Гомлем, але ўсё адно літаратурныя традыцыі Горада застаюцца неакрэсьленыя. Тут, як нідзе, адчуваецца мэтафізычнасьць літаратурных фікцыяў, і зусім няма кічу літаратурных традыцый, як зрэшты і культурных традыцый ўвогуле. Выходзіць літаратурная газэта з канадзкаю назвай «Атава», жыве сама сабою багема, пішуць ціхія пісьменьнікі...

Час ад часу настальгія па дзяцінству бунтуе тутэйшую моладзь. Археоляг Макушнікаў шукае гомельскую Сафію, горача кажуць пра адметнасьці краязнаўцы... Але Горад не даецца стэрэатыпу.

Ён і кічу індустрыялізацыі не даецца, хоць набудавана тут заводаў процьма. Але ўсё неяк ня так. Спрабавалі зрабіць зь яго «горад камбайнабудаўнікоў». Але колькі ні мучылі — не атрымалася. Яшчэ раней хацелі зрабіць сталіцаю лесу. Менск быў галоўнай балотнай станцыяй, а Гомель — лясной. Але й з гэтага нічога ня выйшла.

Найбольш выразна адчуваецца тут прысутнасьць чыгуначнікаў. У свой час Горад і пачаў расьці, калі тут правялі чыгунку. Ёсьць інстытут інжынэраў чыгункі, і адчувальная павага да гэтае прафэсіі. Нават гарадзкі фальклёр называе Гомель Бадэн-Бадэнам з-за чыгункі, хоць пабочны назіральнік зьвязаў бы гэта хутчэй з курортнасьцю. Справа ў тым, што вакол Горада ходзіць дачны цягнік-дызэль, на якім абазначаны маршрут «Гомель-Гомель»...

Чыгунку правялі ў 1873-м. З таго часу Гомель стаў другім па велічыні горадам Беларусі — з унівэрсытэтам, інстытутамі, у тым ліку дасьледнымі, заводамі, музэямі, тэатрамі, помнікамі... А ўсё адно галоўнай адметнасьцю й прадметам гонару засталася чыгунка. Уявіце сабе які-небудзь Марсэль, які ганарыцца тым, што ў яго ёсьць аптэка, а экскурсія ў Чыкага пачынаецца з паштовага аддзяленьня.

Такая несувымернасць ідзе ад аднароднай гомельскай глебы. Гомель у душы сваёй так і застаўся павятовым горадам Магілёўскай губэрні, а цела яго зусім кандыцыйнае для сталіцы, для культурнага цэнтра. Горад-дзіця, горад-падростак чакае сваёй самарэфлексіі.



*Малюнак Андрэя Скідана*

У Дубаўца сэнс слова «космас» дваіцца, а мне дагэтуль здаецца, што ўся вуліца-праспэкт Замкавая-Леніна хістаецца, як вагі.

Пра адну шалю вагаў я ўжо напісаў, пра другую, на якой палац, трэба зазначыць, што там не пачуеш пахаў дома камуны, там улетку хораша, там пахнуць ружы.

.....................................................................

........... прыкладна з 1777 па 1848 гады....... калі ўвесь палац. Спачатку ж для фельдмаршала расейскага Румянцава быў узьведзены галоўны корпус. З купалам, з квадратнай заляй, упрыгожанай беламармуровымі калёнамі......... Чатырох'ярусная вежа пануе над палацам і паркам. Яна будавалася ўжо пры другім фельдмаршалу — Паскевічу, пры ім разьбіты й парк.

Між двума фэльдмаршаламі — Мікалай Пятровіч Румянцаў. Дыплямат, калекцыянер, мецэнат, выдавец. Прыемна ўсьведамляць, што на яго сродкі выдадзены дзясяткі кніг, у тым ліку «Белорусский архив» І.І.Грыгаровіча.

Палац як белая песьня, хоць для яго афарбоўкі, акрамя белай, заўсёды выкарыстоўвалася й жоўта-лімонная фарба.

Ня вырваць палац з паркавай прыгажосьці, не адарваць яго ад Сожа, не пазбавіцца ад уражаньня, што ён нібы лунае над ракой, над зялянінай схілаў, ня вырвацца з ажурнага павуціньня мастоў праз Сож, праз Кіеўскі спуск, праз ручай Гамянюк (цяпер тут ставок) і яр, не забыцца на бела-сінія колеры й золата Петрапаўлаўскага сабору, на капліцу, абліцаваную сьветлай цэглай, упрыгожаную каляровай маёлікай — яна стварае нежурботны настрой.

Доўгі час мне здавалася, праўда, што палац і дом камуны цалкам нельга супрацьстаўляць. Маўляў, і дом камуны — канструктывісцкае ўвасабленьне пралетарскай рэвалюцыі, і палац — з Расеі. Я верыў даведнікам, думаючы, што палац і пэйзажны парк усяго толькі помнікі расейскага клясыцызму. Мне гэта прыносіла пакуты.

## ПАПРОКІ

Зрабілася ўжо прыкметай ня самага лепшага тону пісаць, што творчыя сілы Беларусі паглыналіся або польскай, або расейскай культурамі.

Польскі замак і расейскі палац застылі на нашай зямлі і, як мне часам здавалася, па-ранейшаму адпампоўваюць зь яе беларускасьць.

.......... ня ўпэўнены, праз кожны народ прарастае свая разрыў-трава.

Вось тры кропкі прыцягненьня ў маім дзяцінстве: вёска Харошаўка, дзе нарадзіўся й куды езьдзіў з Гомля да бабулі Алены, палац і Слабада — гэта таксама недалёка ад Сожа, дзе я жыў на вуліцы Фельдмаршальскай (названа ў гонар Паскевіча), супэрлягічна перайменаванай пры савецкай уладзе ў Пралетарскую.

Як мне думалася, першасную беларускасьць несла дзіцячаму ўяўленьню вёска. Нават бераг Сожа ў Слабадзе, дзе мы, дзеці, загаралі, быў ужо больш складанай зьявай. Тут стаіць Ільінская царква старавераў, а сама Слабада называлася некалі Спасавай (была й такая царква, а яшчэ — Праабражэнская — дом майго дзяцінства пабудаваны амаль на яе камянях).

Сілуэт Ільінскай царквы як бы скажаў першапачатковы пэйзаж, дадаваў яму чужой суровасьці. Гомель — гэта ж поўдзень, паўднёвая мяккасьць, а лік раскольніка з дужа выразнымі вачыма, які лунае над Ільінскай царквой, як бы апальвае бераг агнём незнаёмае нам заняпасьці.

На беразе, дзе мы загаралі, было мала зеляніны, адныя дамбы: камяні ды камяні.

А ў парку... На гэтым высокім пагорку стаяў некалі драўляны замак князя Міхала Чартарыйскага (Замкавая вуліца назвай сваёй «помніла» менавіта яго), яшчэ раней — старажытныя абарончыя збудаваньні радзімічаў.

Мо яны павінны былі адлюстравацца ў дзіцячай душы? Адлюстраваўся палац.

Ці супрацьстаяў ён Харошаўцы?

Я разглядаў ручнікі бабулі Алены, убіраў мэлёдыку яе мовы й пытаўся:

— Чаму пра палац няма ні песень, ні паданьняў? Ну, хоць бы згадка якая...

Бачыў у парку камень зь мянушкамі сабак, якіх нібыта атруціла служанка, чуў, што княгіня Ірына заснавала ў Гомлі Ірынінскую лячэбніцу для хворых на вочы, што Паскевічы пасылалі ў Амэрыку габрэйскага хлопца вучыцца на доктара, што нейкая дзяўчынка з палаца загінула, бо ўпала з каня... Ды ці гэта паданьні, песьні?

— Нешта, унучак, мы чулі пра палац, ды ніхто з нас песень не складаў. А так чулі дзівосы розныя.

У-у... У бок вежы кідаў я варожыя позіркі. Хоць і адчуваў, як мала мне ручнікоў. Праўда, мэлёдыка бабулінай мовы — гэта спадчына. Ды ці дастатковая? Цудам купіў раманы Фолкнера, з Ленінграда прывезьлі мне зборнік Карта-

*Працяг на старонцы 8*

# ГОМЕЛЬ НА ВЭЗЭРЫ

Гары Куманецкі



Я ўжо ня памятаю, калі першы раз пабываў тут. Раней тут было ня так. Але і ўперад тут віравалі машыны, краны, караблі. Здавалася, каб разьехаліся раптам цягнікі, караблі й машыны, напакаваўшы нарэшце той цяжар, што ляжыць тут у кантэйнэрах, доках, ды па складох — ад гэтага места нічога не застанецца. Апроч старога парку на беразе.

Раней тут не было ні тэлевежы, ні велізарных гатэляў, ні новых мастоў. Усё праплывала ды праяжджала. Сёньня тут ноч падобная на дзень, ад зьзяньня вакзальных ліхтароў, пражэктараў над складамі, маякоў, што накіроўваюць жалезныя плыні й ня гаснуць да відна.

Кожны другі банан менавіта адсюль трапляе ў краіну. Сюды іх прывозяць болей, чым дзе ў сьвеце. Сюды ж прывозяць большую частку нямецкай рыбы. Тут зь яе робяць усё, што толькі можна зрабіць з рыбы. Дзеля гэтага спатрэбіўся цэлы «Інстытут тэхналёгіі харчовых прадуктаў і біятэхнічных мэтадаў». Яшчэ раней стварылі Інстытут палярных досьледаў імя Альфрэда Вэгнэра. Таго самага, што загінуў у 1930 г. у Грэнляндыі. Круглыя суткі слухаюць тут сыгналы зь бясконца далёкіх ледзяных краёў.

Некалі брэмэнцы, не на жарт усхваляваныя абмяленьнем Вэзэра, вырашылі паставіць порт ля самага вусьця, ля мора. У 1826 г., набыўшы кавалак зямлі ў гановэрскага (разам і ангельскага) караля, Брэмэн пабудаваў сабе новы порт. З тых часоў Брэмэрхафэн стаў дарогаю з вады на зямлю, зь зямлі на ваду.

А ўжо сёньня тут самы вялікі кантэйнэрны транзыт у Эўропе. Порт для Брэмэна стаў портам для Эўропы. Сёньня сотні тысячаў машынаў зь Нямеччыны адпраўляюцца з Брэмэрхафэна, яшчэ болей сюды завозіцца. Возяць, каб езьдзіць, езьдзяць, каб вазіць.

Ёсьць гарады, што ўзьнікаюць, як выспа на рацэ: вакол віруе плынь, і выспа расьце, расьце, аж пакуль сама ня зьменіць бег плыні... У такіх гарадох усё новае, нават калі ім сотні гадоў. Новыя павевы няспынна абмываюць іх.

Некалі тут панаваў клясыцызм, канструктывізм, а сёньня гэта пляцоўка для постмадэрнізму. Той самы палярны Інстытут быў пастаўлены тут мэтрам Освальдам Маціясам Унгерсам. Зрэшты й постмадэрнізм ужо не малады, як і сам Унгэрс.

Раней я не разумеў, што так вабіла ў гэтым месьце. Тут няма таго сакрамэнту, як ва ўзьнёслым Мюнхене ці Кёльне, што нават па вайне, дашчэнту разьбітыя, прымушаў адчуваць незямное. Няма тут ні брэмэнскага снабізму, ні гамбурскай трываласьці, ні бэрлінскага цэзарыянства.

Але калі стаіш уначы на пірсе, у тугой плоці імжы, калі кожная дзявятая хваля ймкнецца далізаць бэтон пірсу й незадаволена са скавытаньнем адлятае, разумееш, нашто й ты тут. Каб паглядзець на сотні сонцаў: маякоў, пражэктараў і лятарняў, адчуць сярдзіты і ўпарты жалезны вір разумных машынаў, прыстасаваньняў, ланцугоў і лябёдак, што ня гледзячы назад, падымаюць і кладуць, выціскаюць зямны цяжар. Брэмерхафэн — атлант.

Адметнасьць яго — гэта сотні аскепкаў адметнасьці, што, як у калейдаскопе, абарачаюцца кожны дзень, пакідаючы мімаходзь каліва смаку, водару, успамінаў. Сустрэчаў і разьвітаньняў.

Дзе ж яшчэ можна паставіць Інстытут палярных досьледаў?

У гэтым і ёсьць Горад, якога няма бяз порту й чыгункі, бяз самых вялікіх у Эўропе кантэйнэрных базаў, вэрфяў, бяз рыбы й бананаў. Бо кожны другі банан...

# ПАЛАЦ

*Працяг са старонкі 7*

сара. Пэўнай літаратуры не хапала. Выдавалі яе не мільённымі накладамі, кнігі цяжка даходзілі да маладых людзей, бо партыйная й іншая намэнклятура забірала ўсё «любопытно-иностранное» — для намэклятуры кнігі з баз везьлі.

Пакуль мае багемнае жыцьцё й сёе-тое з прачытанага далі плён, нацыянальныя пачуцьці канфліктавалі з палацам.

Што ў ім? Бронзавыя бюсты Румянцавых работы італійскага майстра Каноны, расейскія манэты, панарама Барадзінскай бітвы, барэльеф Кутузава... Добра яшчэ, што не Суворава!

Яшчэ — парадныя шаблі Паскевіча, камінны гадзіньнік работы Таміра — прыдворнага майстра Напалеона I, інкруставаны перламутрам столік з партрэтамі фаварытак аднаго зь Людовікаў. Інтэр'еры палаца афармляў Вінцэнта Вінцэнці...

Многае, што надало формы нашым мясьцінам, — ад палякаў: архітэктура Ідзякоўскага й садоўніка Барчынскага. Першаму належыць праект двух мастоў — высокі ажурны праз яр і нізкі каменны праз Гамяюк. Яны на двух узроўнях сьцягваюць прастору агромністага яра. Два паясы... Архітэктар аб'яднаў часткі палаца з дапамогай галерэй, пераплянаваў парк. Садоўнік выпісваў і выбіраў для яго дрэвы, кветкі.

А што тут, скажам так, ад іншых?

У палацы вісяць палотны Януарыя Сухадольскага, які нарадзіўся ў Горадні, ды што на іх? Паходы расейцаў на чале з Паскевічам. «Асада крэпасьці Абасабад», «Штурм крэпасьці Ахалцых», «Здача штандараў ля Джаван-Булака»... Слава фельдмаршалу Паскевічу? Віват расейцам, якія заўсёды імкнуліся пашырыць межы імпэрыі?

Януарый Сухадольскі удзельнічаў у паўстаньні 1831 году, у яго ёсьць такія карціны, як «Вясельле Ягайлы зь Ядвігай», але знаходзяцца яны ня ў Гомлі.

## У ВІЦЕБСКУ

Мікола Трухан нарадзіўся ў Плешчаніцах на Лагойшчыне, вучыўся ў Менску, лічыў сябе ўжо сталічным жыхаром. Прыехаў у Віцебскі тэатар акторам, атрымаў неблагую ролю і ўсё роўна спачатку засумаваў. Маўляў, правінцыя. Вырашыў зь мясцовымі студэнтамі яшчэ й студэнцкі тэатар рабіць.

Валодзя Баброўскі вучыўся на мастака й афармляў спэктаклі. Паставілі нейкую кампазыцыю на вершы А.Вазьнясенскага: якім павінен быць сучасны чалавек?

Гэта ці не вясна 1970-га... Баброўскі адаптаваў да сцэны чорны квадрат Малевіча.

Вельмі сучасна. Сам, ужо жанаты, жыў у драўлянай хаціне.

Неяк наведаў яго Трухан.

Потым, пасьля сьмерці Баброўскага, ён успамінаў:

— Бабёр паказаў мне карціны. Я абалдзеў... Стары Віцебск, куточкі... Ён потым ня ўсе карціны прывез у Гомель. Помню каваныя вароты... Сьцяну з чырвонай цэглы... Быў перададзены той час. Акварэлі... На мяне павеяла яшчэ тым Віцебскам.

Трухану далі пакой мэтраў на 25. Жонка яго (таксама першая, як і ў Баброўскага тады) яшчэ вучылася й наяжджала зрэдку. Дом стаяў у цэнтры, балькон у Трухана выходзіў проста на левае вуха нязьменнага ў кожным цэнтры правадыра. Трухан узяў у тэатры кніжную паліцу з намаляванымі кнігамі, тахту з «Караля Ліра», пляжныя крэслы, Баброўскі «забацаў» на сьцяне карціну «Апафэоз пачуцьцяў». Па штукатурцы. У яе былі ўманціраваны бутэлька, здымак Трухана, праграма спэктакля — усё на фоне рэклямнай прыгажуні.

Калі Трухан паехаў зь Віцебска, тэлежурналісты зьнялі яго пакой і прадэманстравалі гледачам «моральный уровень распущенного актера».

Яшчэ Баброўскі на ўсіх фальшывых кнігах вывеў: «М.Трухан. Збор твораў».

А як хадзілі па горадзе! У Трухана было чыста белае паліто, быў чыста белы капялюш, у руцэ — прас, яшчэ той, у які вуглі засыпаюць. Яны ў яго засыпалі грошы на віно. Баброўскі насіў з сабой бідончык. Навошта? Тады бутэлькі прымалі ва ўсіх крамах.

Адчынялі прас... Даставалі грошы... Куплялі віно... Вылівалі яго ў бідончык... Здавалі бутэлькі... Куплялі закуску...

Да іх ляпіліся розныя людзі. Паламаныя, дапітыя да апошняга, зацкаваныя. Адзін мастак маляваў людзей толькі ззаду, і ўсе яны на яго карцінах ад нечага ўцякалі. Мастак піў віно зь бідончыка, выціраў губы рукавом і шаптаў: «Потым зразумееце». ............ ............ ужо ведалі мастакі Баброўскага, у яго быў свой твар.................................. ........ што яму потым перашкодзіла ў творчасьці.................................................... ...................... ажаніўся другі раз, у Гомлі амаль не маляваў.

У Віцебску канцэрты, выставы наведвалі. Быў у кампаніі Чыка — сьпяваў выдатна. Сьпевакі — са сцэны, а ён — з залі. Скандалілі.

І галадалі. Колькі разоў на бальконе каля левага вуха правадыра лавілі сілком галубоў.

...............................................................................
...................... размовы пра Шагала, пра тое, што яго кампанія ў свой час вычварала. Яшчэ тэма: такі тэатар, які існуе, нікому не патрэбны, варта б было зрабіць свой.

А які быў той, што не падабаўся?

Трухан:

— Вось «Трэцяя патэтычная» Пагодзіна. Фінальная сцэна. Большасьць акцёраў п'яная. На сцэне шэрагі — «працоўныя». Голас: «Памёр Ільіч! Памёр Ленін!» Музыка: па-пам... Моцныя акорды. Цішыня. Зноў акорды: па-па-па-пам... Цішыня. «Працоўныя» пакутуюць, некаторыя плачуць. У гэты момант хлопец на сёмым радзе прачнуўся, таргануў нагой і — па бутэльцы. Недапітая бутэлька піва ў яго стаяла. Абярнуў. А ў зале ж ухіл да сцэны. Бутэлька коціцца: буль-буль-буль... Хлопец на ўсю залу: «Ё... тваю маць!» І тут ужо ўсе «працоўныя» заплакалі, загаласілі. Трасуцца, сьлёзы... *Индевеют штыки в караулах кремля!* Я адвярнуў пысу. Побач з аднаго боку Жэнька Багданковіч стаяла, а з другога — Шаціла. Яны ў адрубе, толькі за мяне й трымаюцца. Група «Лакаон». Я, праўда, цьвярозы быў. Яны прытуліліся: «Коля, ты хоць не ўпусьці нас!» А ўперадзе стаіць Трус. Ён надзеў на вялікі палец нейкую гульку, склаў за плячамі фігу і матляе ёй. Мне ня столькі з бутэлькі сьмешна, колькі — чамусьці — з гулькі. Пачынаю паварочвацца задам да залы — Жэнька Багданковіч пачынае падаць. Шаціла яе падтрымлівае і б'е мне пад калені. Заваліліся.

Праз гады, калі Трухан пабыў ужо на стажыроўцы ў Маскве й прыехаў у гомельскі тэатар рэжысэрам, яны зноў сустрэліся.

— Іду з тэатра сумны. Незнаёмы горад, адзінота. І раптам: «Трухан!» Паварочваюся: Баброўскі. Праз паўгадзіны мы пілі ў рэстаране. Потым — у маім нумары ў гасьцініцы, яшчэ пазьней — паўсюль.

## ХАТА

Мы з бацькам раскідалі харошаўскую хату й перавезьлі бліжэй да Гомля, на луг, дзе нам далі соткі пад дачны ўчастак.

Мы везьлі тое, у што ператварылася хата, на «Калхідзе» — машыне з даўгім кузавам і прычэпам. Перад лугам у ельніку «Калхіда» доўга буксавала на пяшчанай дарозе. Дый луг быў такі... Шмат пяску, мала травы. Мы падкладвалі пад колы рознае шыгальле.

Шафёр памог нам паскідваць бярвёны й пагнаў машыну ў горад. Над лугам ужо гусьціўся белы туман, скрозь пляскатыя й таксама белыя аблокі ўгары праблісквалі першыя зоркі.

— Сыравата, хоць і пясок, — сказаў бацька. — Дождж быў. Давай во тут шчыльней пакладзем бярвёны й раскінем якую старызну. Як-небудзь пераначуем.

Я перакатаў бярвёны па няроўнаму, патыцканаму каровінымі капытамі пяску.

— Сікась-накась, кось далоў! — прыгаворваў бацька, абмяраючы складным мэтрам карацейшыя бярвёны. — Штось збудуем! Яшчэ й сінгапурчыкі якія на франтоне пусьцім, каб прыгажэй.

— Ня псуй вочы ў цемнаце.

Ён кінуў мэтар і ўзяў у рукі сякеру, пахадзіў, стукаючы па бярвёнах абухом. З каторага бервяна парахня сыпалася, каторыя, смалякі, ажно гулі. Дубовыя штандары дык проста заходзіліся, як званы ў нядзелю.

# Тралейбус на край сьвету

Зьміцер Бартосік

У тыя далёкія часы, калі не было «відзікаў» і кампутараў, калі чытаньне кніг сярод «пацанвы» не лічылі прэрагатываю «прафэсараў», калі Парыж і Лёндан былі не бліжэй за Марс, а Ханты-Мансійск — «вунь за тым узгоркам», — у тыя цудоўныя часы мы зь сябрам любілі гуляць у гарады. Дзеля гэтага нам хапала ўсяго некалькіх назваў. Тых месцаў, якія мы ведалі з кніг і сто разоў бачаных фільмаў. Мы траплялі туды, не пакідаючы свайго гораду. Ён ахвотна дазваляў нашай фантазіі рабіць зь ім што заўгодна. Трэба было толькі вырвацца з сумнага раёну «Сельмаш» у «горад», а ўжо там...

Нас чакаў Лёндан, прадстаўлены 31-м домам на праспэкце Леніна. Чаму менавіта ім — наўрад ці адкажу цяпер. Напэўна, зарослы дворык, заціснуты стогадовымі (г. зн. даваеннымі) мурамі дазваляў нам зьвярнуцца адзін да аднаго ня йнакш як «Містэр Холмс». Іншы раз наш лёнданскі краявід упрыгожваў «страшны чалавек». Гэта быў амаль незаўважны дзядок, з адвечным выразам віны на твары й бяльмом на воку. З-за гэтага бяльма мы пры[illegible]алі яму ўсе ма[illegible]ымыя забо[illegible], і калі яго «змрочая постаць» уладкоўвалася на ўслончыку, гульня набывала смак рызыкі. Мы падсядалі да «забойцы» з двух бакоў і чыталі нэкралёгі ў апошняй «Times» («Гомельскай праўдзе»), позіркам даючы зразумець небараку, што нас зь ім яднае адна «страшная тайна».

Ці ён вырашыў, што мы падганяем яго ў магілу, ці што іншае, але аднойчы ён ледзь не прыпадобіў мяне да сябе...

Наступным нашым прыпынкам быў Нью-Ёрк. Ён клікаў праз вуліцу прынаднымі агнямі на ўсіх 12-ці паверхах галоўнага цьвіка турыстычных паштовак, — адзінага на той час «хмарачоса». Пераходзячы праз праспэкт, мы адначасова пераходзілі на «ангельскую», забаўляючы як сябе, так і мінакоў.

«Джон, дуюфуюхэвімэн?» Што значыла: ці не пара нам заняцца гэтым банкам? «Кэнмідуюестэдэй, Майкл» (Абавязкова, але пасьля Вялікадня).

Не забываліся мы й на Парыж: «Эйфэлева» вежа гомельскага тэлецэнтру была бачная адусюль. Гэтак працягвалася, пакуль у горадзе не зьявіўся тралейбус з Адэсы.

Звычайны 10-ты нумар зь незвычайным кіроўцам, які з свае працы рабіў эстрадны нумар. Барытонам таннага канфэрансье з робленым адэскім акцэнтам гэты блазан аб'яўляў прыпынкі, не забываючыся на бліжэйшыя цікавосткі — ці то тэатар, ці піўны бар. Ён пасьпяваў камэнтаваць «дарррёгу», абсыпаючы эпітэтамі тых, хто насьмеліўся абагнаць ягоны фрэгат, і распавесьці апошні анэкдот. Зразумела, ніякіх сварак у салёне не ўзьнікала, і мы сталі яго пастаяннымі кліентамі.

Сярод абітальнікаў тралейбуса мы знаходзілі для сваіх сочак і камэнтараў «кадраў» — ад сучаснага нэандэртальца да пераапранутага Папы Рымскага.

Стомлены сельмашавец з шыкоўнымі бакенбардамі час ад часу падазрона азіраўся на прыдуркаў, якія ледзь стрымвалі сьмех, і не ўяўляў, колькі літраў блакітнай крыві ён штовечар разбаўляе «Агдамам».

Але сапраўднай здабычаю для юных хуліганаў былі ня менш юныя пасажыркі. Выбраўшы «што прыгажэй», сябра зь невымоўнаю тугою ў вачах пачынаў ёй на вушка замагільным голасам дэклямаваць: «Я вас любил. Любовь ещё быть может...» Ужо пасьля першага радка прыгажуня мяняла колер твару. З абурэньнем пазіраючы ў белыя вочы «зомбі», які «любил так искренно, так нежно», яна вылятала з вар'яцкага тралейбуса, думаю, без усякага жаданьня «любимой быть другим». Другі, дарэчы, не асьмеліўся б на такі подзьвіг.

Я аддаваў перавагу сталым вясковым кабецінам з адвечнымі, як цяжкая доля, кайстрамі ў руках. Стаўшы каля цёткі, мы распачыналі прыкладна такі дыялёг: «Даўно адкінуўся?» «Ужо месяц» «А Клык усё кантуецца?»

Я ўсё больш выразна пяліўся на кайстру. Сябра ўсё хутчэй пераводзіў гаворку на «новые дела». А кабета ўсё бліжэй пасоўвалася да выхаду. З дынамікаў тым часам неслася: «Уступайте места нашым дорррёгим и любимым женщинам». І за гэта ўсе «женщины» тралейбуса былі гатовыя ехаць хоць на край сьвету, чым, уласна кажучы, і быў тады «Сельмаш». Пасьля «наш сябра» кіроўца кудысьці зьнік. Хадзілі чуткі, што яго звольнілі за празьмерную балбатлівасьць, але хутка й яны растварыліся ў больш звыклай тралейбуснай лаянцы.

* * *

Аднойчы я вырашыў, што з горадам, дзе ўсё было ўпершыню, трэба разьвітвацца назаўсёды, як разьвітваюцца зь першым «дарослым» гарнітурам. Памяняўшы тралейбус на цягнік, я ўбачыў «адваротны бок» Зямлі. Чысты выпадак закінуў мяне ў горад, які мы не шукалі на гомельскіх вулках. Не таму, што цяжка было знайсьці, а таму што яго не йснавала для нас, як і шмат чаго іншага...

Я вярнуўся ў горад дзяцінства й заўважыў, што «гарнітур» яшчэ «у самы раз». А прыдуманую мною гульню я працягваю адзін, спадзеючыся адшукаць ці ўбачыць усьмешку беларускага места на «статутным» твары «возрождённого города».



*Малюнак В.С.*

Навошта мы разбурылі хату! Каля цяпельца жыцьцё здалося мне вельмі кароткім. Дзень на дзяцінства, дзень на жонку й дзяцей... Калі на маці й бацьку наглядзецца? А яшчэ ж трэба паўгадзіны на багему — у кожнага яна свая, колькі гадзін на чыстыя аркушы паперы... Я адчуў, што частка жыцьця зусім абарвалася — харошаўская, тая, што з добрымі, крыху спалоханымі вачыма бабулі Алены. І хаты няма. У ёй нараджаліся й паміралі мае продкі, тры або чатыры разы яе перасыпалі. Мы ж з бацькам амаль за дзень хату «зьністожылі». Словы бабы Алены.

Паводле закону супрацьпастаўленьняў, мабыць, думкі мае тады былі не пра Харошаўку, не пра бабулю Алену й радовічаў. Думаў я пра сьляпога Борхеса, пра буэнасайрэскае дзяцінства Картасара, пра тое, якой маркі была машына ў Камю, пра Сартра, які ў старасьці спрабаваў па-маладому бунтаваць. На нейкі момант гэтыя й іншыя творцы апынуліся сярод маіх радовічаў, я бачыў многіх з тых, хто некалі жыў на зямлі: Ван Гога, Латрэка, Фолкнера, Стравінскага, Рымскага-Корсакава, Тургенева, Хэменгуэя, Рэмарка, Шастаковіча, Шагала... Быў тут і дыплямат, канцлер расейскі, сын вядомага фельдмаршала й граф Мікалай Пятровіч Румянцаў. Так, і ён, чые парэшткі ляжаць у гомельскім Пертапаўлаўскім саборы, самы знакаміты гомелец-расеец, які зьбіраў кнігі й рукапісы, этнаграфію й нумізматыку, мастацтва. Румянцаўскі музэй існаваў спачатку ў Пецярбургу, потым у Маскве.

Я заплюшчыў вочы: карціны Баравікоўскага, Лявіцкага, Кіпрэнскага, Веніцыянава, Брулова, Фядотава, Іванова, творы заходне-эўрапейскага жывапісу, гравюры, калекцыі расейскіх вандроўнікаў. Цяпер тыя фонды ў Трацякоўскай галерэі, у Музэі выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна, у этнаграфічным музэі. Бібліятэка Румянцава стала асновай для самай галоўнай бібліятэкі Расеі.

Мяне заўсёды хвалявала, што многае з сабранага Румянцавым знаходзілася некалі ў Гомлі. Існуе нейкі духоўны сьлед, нейкі магнэтызм... І ад скарбаў Паскевічаў. Мне важна, што М.П.Румянцаў, гэты сапраўдны служка духу, прайшоў па нашай гісторыі безь мяча.

— Мо нічога кепскага ён і не зрабіў нам? — спытаўся нехта голасам бабы Алены.

— Рэдкасьць для расейскіх вельможаў.

— Трэба, унучак, людзей паважаць.

— Разумееш, Камю для мяне толькі пісьменьнік, а гэтыя, якія раскашавалі на нашай зямлі... — пачаў быў шаптаць я.

— Кладзіся, нечага мармытаць, — азваўся бацька. — Глядзі вунь, што на небе творыцца...

Аблокі сплылі, на небе гарэлі буйныя летнія зоркі. Я доўга ляжаў, гледзячы ў неба, і думаў, што радовічы ніколі не пакінуць мяне. Гэта — маё па праву нараджэньня, няма на што крыўдзіцца і няма асабіста мне чым ганарыцца.

Я засынаў, прачынаўся і зноў засынаў. Хата закадзіравала тое, што адбылося ў ёй больш чым за стагодзьдзе, і цяпер аддавала мне закадзіраванае праз сны.

У сны ўвесь час укручваўся зусім непадобны да нас чалавек — японец. Жыцьцё яго складвалася трагічна, я ведаў яго, ведаў, што ён заб'е сябе у трыццаць шэсьць гадоў. Але ў маіх снах ён ня быў яшчэ пісьменьнікам, я сьніў японскае дзіця. Калі яму было ўсяго дзевяць месяцаў, яго маці звар'яцела. Бабуля Алена падыходзіла да хлопчыка й гладзіла сваёй шурпатай далонёю па галаве...

## КАРЦІНЫ

Што я бачыў у яго акварэлях, прысьвечаных старому Віцебску? Была ў іх туга, якую я тады прыкмячаў, ды добра не разумеў.

Баброўскі адчуваў, што трапіў як бы між пакаленьнямі. Я магу ўявіць сабе Баброўскага побач з мастакамі 20-х, сярод «бубновых валетаў», недалёка ад Марка Шагала. Гэта як чалавека, не як творцу. Магу, здаецца, уявіць яго і далей у будучыні... Што да нашага часу, то ў віцебскіх акварэлях ён зафіксаваў сваю прысутнасьць, перапады настрою, маладосьць і смутак прадчуваньняў.

Той час менш за ўсё прымаў арыгінальнае. Мастак-наватар ня меў права разьлічваць на прызнаньне, перад Баброўскім стаяла пытаньне: кінуць маляваць або паўтарыць лёс многіх, працуючы толькі на будучыню?

Апошняе яму таксама не падабалася.

— Строіць зь сябе непрызнанага генія? Лухта. Ну, знойдзецца потым жвавы журналіст, накрэмзае які артыкул... Маўляў жыў некалі дзівак мастачына... Нікому гэта ня трэба. Наогул, цяпер жывапіс... Ведаеш, як працуе большасьць пэйзажыстаў? Маюць фотаапараты й робяць каляровыя здымкі. Потым перамалёўваюць. А што авангард? Разьнялі ўсё, што можна. І сынтызавалі ўсё. Няўжо людзям не надакучылі іхнія «суб'ектыўныя пагляды» на сьвет? Сківіцы ломіць. Усе яны настолькі «суб'ектыўныя», што мастакі адзін да аднаго ў майстэрню зайсьці ня хочуць. Мабыць, я б мог яшчэ нешта накшталт калажаў рабіць, нешта супэрсучаснае, але ж яно павінна жыць сёньня, ня ў будучыні. На Захадзе так працуюць, а ў нас гэта не пускаюць. Справа не ў цэнзуры нават — жыцьцё архаічнае, слабыя сувязі з цывілізаванымі краінамі... Цяпер міты кожны дзень нараджаюцца й кожны дзень паміраюць. Хацелася б некаторыя асэнсаваць і зьберагчы... Сваеасаблівыя стэрэатыпы мысьленьня. Іх можна аб'ядноўваць, камбінаваць зь іх...

Аднак заканчваў гаворку ён звычайна:

— Нікому гэта ня трэба.

Тады што яму заставалася? Удзень — афармленьне газэты, у рэдакцыі якой мы працавалі, розныя халтуры дзеля грошай, увечары — багемная кампанія.

У тыя гады я шукаў у жывапісе блізкія мне фарбы, настроі. Знаходзіў, напрыклад, у Віталя Цьвіркі. Мастак нарадзіўся зусім блізка ад маёй Харошаўкі — у вёсцы Радзеева. Раней за мяне, але ж... Ці не адны лясы над намі шумелі, ці не адны рэчкі ад нас сплывалі ў акіян? Нават ня ведаю, дзе ён намаляваў «Блакітны дзень» ці «Ля млына», «Лясную прагаліну», а мне яны блізкія, як тое, што асьветлена дзяцінствам.

Менавіта такім, як у Цьвіркі, запомніў я зь дзяцінства восеньскае трымценьне лісьця, знаёма кладуцца на сьнег цені, знаёма ахутваюць прыцемкі лясы.

А гомельскае Надсожжа для мяне — у карціне Дзьмітрыя Алейніка «Вясна. Порт». Я пазнаю гэты пагляд на раку з вышыні гарадзкіх пагоркаў, калі зь вяршыні прыбярэжных дрэў апынаюцца перад вачыма, калі па-вяснавому кантрастуюць бурая трава на схілах і сьветласьць вады, бязладзьдзе крыг. Пахне халоднай сожскай вадой.

Я сам усё жыцьцё хачу напісаць пра пах сожскай вады.

Некалі ў Гомлі накрэмзаў у нататніку: «Яшчэ адно жыцьцё пранеслася». Фраза прасякнутая імрэсіянізмам. Слова «жыцьцё» — ужо чарада непаўторных імгненьняў, адценьняў, колераў, мільгаценьне падзей і твараў. Узмацненьне мімалётнасьці: адно жыцьцё. Хоць наогул нас шмат, таму слова «яшчэ»: яшчэ адно жыцьцё. «Пранеслася» — чысты імпрэсіянізм, бо ён і народжаны ў мастацтве ад зьменлівасьці й шпаркасьці.

Фраза зіхацела зыбкімі блікамі на вадзе.

Мы сядзелі з Баброўскім на дэбаркадэры. Той дэбаркадэр быў пафарбаваны пераважна белай і блакітнай алейнымі фарбамі, парэнчы, борцікі — вохрай, паўсюль віселі чырвона-белыя выратавальныя кругі. Мне ўсё тады падабалася — ад блакітна-шэра-сонечнай ракі да высокага зь белымі аблокамі неба. І тое, як рыпелі-церліся напятыя канаты, што ўтрымвалі дэбаркадэр каля прычалу, і як яны пахлі пянькой і смалой, і трохі непрыемна пахла застойная вада ў трумах. А яшчэ — кісла — «Алігатэ», яшчэ — вуглі, прыпаленае мяса й воцат.

Хто палюбіў паветра, ваду, зьменлівасьць асьвятленьня, той абавязкова цэніць імпрэсіянізм, таму прыемна глядзець і на зялёныя схілы пагоркаў, і на набярэжную зь людзкім натоўпам, і на раку зь белымі кацерамі, і на бясконцыя заліўныя лугі за ракой. Кідкія фарбы, каляровыя цені... Амаль няўлоўная вібрацыя паветра.

Дэбаркадэр трохі гайдала сожская хваля. Калі мы састаўлялі разам фужэры, яны пазвоньвалі. Разьлівалася на абрус бледна-залатое «Алігатэ». Сьмяяліся нашы дзяўчаты ў пярэста-яркім шоўку.

Я ўсё прадбачыў і напісаў: «Яшчэ адно жыцьцё пранеслася».

## АКВАРЭЛЬ НА ШКЛЕ

У лютым 1982 году зьявілася ў «Гомельскай праўдзе» мая рэцэнзія на спэктакаль Трухана ў драмтэатры. Гаворка ў ёй ішла пра тое, што «адзін за адным эпізоды спэктакля ўзмацняюць тэму роднай зямлі». Яшчэ некалькі падкрэсьліваньняў нацыянальнай сутнасьці й афарбоўкі спэктакля скарацілі тыя, хто рэдагаваў рэцэнзію.

*Працяг на старонцы 10*

# Алег Мінкін

* * *

*Сярод няўтуліцы дабітых і бязьлікіх*
*Усходніх нашых гарадоў і гарадкоў*
*Ты, Гомель, мо адзіны з панталыку*
*Зьбіваў сваёй красой зьдзічэлых зелсякоў*

*Камандыровачных і ўсіх, хто выпадкова,*
*Выходзіў зь цягнікоў па прывакзальны пляц,*
*Дзівіла старасьвецкая Савецкай забудова,*
*І парк ангельскі, і з гадзіньнікам палац.*

*І сам я ў парку між дзівоснай флёры*
*Упершыню ў жыцьці са зьдзівам назіраў*
*З мастка над сажалкай, як лебедзь белапёры*
*Бяз страху хлеб з рук чалавека браў.*

# ПАЛАЦ

*Працяг са старонкі 9*

Гомельскі тэатар рускі, акрамя таго, абкам, гаркам і райкамы кампартыі пільна сачылі за «інтэрнацыянальным» выхаваньнем гомельцаў і за тым, каб нідзе не было «праяваў нацыяналізму».

Той спэктакаль быў на роднай мове і як бы ўваскрашаў затаптаную чужынцамі беларускую гісторыю. Тады, у пачатку 80-х, інсцэніроўку «Ладзьдзі Роспачы» Трухан зрабіў сам, а Караткевіч яго падтрымаў.

Партбонзы добра адчувалі ўсе ідэалягічныя нюансы, таму «Ладзьдзю Роспачы» Трухану ўдалося паказаць гледачам усяго некалькі разоў, а ў лістападзе таго ж 1982 году мне ўжо давялося пісаць артыкул у абарону рэжысэра. Яго паспрабавалі зволніць... па скарачэньню штатаў. У тэатры гаспадарыў В.Кручкоў — рэжысэр, запрошаны з Масквы, які нават маскоўскай прапіскі не хацеў страчваць. Беларускае было яму чужое. І я абараняў Трухана, нападаючы на Кручкова. Але нападаў, на жаль, ня толькі за творчыя справы. Сакратар партыйнай арганізацыі тэатра паказаў мне пратаколы сходаў, на якіх Кручкова крытыкавалі і за п'янку. У маім артыкуле тыя пратаколы цытаваліся...

Па скарачэньню штатаў Трухана ня звольнілі, аднак будучыні ў Гомлі ў яго не было.

— Я сам звальняюся й еду ў Менск. Спадзяюся, там удасца зрабіць нешта вартае.

У пакоі, дзе ў Гомлі жыў Трухан, не было карціны па штукатурцы, як у Віцебску. Але й тут пастараўся мастак Лесін, які афармляў «Ладзьдзю Роспачы». Лесін пакінуў сваю думку пра будучыню рэжысэра ў Гомлі: ён намаляваў акварэльлю на вакне краты.

## ДОШКІ

**Мы з Баброўскім дамовілі машыну ў недалёкую ад горада вёску, каб прывезьці адтуль дошкі. Валодзя зьбіваў шчыты для нагляднай агітацыі. Тады многія мастакі зараблялі грошы, малюючы партрэты правадыроў ці пераносячы на шчыты розныя «дасягненьні». Называлася гэта, зразумела, халтурай.**

**Ехалі мы ў кузаве. Зьзяў радасны майскі дзянёк, грузавік ня дужа грамыхаў.**

**— Адзін стары габрэй мне раіў: не пакідай п'янку на заўтра, а дзяўчат на старасьць!**

**Хто з нас сказаў? Якая розьніца...**

**Каля пілярамы Баброўскі перагнуўся за борт да кабіны, паказваючы шафёру, куды заварочваць. Тыя людзі, якія прадалі дошкі, баяліся лішніх вачэй і склалі крадзенае ў бярэзьніку.**

Грузавік разварочваўся, а мы, саскочыўшы зь яго, улоўлівалі пах асакі, якая цьвіла блякла-зялёнымі каласкамі ў сырой нізіне. Пахлі й маладыя бярозавыя лісты — пакуль грузавік газаваў ня побач. Потым насунуўся ён з усімі сваімі «машыннымі» араматамі, і мы ўзяліся за дошкі, напілаваныя са смалістых сасонак. Шафёр заглушыў рухавік.

— Мы як удзельнікі эстафеты ад пакаленьня да пакаленьня. Ды, на жаль, не даведаемся пра яе мэту.

Майскі ветрык настройваў на размову пра лятучы час, пра чалавецтва, якое нясецца невядома куды. Мы ўсе бегуны на прамежкавых этапах эстафеты, канчатковага этапу няма, дакладней, непажадана, каб ён быў.

— Марыш пра неўміручасьць?

Ветрык шамацеў лістотай, у траве стракатала розная драбяза. Былі мы яшчэ ў той пары, калі словы пра канец жыцьця не працінаюць чалавека наскрозь. Мы не здагадваліся, што Баброўскаму засталося зусім мала.

Мы насілі негабляваныя дошкі і, небалюча заскабліваючы рукі, абменьваліся ўражаньнямі ад зазіраньня ў бездань. Я дасёньня перакананы, што сур'ёзна думаць пра чалавецтва, пра час, жыцьцё і сьмерць — гэта зазіраньне ў бездань. У старасьці ад яго нядоўга звар'яцець.

— А табе не здаецца, што жыцьцё наша нагадвае разбаўленае віно? П'еш, п'еш, а хмелю няма. Хочацца мацнейшага чаго.

У той час я стараўся вырвацца з-пад уплыву расейскага філёзафа Фёдарава зь яго філязофіяй агульнага дзела — уваскрашэньня ўсяго чалавецтва, усіх пакаленьняў, што жылі на зямлі. Фёдараву было ўласьціваe поўнае непрыняцьце сьмерці, ён усе намаганьні чалавецтва жадаў бы накіраваць на тое, каб спыніць давільню прыроды, выправіць найвялікшую несправядлівасьць, калі дзеці жывуць на касьцях бацькоў.

І Фёдараў памёр у сваю чаргу...

Не скажу, што я цалкам верыў яго прадказаньням, але ў філязофіі агульнага дзела, у адрозьненьне ад іншых, праблісквае містычная надзея. Дакладней, яна мне прымроілася, і я ведаю, калі: калі прачытаў думку амэрыканскага кібэрнэтыка Норбэрта Вінэра. Ён мог сабе ўявіць уваскрашэньне, калі навука атрымае пра чалавека вычарпальную інфармацыю.

Зразумела, і Норбэрт Вінэр памёр.

— Фантастыка, — уздыхнуў Баброўскі, закідваючы ў кодаб чарговую дошку.

— І як уваскрашаць?! — выгукнуў я. — Усіх уваскрашаць? Гітлера? Сталіна? А калі ня ўсіх, то яшчэ да ўваскрашэньня павінен быць Страшны Суд. Хто, акрамя Бога, яго зьдзейсьніць? Тады трэба верыць у Бога.

Баброўскі таксама задумаўся:

**— Якога мяне ўваскрашаць... Маладога, з наіўнай душой? Або цяперашняга, ужо змарнелага, калі я ня веру ў тое, у што верыў раней? Норбэрт Вінэр меў рацыю: патрэбная ўся інфармацыя пра чалавека. Але ж усяго пра сябе чалавек і сам ня ведае. Пра што марыш... І як потым ставіцься да сваіх мараў! Сёньня ты адзін, а заўтра... Не.**

**Зноў мы трэсьліся ў кодабе. Ужо на дошках. Халтура забірала ў Баброўскага час, энэргію, таму мне ўспамінаецца так, нібыта мы везьлі дошкі для труны.**

**Па абочыне дарогі йшла зграбная дзяўчына. Баброўскі засьмяяўся й сказаў:**

**— Калі прыкінеш, што праз колькі гадоў ні цябе, ні яе ня будзе... Як бы мы ні жылі!**

**— Ты скочваесься на банальнасьць.**

**— Але скочваюся.**

**І ён памёр у сваю чаргу.**

Яны з жонкай кладліся спаць, калі яму зрабілася кепска. Ён задыхаўся, хапаўся за грудзі. Прыгажуня-жонка, маладзейшая за яго, яшчэ менш ведала пра сьмерць і пра тое, як ратавацца ад яе. Яна цягнула мужа да расчыненага балькону — там лягчэй дыхаць.

Ён сказаў адзіную, напэўна, самую бясспрэчную для чалавека фразу:

— Як страшна паміраць...

## ПРЫМІРЭНЬНЕ

**У майскія дні й напачатку лета я ўпіваўся паркам. Асабліва калі прыходзіў сюды на сьвітанку, раней за іншых, любуючыся нетутэйшым трапятаньнем зары, туманамі — рэшткамі ночы, што сплывалі ўніз па рацэ. Якія цені ў няясным сьвятле мроіліся мне тут! Цароў і вяльможаў... мастакоў і паэтаў...**

Узыходзіла сонца, пераліваючы золата ў нябесны блакіт і на багатую па-паўднёваму зеляніну, сьвітанкавы вецер трывожыў дубы й грабы, вязы, клёны й ясені. Звычайныя сосны й чорныя, трывожыў ліпы, каштаны, кедры, лістоўніцы, гінкга...

Вось фантан з трыма чарамі, што стаяць адна на адной. За ярам была некалі альтанка са скіфскай каменнай бабай. Золата пралівалася на палац і сабор, на капліцу й масты.

Аднойчы ўначы на горад наляцелі майскія віхуры, насунулася залева. Усю ноч білі маланкі.



*Малюнак Андрэя Скідана*

**Віхуры й маланкі ўскалмацілі кароны дрэў, залева прыгнула іх да зямлі. А ранак надарыўся надзіва пагодны.**

**З мокрых галін сьцякала струмянямі вада, неба гарэла, гарэлі вітражы палаца, маёліка капліцы, мокры асфальт прысадаў, вада ў каронах і — лужынамі, расой — у траве. Спужаныя птушкі крычалі пасьля навальніцы, ашалелым агнём пранеслася ваверка. Я таксама быў нейкі апантаны тады і ўявіў сабе, што парк і палац ніхто ніколі не рабаваў, што адсюль ніхто нічога не вывозіў.**

Нібыта на месцах мармуровыя фігуры й бюсты старажытных філёзафаў, паэтаў, ваяроў і дзяржаўных дзеячоў — творы італійскіх, француcкіх і з той, старажытнай яшчэ, Грэцыі майстроў. На месцы манумэнт І.Паскевічу ў адзеньні рымскага палкаводца, бронзавая скульптура польскага князя й маршала Францыі Юзафа Панятоўскага на кані.

Пазалочаны купал палаца, мэбля зь Італіі, Францыі, венская, усходняя, мастацкая бронза — гадзіньнікі й кандэлябры, мастацкае шкло з Англіі, Багеміі, фарфор з Кітая, Расеі, Нямеччыны, усходнія дываны й габелены, дарагая зброя з Блізкага Ўсходу, Ірана, Каўказа й нашай зямлі, калекцыі ордэнаў, манэт, абразы, старажытныя й рэдкія кнігі.

Я бачыў скульптуры Кановы й Торвальдсэна, палотны венецыянца Каналета, Крамскога, Зічы, Дж.Доў, арыгінальныя гравюры й копіі з эрмітажных калекцый.

Не, мастацтва не бывае варожае! Сам палац беларусы колькі разоў перабіралі па цагліне, бо неаднойчы разбуралі яго чужынцы. І паркавая зямля, кожнае дрэва, кожная кветка... Нават ня ў гэтым справа! Праўда, што чужынцы да нас часьцей прыходзілі з вайной, яны звычайна прапальвалі сабе шлях, але потым па прапаленым шляху магло накіроўвацца рознае. У той жа Расеі заўсёды змагаліся два пачаткі.

І думалася мне: «Калі й цар зрэдку дарыў не траянскіх коней, то прызнай факты, не засланяйся ад іх».

Мікалай І ў 1850 годзе распарадзіўся правесьці Пецярбурска-Кіеўскую шасейку праз маёнтак свайго любімца І.Паскевіча. Безь яго б абмінулі... Тэлеграфная лінія Пецярбург-Севастопаль таксама прайшла праз маёнтак, пазьней праз Гомель былі пракладзеныя чыгункі: Лібава-Роменская, Палеская. Адно чаплялася за іншае.

Ад Расеі старой — звон ланцугоў, адданасьць рабскай даўніне, убоства адасабленьня ад сьвету. Ёй хапала іканапісу й ня трэба быў жывапіс, яна спынілася на гудошніках-сьвістунах, не прызнаючы новай музыкі, літаратурны росквіт прыйшоў насуперак сьвецкім стараверам. Яе, старой Расеі, галоўныя творы — пакорлівасьць, беднасьць матэрыяльная і ў выглядзе адзінадумства, яна, старая, дагэтуль супрацьстаўляе веды й веру, інтэлект і духоўнасьць.

Што дала Гомлю Слабада? І какошнік для яе быў вялікай распустай. Я не хачу бэсьціць Слабаду, яе прыстойнае, хоць і ня дужа вясёлае жыцьцё: людзі ўраблялі свае агароды, рыбачылі, майстравалі, маліліся Богу. Мне не зусім падабаліся чорныя хусткі жанчын і пагляды мужчын з-пад насупленых броваў, ды гэта ня важна. Хай кожны жыве, як хоча, пакуль не перашкаджае хацець і жыць іншым. Але не Слабада, а менавіта палац і парк прыцягвалі гомельцаў, хоць не заўсёды належалі ім. Адсюль упершыню данесьліся гукі аркестра, тут былі незвычайныя прадстаўленьні, аб якіх гаварылі нават сяляне, адсюль узялі пачатак чуткі пра скульптуры, партрэты, карціны з гістарычнымі сюжэтамі, пэйзажы, вазы й розныя заморскія дзівосы. Дый першую вадакачальную машыну ўстанавілі пры палацы.

**Колькі ўсяго нарабавана маскавітамі ў Беларусі! Гомельскі палац быў хоць малой кампэнсацыяй. Не праз Слабаду, а праз палац мы далучаліся да культуры.**

**Цяпер, калі імпэрскія клямары аслаблі, я разумею: менавіта старая Расея знайшла на Захадзе вучэньне Маркса, хай сабе й атэістычнае, але ж менавіта такое, якое дазваляла пабудаваць «железный занавес». Фанатыкі ў чарговы раз рашыліся на самаспаленьне.**

**Яны забралі ў нас усё, што здолелі — з таго дару новай Расеі. У час сакавіцкага 1919 году бунту ў Гомлі тульскіх палкоў маскоўскі эмісар Наркампросу В.Пашуканіс арганізаваў вываз каштоўнасьцяў з палацу. І тады, і цяпер, каб не паўстала пытаньне аб вяртаньні каштоўнасьцяў, распаўсюджваецца вэрсія, што ім пагражала небясьпека. Зьберaглі маскавіты! І дужа далёка схавалі.**

Дарэчы, Пашуканіс (якое прозьвішча!) зьявіўся ў палацы для перавозкі ў Маскву каштоўнасьцяў яшчэ да бунту. Зь яго справаздачы: «Скарбы палаца — каля ста пудоў золата й срэбра ў манэтах, каштоўнасьцях, вырабах прыкладнога мастацтва, у фамільных сэрвізах, у непаўторных мастацкіх творах былі вывезеныя ў Маскву й здадзеныя ў Гістарычны музэй...»

Чамусьці частка скарбаў апынулася ва ўстановах, у прыватных кватэрах Масквы й Ленінграда.

А тое, што не падскроб Пашуканіс, вывезьлі ў часе вайны з фашыстамі ды амаль нічога потым не вярнулі.

Пётар І для беларусаў не дабрадзей, але старая Расея ненавідзела й ненавідзіць яго больш за нас. Надзеўшы чырвоныя штаны, яна адабрала ў Пятрова горада імя й зрабіла яго Ленінградам. А ў нас былі адабраныя ўсе ранейшыя дары й кампэнсацыі, нашай вёсцы прызначылі калгасную галечу, нашаму гораду — дом камуны. Культуру чырвоныя стараверы хацелі абмежаваць «Лявоніхай», ручнікамі, нагляднай агітацыяй — сацрэалізмам.

Нядаўна гаварылі пра Гомель зь Міколам Труханам. Успаміналі Баброўскага й нашы даўнія размовы. Тут жа хачу згадаць толькі адну думку, якая прамільгнула ў апошняй гаворцы...................... адасобленасьць культуры можна назваць ідалапаклонскім грахом. Напэўна, кожны народ праходзіць гэты этап, кожная культура. У рэшце рэшт у кожнай культуры спалучаюцца свая арыгінальнасьць з адкрытасьцю сьвету..............................................

# ЛЁНДАНСКІ ВІТРАЖ

Уладзімер Арлоў



*На здымку: Спатканьне. Зьлева Ўладзімер Арлоў (XX ст.), справа егіпэцкая мумія (XX ст. да н.э.).*

## GREEN ХУТАР

Калі вы падымаецеся на борт карабля з жаночым імем Sally, які сьціпла завецца па-ангельску ferry, а па-наску паромам, на якім можна трапіць у Эўропу з сваім чатырохколавым сябрам, можна наведаць маркет і мяняльную кантору, парачку бараў і рэстарацыю, а потым затэлефанаваць з аўтамату каханай жанчыне, незалежна ад таго, дзе яна цяпер — у Парыжы ці ў Ганцавічах, калі вы падымецеся на гэтага камфартабэльнага жалезнага кіта, карыстаючы зь велікоднае бязьлюднасьці, нахабна ўладкуецеся ў лёгкай бэзавай смузе салёну адмірал-клясы й кінеце разьвітальны пагляд на марскі фасад порту Ramsgate, які быццам кагадзе вымылі дажджом з духмяным шампунем, Англія можа здацца вам утульным зялёным хутарам з авечкамі на спадзістых пагорках, з квітучымі ў сакавіку вішнямі, «жабінымі вочкамі» і магноліямі, а таксама з тубыльцамі, што — як і належыць сапраўдным хутаранцам — глядзяць на вас трохі звысоку, дзівячыся, як гэта вы трываеце правабаковы рух транспарту, і дагэтуль у сутоньлівай глыбіні душы праклінаюць 1971 год, калі іхні фунт стэрлінгаў, што раней быў роўны 240 pence або 20 шылінгам, пачаў, на ўзор гэтых ненармальных эўрапейскіх валютаў, утрымліваць усяго нейкую няшчасную сотню пэнсаў.

Каб не ўгнявіць яе вялікасьць каралеву з падданымі, сьпяшаюся заначыць, што слова «хутар», як і схаваны за ім сьвет, заўсёды мелі для мяне безагаворкава станоўчы сэнс. Нават тыя занядбаныя заходнебеларускія хутары, куды саветы забаранялі праводзіць электрычнасьць, каб сьсяліць іхніх старых зацятых гаспадароў у калгасы, нязьменна выклікалі ў мяне пачуцьці, афарбаваныя ў пастэльныя тоны прыхільнае зайздрасьці да іх насельнікаў, бо зь дзяцінства я падсьвядома адчуваў, што хутары — у розных сваіх іпастасях — далі чалавецтву нязьменна болей за вялікія гарады.

## «МОЙ ЛИЧНЫЙ ОРГАЗМ»

Але перш чым вы назапасіце дастаткова ўражаньняў і адвагі на рызыкоўныя мэтафары й параўнаньні, вам давядзецца перажыць сякія-такія сухаземныя й марскія прыгоды — спадзяюся, што ня ў духу аднаго з хутаранцаў, Уільяма Голдынга, аўтара раману «Ўладар мухаў», зь якога ў далёкай шостай клясе пачалося маё знаёмства з ангельскай літаратураю.

Асабіста мне дзеля гэтага давядзецца скінуць кілеграмаў пяць жывое вагі падчас афармленьня візаў; зьявіцца ўначы на менскі вакзал і ўбачыць там бадзягу ў скураных штанах, які смачна храпе на сваіх бязьмежных валізах, закрыўшы прышчавы твар папулярнай у нашым народзе газэткаю «Двое» з артыкулам «Мой личный оргазм»; сесьці ў цягнік «Масква-Парыж» і праехаць палову Эўропы з чарнявым пасажырам Эдуардам, які будзе частаваць мяне чульлівымі аповядамі пра ерэванскага тату й марсэльскую maman уперамешку з сумнеўнымі францускімі (або армянскімі) сэнтэнцыямі кшталту: «Жанчыне трэба вельмі многа, але ад аднаго мужчыны, а мужчыну — велі мала, але ад вельмі многіх жанчынаў». Рэшту дарогі на роўнядзях і камяністых узвышках Брабанту й Фляндрыі я буду бавіць з маскоўскімі праваднікамі Вовам і Колем, якія пачнуць наліваць адзін аднаму ад Берасьця да поўнае нірваны, што апануе іхнія загартаваныя істоты толькі ў прадмесьцях Брусэлю, калі Вова выкуліцца са службовага купэ ў адных сямейных трусах, падобны да каўбоя, які, прыняўшы нечалавечую колькасьць whisky, выпаўзае з салюну, сядае на каня й скача адразу ва ўсіх накірунках сьвету, а Коля, зачыніўшы Вову на замок, надзене форму і, палохаючы рэдкіх пасажыраў, пацягнецца па вагоне жабраваць, сьпярша выдаючы сябе за аднарукага, а потым жахаючы маладых немачак, што селі ў Аахене, выцягне «адарваную на фронце руку» з расшпіленае шырынкі. Скончыцца тым, што на дапамогу Вову з Колем прыбяжыць іхняя каляжанка, якая, мусіць, бывала ў Абхазіі або чытала «Сандра з Чэгему» Ф.Іскандэра, бо гарэлку яна будзе любасна менаваць «нашаю валяр'янкаю».

## ІРЛЯНДЗКІ ТЭРАРЫСТ

У бэльгійскім порце Астэндэ вы зможаце высьветліць, што паром у ангельскі Дуўр, куды вам без усякага валаводжаньня выпісалі білет у Менску, ужо паўгода ня ходзіць, і — калі хопіць вашага красамоўства й замежнае мовы — вас усё ж пасадзяць з гэтым білетам на карабель у Ramsgate. Крый Божа, калі пры гэтым ваш мужны, абсівераны эўрапейскімі вятрамі й трошкі чырвоны ад валяр'янкі твар будзе аздоблены рудавата-мядзянаю барадой. Тады — іду ў заклад — бездакорна ветлівы ангельскі мытнік з завушніцаю ў правым вуху адразу возьме вас на сваё чэпкае вока як тэрарыста Ірляндзкае Рэспубліканскае Арміі й вас чакаюць татальныя агледзіны — ад пакамечанай кепуркі да пачочка з зубачысткамі — прычым (калі вы маеце раптам дачыненьне да прыгожага пісьменства) гэтага сына альбіёну не зьбянтэжыць знойдзеная ў валізе беларуская кніжка з вашым фэйсам на вокладцы.

Трэба меркаваць, што крывапускальных шэрагах IRA пракідаюцца й беларусы. Ніякай іроніі тут і не начавала: гісторыкам добра вядома, што ў аддзелах генэрала Булак-Балаховіча было колькі кітайцаў і, калі аднаго зь іх схапілі чэкісты, жаўтатвары ваяка на пытаньне пра нацыянальнасьць з годнасьцю адказаў: «Беларуза».

Магчымасьць зноў пабыць у шкуры ірляндзкага тэрарыста вы атрымаеце на сталічным вакзале «Victoria» — асабліва калі, як у маім выпадку, хлапцы зь IRA якраз напярэдадні, зьеўшы ў суседнім McDonalds'е свае «біг-макі», акуратна апусьцяць у сьметніцы паўтузіна бомбаў, якія неўзабаве пазбавяць прысутных прыкладна такой самай колькасьці рук, ног і галоў, а таму пэроны й пачакальні ў дзень вашага прыезду будуць нашпігаваныя паліцыяй, што вынайдзе такі кардынальны сродак па барацьбе з тэрарызмам, як вываз з вакзалу ў невядомым накірунку ўсіх сьметніц.

## ЦАРКВА СЬВЯТЫХ ПЯТРА Й ПАЎЛА

Наведаўшы за свае сорак гадоў некалькі сотняў цэркваў, касьцёлаў, кірхаў, мячэтаў, сінагогаў, паганскіх капішчаў (і нават прытулак сібірскага шамана, дзе пахла дарагімі цыгарэтамі й таннай гарэлкай), у некаторых зь іх — напрыклад, у полацкай Сафіі, у віленскім касьцёле сьв. Ганны ці ў Спасаўскай царкве Еўфрасіньнеўскага манастыра — я сапраўды пачуваў сябе ў храме. Але — даруйце мне, храмы маёй Бацькаўшчыны ў яе этнаграфічных межах, — найглыбейшым гэтае адчуваньне было ў Беларускай грэка-каталіцкай царкве сьвятых апосталаў Пятра й Паўла на Holden Road. І рэч ня ў тым, што там пасьля набажэнства да вас не падыйдзе а. Міхаіл Уляхін і не пачне соты раз пераконваць, што Скарыну звалі Георгіем, а Іван Грозны вызваліў Полацак ад лацінскіх схізматыкаў — як у Спасаўцы; і ня кінуцца адразу некалькі заўзятараў, каб узахапы даводзіць, што менавіта ім павінен належаць сабор, які пабудавалі праваслаўныя (узарвалі на загад Пятра I таксама праваслаўныя), аднавілі ўніяты, а маліліся

*Працяг на старонцы 12*

Газэтны варыянт.

# ВЯДЗЬМАРКА І ДОЖДЖ

Юрга Іванаўскайтэ

— Я ВЕДАЛА, ШТО НІХТО НЕ ПАЗЬБЕГНЕ ПАКАРАНЬНЯ... — прамовіла М.В., і ёй здалося, што ад усяго зьнямелага цела толькі й застаўся жаласны, непрыемна асіплы голас. — Ведала ад таго самага моманту, як спаткала Паўла Птушніка на сьцяжынцы сярод усеяных белымі птушкамі лугоў і азерцаў. Ніколі ня думала, што пакараньне будзе такое...

— Без сумлеву, — са сьмехам правішчала Безымянка. — Ты спадзявалася, што кара будзе нашмат больш мэтафізычная. Нетутэйшая. Поўная жахлівых таямніцаў. Ты ўяўляеш, што намі кіруе невядомы, воку нябачны сьвет, які расьсьцілаецца па той бок рэальнасьці, — магутны, цудоўны сьвет, што будзіць неспакой. Спадзявалася, што кара будзе вартая яго. Што цябе будзе судзіць сам Бог, а ня людзі, так? Але Бог пра нас зусім ня рупіцца. Зь яго вышыняў усе нашы грахі й злачынствы здаюцца такімі малымі, залішне чалавечымі. Ты спадзявалася пекла, прасякнутага фанатычнымі фарбамі, а задыхаесься ў гэтай шчыліне, ва ўласных экскрэмэнтах. Ты чакала інфэрнальных пакутаў, апісаць якія чалавечыя словы бясьсільныя. А цябе толькі адзін за адным згвалціць тузін салдатаў. І кінуць у вогнішча. І ўсяго... Сьмерць ня ёсьць ніякай брамаю ў той сьвет. Усё роўна, куды — у Рай, Пекла ці Чысьцец. Сьмерцю ўсё й канчаецца. Павер мне. Столькі тут прабыўшы, я мела даволі часу, каб зразумець гэта. Я ўяўляю тваё расчараваньне. Ну, можа, кароткае імгненьне, калі цябе ўздымуць на кучу ламачча, прывяжуць да слупа й падпаляць, калі ўспыхнуць першыя языкі полымя, а натоўп завішчыць ад захапленьня, бо яшчэ не адчуе смуроду гарэлага цела, — можа адчуеш асалоду заслужанай, жаданай кары...

— Не, няпраўда. Усё ня так. Кара распачалася ў тое імгненьне, як ён упершыню абняў мяне. Не, яна пачалася яшчэ раней: як толькі я ўбачыла Паўла Птушніка, і мне здавалася, што ён уважліва пазірае толькі на мяне, на мяне адну.

— Ты гаворыш залішне цьмяна, шаноўная, — прасычэла Безымянка й вільготнымі кашчавымі пальцамі сьціснула руку М.В.

— Добра. Пастараюся расказаць усё як найпасьлядоўней, — сказала М.В., дарэмна спрабуючы вызваліць сваю далонь з учэпістых абцугоў Безымянкі. — У той самы вечар, як і абяцала, у маю кельлю зайшла Рака. Яна прынесла збан віна й дзьве цяжкія гліняныя чары. Мы селі на падлогу насупраць агменю, і, п'ючы віно, глядзелі на полымя. Але калі Рака загаварыла, я ўжо не магла адвесьці вачэй ад яе твару, падсьвечанага чырвонымі водбліскамі агню. Рака апавядала, як яна зьявілася ў кляштары восем гадоў таму, калі толькі папаўзлі чуткі пра цудатворную сілу Паўла. Яна хварэла на страшную невылечную хваробу. Тады Павал быў яшчэ толькі просты манах-францішканец, хоць і меў надзвычайную сілу, а на яго далонях і ступнях ужо некалькі разоў перад Вялікаднем адкрываліся стыгматы.

— Тады яго валасы былі чорныя, як вугаль. А цяпер, бачыш — зусім пасівелі, — сказала Рака, і я зразумела, што яна ведае пра нашу сустрэчу.

Але яна больш пра гэта не ўспамінала й прадаўжала свой аповед. Сем гадоў таму Павал жыў у тым флігелі кляштара, дзе цяпер уведзена найсуровейшая кляўзура. Яго кельля пустая дагэтуль. Кожнага, хто спрабаваў у ёй жыць, ахоплівала невыносная журба, зьмяшаная з прыступамі плаксівай роспачы або вар'яцкай радасьці. Гэтыя пачуцьці бывалі настолькі моцныя, што няшчасны, або — як пачалі называць пазьней — апантаны, пазбаўляўся розуму, засільваўся, а часам проста бясьсьледна зьнікаў.

Толькі праз некалькі гадоў удалося высьветліць прычыну згубнай зьявы. Гэта была... музыка. Яна лілася немаведама адкуль, нібы хтосьці нябачны дзьмуў у ангельскі ражок адно й тое ж сугучча: соль-ля-до-мі, соль-ля-до-мі, соль-ля-до-мі... Рака адкінула галаву й аксамітным голасам прасьпявала мэлёдыю: соль-ля-до-мі, соль-ля-до-мі, соль-ля-до-мі... Мяне праняў жах. Яна наліла яшчэ віна й апавядала далей.

Тады, сем гадоў таму, стракатыя папугайчыкі вакол Паўла яшчэ ня лёталі. Усе яны, высечаныя з шэрага каменю, сядзелі ў храме, у ніжняй галерэі ўсходніх хораў. Але вось надыйшоў адзін Вялікдзень — быў ён асаблівы тым, што падчас цьвіценьня садоў выпаў сьнег... Успомніўшы, як ад сьнегавой ношы й ад квецені ламаліся галіны дрэў, Рака нават змахнула пару сьлёз. Шмат хто прарочыў, што такія нябёсныя знакі сьведчаць не пра што іншае, як пра набліжэньне голаду, а таму сабраныя ў храме людзі маліліся асабліва горача. І як тут словамі пераказаць страшлівую, проста невыносную ліхаманку, што скаланула цэлы малельнікаў, калі брат Павал, які кленчыў насупраць алтара, раптоўна прыўзьняўся на добрую пядзю ад зямлі?! У храме стаяла незвычайная цішыня. Толькі дзенідзе чутныя былі глухія ўдары — падалі непрытомныя кабеты.

Здавалася, што ўжо ніколі ніхто ня зможа вызваліцца ад гэтай гнятлівай зьнясільнай малітоўнай цішыні. Нечакана загрымеў яшчэ адзін гук — востры й пранізьлівы. Нейкія зялёныя, жоўтыя й блакітныя аскепкі пасыпаліся на схіленага ў малітве Паўла. Рацэ здавалася, што рассыпаліся вітражовыя шыбы, бо напружаньне ў храме было проста невыноснае, як у гіганцкай галаве, калі ад мітусьні або

*Працяг на старонцы 12*

**Юрга Іванаўскайтэ скончыла аддзяленьне графікі Віленскага мастацкага Інстытуту, выдала зборнікі апавяданьняў «Пара ландышаў» (1985), «Як выгадаваць страх» (1989), раманы «Дзеці Месяца» (1988) і «Пякельныя сады» (1992). П'еса «Дзеці Месяца» была пастаўлена ў Акадэмічным тэатры драмы ў Вільні. Раман «Вядзьмарка і дождж» ("Ragana ir lietus", 1993) стаў найбольш вядомым творам і быў нават забаронены для шырокага продажу за адкрытае апісаньне эратычных сцэн.**

# ЛЁНДАНСКІ ВІТРАЖ

*Працяг са старонкі 11*

ў якім перад яго закрыцьцём рыма-каталікі — як у Сафійцы. І ня ў тым, што там заўсёды — і ў літургіі, і ў казаньні — гучыць свая, а не чужая мова — як над гатычнымі нэрвюрамі сьв. Ганны, дзе нашае слова ня будзе прамоўлена з амбону ўжо ніколі.

Прычыны адчуваньня такое сумоўнасьці з храмам наўрад ці наогул можна растлумачыць, гэтаксама як немагчыма зразумець, чаму, калі я пераступіў яго парог, з дна памяці залаціста-зялёнаю рыбінаю ўсплыло выслоўе Ляона Блуа пра тое, што гісторыя — бясконцы літургічны тэкст, дзе ёты й кропкі маюць ня меншую значнасьць за вершы або цэлыя разьдзелы, хоць сэнс адных і другіх нікому няведамы й схаваны за сямю пячаткамі.

Каб вы маглі згадзіцца альбо не згадзіцца са мною, зычу вам калі-небудзь памаліцца ў лёнданскай беларускай царкве самім — тады й вы будзеце захоўваць сярод сваіх папераў расклад набажэнстваў Вялікага тыдня, а сярод незбуцьвелых успамінаў — згадкі, як несьлі плашчаніцу або як прылеглі перад усяночнай падрамаць у пакоі з галяграфічным укрыжаваньнем і, расплюшчыўшы вочы, на хісткай кладцы паміж яваю й сьненьнем убачылі, як на выклеенай бледна-блакітнымі шпалерамі сьцяне пераліваюцца ўсімі колерамі зьменлівыя ўзоры дзіцячага калейдаскопу.

### АЙЦЕЦ АЛЯКСАНДАР

Калі вы ня ведаеце, што такое шчыры передвелікодны пост, вам трэба пабачыць, зь якой асалодаю п'е ўраньні на Вялікдзень гарбату з малаком айцец Аляксандар Надсон, апостальскі візытатар беларусаў-каталікоў, рэктар беларускае каталіцкае місіі Англіі й Францыі, дырэктар музэю й бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане, дзе слуцкіх паясоў, здаецца, болей, чым ва ўсіх музэях Беларусі разам узятых і дзе я пабачыў здымак са спробаю выцягнуць зь Дзьвіны пад Полацкам «Барысаў камень» — фатаграфію, зробленую ў той час, калі самураі яшчэ не прадавалі нам ультрасучаснае тэхнікі, а прыкідвалі, у якую ноч «перейти границу у реки»? (Потым, калі гэтая тэхніка зьявіцца, камень усё-ткі вырвуць зь ягонага спаконвечнага гнязда й падымуць да Сафійскага сабору на ўсьцеху сьціпламу й невядомаму аматару даўніны, які ўначы адаб'е ад «Барыса-хлебніка» пудовы кавалак граніту на сувэніры, а таксама на радасьць нясьціпламу й вядомаму пісаку, што прысьвеціць гэтай падзеі чульлівы опус пра вольналюбных старажытных палачанаў, якія, каб не аддаць сямідзесяцітонную сьвятыню дзікім чынгісханаўскім ордам, скінулі яе ў Дзьвіну нямаведама як і навошта — бо ніякіх чынгісханаўцаў тут і не начавала — без усякае японскае тэхнікі цягнулі яе пяць кілямэтраў па дзьвінскім рэчышчы.)

Як вадзіў па бібліятэцы, дзе перахоўваюцца рукапісы Купалы, Коласа й Ластоўскага, дзе вы можаце ўзяць у рукі «Хроніку Эўрапейскае Сарматыі» (1581) колішняга віцебскага каманданта італійца А.Гваньіні, што беспардонна сьпісваў у свайго падначаленага М.Стрыйкоўскага, або пагартаць ломкія старонкі выдадзенага ў 1722 годзе ўніяцкаю друкарняю ў Супрасьлі «Собранія припадков краткого...» — між іншым, адзінага цалкам беларускамоўнага выданьня на ўсё XVIII стагодзьдзе?..

### КАСТУСЬ АКУЛА

Спадар Акула жыве на канадзкім беразе возера Антарыё. Ён падгадоўвае чатырох вавёрак, якія нядаўна распавялі пра дабрадзея пятай; ён называе сябе птушатнікам і са скрухаю кажа, што сёлета ў Таронта памерлі ад марозу ці ня ўсе вераб'і, ён вельмі любіць сарокаў, якіх у Канадзе, як выявілася, нямашака, і таму тамтэйшым жыхарам яны здаюцца экзотамі накшталт чыюкоў ці калібры.

Уладкаваўшыся на сваім заакіянскім беразе, Кастусь Акула выдае часопіс «Зважай» ды піша кнігі пра заходнебеларускую вёску й пра хлапцоў зь Менскае школы камандзераў Беларускае Краёвае Абароны, што перайшлі на бок французскіх макісаў і ваявалі на Апэнінах, а таксама вясёлыя гісторыі пра жыхароў канадзкага мястэчка Сторывіл, што й ня думалі пратэставаць супраць бальшавіцкай мясарэзкі, затое, як толькі саветы запусьцілі ў космас сабакаў (кажуць, адзін дужа вядомы дзіцячы паэт азваўся на гэтую гістарычную падзею векапомнымі радкамі: *І доўга брахалі сабакі // Над нашай савецкай зямлёй*) імгненна зарганізавалі грамадзкае таварыства для выратаваньня чацьвераногіх касьмічных вязьняў.

Раней у вольны час сп. Акула ладзіў вынаходлівыя антысавецкія акцыі, або, як сказаў бы мастак Саша Пушкін, які таксама прычыніўся да гэтага мастацкага жанру, хэпінінгі кшталту прывітальнага слова на цырымоніі сустрэчы «Краснознамён-

# ВЯДЗЬМАРКА І ДОЖДЖ

*Працяг са старонкі 11*



*Здымак Алены Адамчык*

цяжару думак кроў б'е ў скроні. Але здарылася нашмат больш дзіўная рэч. Каменныя папугайчыкі вырваліся з рэльефу, набылі жыцьцёвыя сілы, колеры, галасы і, як стракаты балдахін, павісьлі над Паўлавай галавою. І цяпер у ніжняй галерэі ўсходніх хораў усё яшчэ віднеецца мноства ямачак, нібы хтосьці страляў зь невялічкай гарматкі ядрамі велічынёй з кулак...

Велікоднай нядзеляй Павал пакінуў кляштар і, надумаўшы жыць як пустэльнік, пайшоў у лес. Папрасіў толькі аднаго — чорных доўгіх шатаў з шырокімі рукавамі й вялікім каптуром. Рака за ноч пашыла тое, што ён прасіў, і раніцой у дамоўленым месцы, на камені, паклала чорны габіт. Павал ад таго часу празваны Птушнікам, не зьявіўся. Рака прыйшла на тое самае месца пад вечар, і адзежыны на камяні ўжо не было. Можа, гэта было супадзеньне, але ў той дзень ёй споўнілася дваццаць гадоў.

— Павал поўнасьцю вылечыў маю сьмяротную хваробу, — вымавіла Рака, наліваючы рэшткі віна ў сваю чару. — Але ведаю толькі адно: там дзе яго няма, я не змагла б жыць. Таму я тут. І буду тут. Адчуваю й іншае — я патрэбная яму... — і яна зазьзяла ў сваёй шырокай бяззубай усьмешцы.

Мяне ахапіла крыўда й горыч. Проста гняла да зямлі рэўнасьць. А Рака голасам неапісальна шчодрага й багатага чалавека заявіла:

— Калі хочаш, заўтра можам разам пайсьці да яго. Толькі трэба рана ўстаць. Перад узыходам сонца я прыношу яму малака. І так ужо пяць гадоў.

Наступнай раніцы Рака ціха пастукала ў мае дзьверы. Тым разам мне было незразумела, чаму яна дзеліцца сваёй таямніцай. Аднак я хутка здагадалася: яна хацела падзяліць не таямніцу, а пакараньне.

Раніца была золкая й сырая. Мы йшлі моўчкі, чулася толькі, як у гліняным збане плёскаецца малако. Рака вяла мяне дарогай, якая ўсё больш рабілася падобнай да лябірынту. Адна я няздольная была б вярнуцца ў кляштар. Я некалькі разоў спрабавала завесьці гутарку, але Рака зацята маўчала. Мы ўвайшлі ў лес. З дрэваў гучным шолахам зрываліся кроплі, як быццам толькі што прашумела моцная залева.

Зусім нечакана мы выйшлі на невялічкую прагаліну. У зеленаватым ранішнім паўзмроку жаўцелі нечакана вялікія — як яечны жаўток — кветкі латаці. А калі мы ступілі наперад, высокія травы, мятліца й мяккія лісты захваляваліся, зашумелі, як бы падзьмуў вецер. На ўскрайку прагаліны тырчала вялікая рудая скала, якая ў гэтым месцы выглядала дужа дзіўна — быццам яе хтосьці скінуў сюды зь неба. Тут і жыў пустэльнік.

Рака адхінула заслону, сплеценую з галінак, карэньня, лісьця, і ўвайшла ў сярэдзіну скалы. Я з дрыготкім сэрцам увайшла за ёй. Мы апынуліся ў цеснай, прасякнутай водарам пахнідлаў і цьвілі прасторы. Было амаль зусім цёмна, толькі слаба міргала алейная лямпка, павешаная насупраць драўлянага расьпяцьця. Ніколі я ня бачыла нічога падобнага. Твар Расьпятага быў да гідлівасьці непрыгожы, вочы пукатыя, рот скрыўлены ў перадсьмяротным мучэньні. Хутка я прызвычаілася да прыцемку. Заўважыла саламянае логава, засланае дзяругай, некалькі кніг, пакладзеных на пень, што служыў сталом.

Паўла Птушніка тут не было.

Рака паставіла збан з малаком на пень, побач з кнігамі, і мы выйшлі на двор. Раптоўна зацвыркалі птушкі, і прагаліну заліло ружаватае сьвятло. Узыйшло сонца.

Моўчкі мы йшлі назад. Мяне разрывалі расчараваньне й сьляпая радасьць. Я расчаравалася, што так і ня ўбачыла пустэльніка ў ягоным прыстанішчы, але цешылася, што й Ракі ён не чакаў. Можа, так было й на працягу тых незьлічоных раніц на працягу пяці гадоў, якім я страшна зайздросьціла, думаючы пра Раку. Толькі адно пытаньне мяне мучыла — калі й як яна паведамляе пустэльніку імёны новапрыбылых?

Раптам затрашчалі галінкі дрэваў. Я застыла, баючыся ўбачыць якога ляснога звера, але гэта быў ён — Павал Птушнік. Рака тут жа ўкленчыла на вільготным моху. Стала на калені й я, саромеючыся, што таго дня, калі сустрэла пустэльніка, ня ўкленчыла. Мох цьвіў драбнюткімі кветачкамі-зоркамі, а вільгаць прасочвалася ў грубую тканіну майго адзеньня. Птушнік падыйшоў зусім блізка. Я глядзела на ягоныя босыя ногі.

— Здаровенькі былі, мае даражэнькія, як выспаліся? — спытаўся ён такім тонам, быццам мы былі яго дочкамі.

Рака ўстала. Я таксама. Яна пацалавала руку пустэльніка. Я не адважылася.

— Ці шмат людзей прыбыло ў кляштар? — спытаўся ён і пагладзіў Рацэ галаву, так, як і мне ўчора.

Калі б я не стаяла слупам побач, напэўна б ён яе абняў. Горыч і рэўнасьць проста душылі мяне. А Рака, гледзячы Птушніку ў вочы, называла імёны новапрыбылых. І яе вочы сьведчылі зусім ня тое, што вусны. Я бачыла. І мне рабілася невыносна сумна.

— Ці ты бачыла калі, як квітнее ляшчына? — спытаўся ў мяне Павал Птушнік, калі Рака скончыла гаварыць.

Я разгубілася, бо ня ведала, што адказаць. Пустэльнік узяў мяне за руку, моцна пацiснуў, і, гладзячы ўказальным пальцам маю далонь, адвёў у бок. Куст ляшчыны схіляўся пад цяжарам таўкачыкаў колеру золата. Я заўсёды думала, што гэта й ёсьць яго кветкі.

— Стой, даражэнькая, паглядзі, якая пекната! — вымавіў Павал Птушнік і, далікатна ўзяўшы за карак, прыгнуў маю галаву да сьвежазялёных, толькі што распушчаных лісточкаў. Паміж іх чырванелі маленькія, надзвычай прыгожыя кветачкі.

— О, так, — прашаптала я, — вельмі, вельмі прыгожыя. Ня ведала, што кветкі ляшчыны такія чырвоныя...

Рака назірала за мной з паблажліваю ўсьмешкай. Папугайчыкі скакалі наўкола й вырывалі з моху дзівачныя фіялетавыя пупышкі.

— Ну, даражэнькія, мне пара! — сказаў Павал Птушнік і ўхапіў абедзьвюх за валасы. Мяне правай, а Раку — левай

# Жалезныя абдоймы братэрства

*Зь літаратурнага жыцьця Босьніі й Герцагавіны*

Ваенны зьезд пісьменьнікаў Рэспублікі БіГ праходзіў пад назвай «Пісьменьнік і айчына». Няцяжка даўмецца, што дэвіз гэты стаў нагодай для крыку людзей прыніжаных і здраджаных, поўных горычы й разгубленых у новай сыстэме вартасьцяў. Можа быць, толькі наступныя пакаленьні здолеюць выгукнуць гэты крык па-мастацку. Але гэта наш крык — сказаў адзін з удзельнікаў зьезду.

У сваёй Дэклярацыі пісьменьнікі пацьвердзілі, што адзіная айчына для іх — мова, а таксама ўсё, што ў іх «цераз гэтую вайну адбіраюць ці намагаюцца адабраць».

## ДА ЧЭТНІКАЎ ЦІ ДА ЎСТАШОЎ

Парадзелі шэрагі Таварыства Пісьменьнікаў БіГ. Некаторыя пайшлі да «чэтнікаў», іншыя — да «ўсташоў» і «са школьных чытанак страляюць сёньня ў сваіх вучняў». Некаторыя папросту пакінулі Сараева. Некалькі памерлі ў жорсткіх ваенных умовах, сярод іх Міодраг Заліца... Ксэраграфічны адбітак з тэкстамі прамоваў на зьезьдзе — белы ў чорнай рамцы — мусіць асацыявацца з нэкралёгам.

З трохсот сяброў Таварыства засталося няпоўных пяцьдзесят, між якімі найбольш басьнякоў, а таксама харваты й сэрбы, адзін албанец і адзін чарнагорац. Пад басьнякамі ўжо даўно разумеліся мусульмане, хоць гэтая назва афіцыйна была прынятая толькі сёлета. У Дэклярацыі гаворыцца пра вайну супраць «басьняцкага, мусульманскага народу», але ў наступным абзацы — пра вартасьці, якія «зрабілі БіГ прасторай шматкультурнай, шматнацыянальнай і шматрэлігійнай».

Як жа зьмяніліся на працягу двухгадовай вайны басьнійскія пісьменьнікі. Зьмяніўся й Ізэт Сарайліч, сябра Парыжу й Масквы, якога цёпла прыймалі на пісьменьніцкіх зьездах у Бялградзе і ўсёй былой Югаславіі. Расчараваны Сарайліч не зьдзіўляецца, што «пад штандары фашызму» падаўся ягоны стары прыяцель, сэрбскі паэт Райко Петров Ного, які «нават у Месяцовай Санаце чуў гусьлі», але «ніколі не зразумее», як выдатная й блізкая яму сэрбская паэтка, пажылая Дэсанка Максімавіч, «магла да сьмерці сядзець у першым шэрагу й пляскаць у ладкі забойцам». «Не патрэбныя мне ўжо ні Парыж, ні Масква, ні нават Гельсінкі, — сказаў на заканчэньне паэт. — Няхай мне толькі зноў будзе вольна перад засынаньнем, пры сьвятле начной лямпы, у чыстай пасьцелі, прачытаць кагосьці з улюбёных пісьменьнікаў».

## КАМА-СУТРА ПА-СЭРБСКУ

Горш, калі поўныя горычы пісьменьнікі, асабліва мусульманскія, прамаўляюць чорна-белаю мовай нянавісьці. Кама — гэта гатунак нажа, стылета, якім паслугаваліся між іншым усташы падчас II сусьветнай вайны. Паводле Мірка Ковача, прэзыдэнт Мілошавіч выкарыстоўвае цяпер нашчадкаў ахвяраў усташоўскай камы як забойцаў. На гэтым, — дадае адзіны на зьезьдзе, затое востры чарнагорац, паэт Марко Вэсовіч, — засноўваецца «сэрбскае мастацтва гвалтаваньня й мардаваньня ў сямідзясяці двух паставах», згодна зь лёзунгам: Kama-juce, kama-danas, kama-sutra (Кама-ўчора, кама-сёньня, кама-заўтра).

Хваля нянавісьці спляжвае вобраз мінуўшчыны. Мы былі істотамі двухаблічнымі, — кажуць некаторыя пісьменьнікі, — у імя заплянаванага экспэрымэнту разводзілі красамоўства, заключалі згоду хутчэй для выгады, чым ад любові. А калі й ад любові, то ад «любові да страўніка». Хлусьні было больш, чым праўды. Мы пакорліва жылі ў сьвеце аблуды. Цяпер, пасьля скіданьня масак, ужо вядома, што ў нас няма братоў.

# ВЯДЗЬМАРКА І ДОЖДЖ

*Працяг са старонкі 13*

насьць. Зь лесу я выбралася толькі каля палудня. Апынулася сярод тых неабдымных лугоў з азерцамі, у якіх адлюстроўваецца неба, дзе ловяць жабаў буслы й кішаць белыя вострадзюбыя птушкі.

Дзень нагадваў кашмарны сон. Я прапусьціла ранішняе спатканьне з Паўлам Птушнікам на Паляне Надзеі. Не пасьпела ні на адзін перадпалудзенны малебен. За полуднем не змагла праглынуць і кавалка, бо саму мяне захлынала рэўнасьць: я нідзе не сустрэла Ракі і не магла адбіцца ад думкі, што яна цяпер якраз з Паўлам Птушнікам. Пасьля абеду, як апантаная злым духам, я зноў пацягнулася ў лес. Гэтым разам я агледзела многа лужкоў зь вялізнымі, нібы яечны жаўток, кветкамі лотаці, але ні на адным не віднелася скала пустэльніка. Аднойчы зглядзела сярод жоўтых кветак лотаці сем белых котак, што грэліся на сонцы. Заўважыўшы мяне, яны падскочылі, натапырыліся, выгнулі сьпіны, мяўкалі й паблісквалі незвычайна блакітнымі вачыма так, бы зьбіраліся кінуцца на мяне. Мне было неспакойна, сумна, сумленьне грызьлі папрокі, а ўсю істоту — жахлівая рэўнасьць. Пасьля заходу сонца я ўцерлася ў натоўп, што сьпяваў малітвы на Паляне Надзеі, але была як заклятая: шукала й шукала Раку. Дарэмна.

Я магла суцяшаць сябе тым толькі, што прызначаны мне позірк Паўла Птушніка гэтым разам быў асабліва доўгі, уважлівы, проста пякучы. Але гэтага ўжо было недастаткова. Зусім недастаткова!

Рака не зьявілася нават падчас вячэры. Я адчувала сябе нібы ў яме з распаленым вугольлем. Не пайшла маліцца ў храм, затое наведала разбураную капліцу. Авечак не было відаць, аднак ля дзьвярэй віднеліся палеглыя паўколам белыя кошкі. Я баялася прайсьці паўз іх, каб зноў не пачалі тапырыцца, выгінаць сьпіны, шыпець, бліскаць блакітнымі вачмі. Калі нарэшце я адважылася, яны пачалі пяшчотна туліцца мне да ног, муркаць і лашчыцца. Я забавілася зь ветлымі зьвяркамі, хоць па праўдзе чакала прыходу Паўла Птушніка. Як і мінулага вечару, неба было колеру золата.

Я зайшла ў капліцу. Раптам маё сэрца пачало шалёна біцца. Ля алтара гарэла некалькі сьвечак, а на яго ўзьлезла Рака й абрывала дзікі вінаград ды жоўтыя кветкі. Яе фіялетавая спадніца была падкасаная, і я з зайздрасьцю ўтаропілася на яе доўгія, тонкія, дзівосна белыя ногі. Адчула пах фарбы. Зрэнка Вока Творцы была раскрытая й чорная, абалонка — смарагдавая, а бялок зьзяў, як першы сьнег. Яно пазірала з трохкутніка, вымаляванага чырвонымі вогненнымі языкамі. Я падыйшла яшчэ бліжэй. Лыткі Ракі былі абпырсканыя фарбай. Яна пагледзела на мяне дапытліва й са зьдзекам, але сказала як нічога ніякага:

— Можа, дапаможаш мне?

Я пачала вырываць, колькі магла дацягнуцца, сплеценыя вінаградныя лозы з фіялетавымі, высахлымі леташнімі ягадамі й сьвежымі ружовымі пупышкамі. Залезьці на алтар я не адважылася.



*Здымак Алены Адамчык*

— Табэрнакул пусты. У ім няма Сакраманту. Цяпер гэта такі ж стол, як і ўсе іншыя. Сьмела можаш узьлезьці, — сказала Рака.

Але я ўсё адно не адважвалася.

— Дзіўна ты выбіраеш, што сабе дазволіць, а чаго — не... — засьмяялася Рака.

Наступнай раніцы, занёсшы малако й пакінуўшы яго ў пустым жытле пустэльніка, мы зноў прыйшлі ў капліцу. Паўла Птушніка мы не сустрэлі. Я была ўпэўненая, што Рацэ ня столькі патрэбна мая дапамога, колькі яна імкнецца ня зводзіць зь мяне вачэй. Увесь дзень мы фарбавалі маланкі й хмары. Мы не размаўлялі. У капліцы было ціха, і мне пастаянна мроіліся крокі Паўла Птушніка. Я ўжо не баялася ўзьлезьці на алтар. Нават палуднавалі мы, седзячы на ім: целяпаючы голымі нагамі, елі белы сыр, чорны хлеб і запівалі чырвоным віном. Нашы хмары выглядалі, як у самы разгар буры: чорныя, цёмна-сінія, шэрыя, зеленаватыя, фіялетавыя, а там, дзе іх расьсякалі залатыя маланкі, — жоўтыя, аранжавыя й чырвоныя. Пад вечар мы ўзяліся фарбаваць дзіўных шматгаловых істотаў. Тым разам я так і ня ўбачыла Паўла Птушніка. Назаўтра мы фарбавалі анёлаў, але пустэльнік зноў нас не наведаў. Так прайшоў цэлы тыдзень. Я адчувала сябе ўсё больш самотнай. Усё больш і больш пакінутай.

Паўла Птушніка я цяпер бачыла, як і іншыя пілігрымы, — раніцамі й вечарамі на Паляне Надзеі. Лавіла яго позіркі й адчувала сябе, як калекцыянэр рэдкіх матылькоў. Аднак Рака зноў прыдумляла якую-небудзь працу й старалася перашкодзіць нават гэтым спатканьням. Калі ж яна сама сустракалася з пустэльнікам, будучы ўвесь час са мною?!

Часам здавалася, што ў гэтым чалавечым мурашніку толькі мы дзьве й маем рукі й таму павінны зрабіць усю-ўсенькую работу. Мы плялі з дубовых лісьцяў даўжэзныя гірлянды для аздобы скляпеньняў храма, чысьцілі пяском сотні срэбных падсьвечнікаў, збаночкаў для віна й сьвенчанай вады, кадзілаў, пацёраў, вышывалі ладанкі, вілі й вываралі вяроўкі, якімі манахі падпярэзвалі свае габіты, у малых ступках расьцíралі разнастайныя прывезеныя з-за мораў смолы й карэньні, старанна ўзважыўшы ўсё на вагах, зьмешвалі пахнідлы, перапісвалі цынобрам загалоўныя літары ў старых імшалах і золатам абводзілі німбы над галовамі сьвятых у струхлелых манускрыптах...

Так праляцеў месяц, і настаў час мне вяртацца дадому. Але я гарэла жаданьнем яшчэ хоць раз сустрэцца з Паўлам Птушнікам не ў натоўпе, а вочы ў вочы. Зноў распачаліся мае блуканьні ў лябірынце дарог і сьцяжынак, лясоў і прагалінаў, папараў і лугоў. Часам здавалася, што ад бязьмежнага жалю, ненасычанага жаданьня, неапісальнай трывогі проста звар'яцею! Тады я зразумела сэнс нашых з Ракой незьлічоных працаў. Яны нам дапамагалі забыць саміх сябе і гэтак ня страціць розум.

У апошні дзень я адважылася спытаць Раку:

— Скажы мне, дзе б я магла яго знайсьці? Хачу разьвітацца, бо заўтра ад'яжджаю.

— Магла б разьвітацца й на Паляне Надзеі, у натоўпе. Амаль усім гэта ўдаецца, — сказала Рака, не падымаючы на мяне вачэй, бо фарбавала драўляную статуэтку караля Меркеля, а наўкола яе шыхтаваліся яшчэ мноствы батлеечных фігурак. — Але, калі хочаш, можаш заўтра пайсьці да паганскіх каменьняў. Такой парой года ён любіць там слухаць глушцоў. Цяпер час іхняга вясельля. Сьпевы гэтых вялізных птушак вельмі дзіўныя. Мяне заўсёды аж дрыжыкі бяруць...

Рака падняла галаву й расплылася ў сваёй бяззубай усьмешцы. Я зноў здрыганулася ад зайздрасьці: яна ведала пра Паўла Птушніка ўсё!

Усяго некалькі людзей пяра выступілі ў абарону шматнацыянальнай, плюралістычнай Босьніі, «старадаўняга эўрапейскага дому талеранцыі». У Босьніі чатыры твары, чатыры жывыя арганізмы ў адзіным целе, — нагадвае Мірко Мар'янавіч, харвацкі празаік. «Калі цынічны сьвет падзеліць Босьнію на часткі, — дадае драматург Златко Топчыч, — то створыць эмбрыён дзяржавы, пра якую невядома як доўга мы будзем марыць у глыбіні сваіх душаў». Гэты мусульманскі пісьменьнік згадвае таксама пра нейкае заклятае кола: ягоны бацька, зьняволены падчас II сусьветнай вайны ў харвацкім лягеры Ясеновач, быў выменяны на ўсташоў, а сын, пасаджаны празь пяцьдзесят гадоў у сэрбскі лягер, — на «чэтнікаў». Топчыч выступае супраць «інфэкцыі фашызму». «Басьняцкая дзяржава будзе дэмакратычная альбо яе ня будзе наогул», — кажа ён у канцы.

## УРБІЦЫД

Гэтая вайна зьнішчыла ўсё адзінкавае й супольнае, нішто ўжо ня будзе такое, як перад тым. Усё яшчэ «нямое й здранцьвелае», неадрознае. Усё трэба пачынаць нанова. Побач з генацыдам вораг праводзіць «урбіцыд» — абы зьнішчыць горад і ўсіх, хто ў ім жыве. Зьнішчыць культурную тоеснасьць, супольную памяць пра мінуўшчыну (спаленыя Ратуша, Нацыянальная Бібліятэка, Інстытут Арыенту), а таксама будучыню — праз этнічныя чысткі, падзел сем'яў і забойства дзяцей, — перапічвае празаік Твртко Куленавіч, які сам — зь «мяшанага» шлюбу. Ён ня ўпэўнены адносна лёсу бежанцаў: яны выгнаньнікі, а ня людзі, невядома, ці хтосьці ім дапамагае; у Швэцыі гэткім жа чынам прыстанцы высылаюцца ў палярную зону...

Іншыя пісьменьнікі востра асуджаюць «вычакачоў і ўцекачоў». Тыя, што ўцяклі — здраднікі. Для здраднікаў няма ўжо месца ў Сараеве, дзе перад усімі павінны былі застацца пісьменьнікі. Так наказвае гонар і прыналежнасьць да прафэсіі.

## ХТО РОБІЦЬ ЗЛО?

Месца пісьменьніка там, дзе церпяць, галадаюць, марнеюць і гінуць невінаватыя людзі. Хочучы бараніць гуманістычныя каштоўнасьці, пісьменьнік павінен сьведчыць пра дэградацыю чалавека. Каб пісаць пра рэчаіснасьць, ён мусіць уласным жыцьцём датыкнуцца да пекла, якое пануе на зямлі.

Пісьменьнік патрэбны айчыне, якая пакутуе, таму што найлепей можа выказаць яе пакуты. Ён павінен перадусім казаць пра сваіх, якія чыняць зло. Айчына ня можа быць абгрунтаваньнем зла. У імя айчыны пісьменьніку нельга хлусіць, ненавідзець, разлучаць, перасьледаваць, забіваць, — перапічвае Мірко Мар'янавіч. — Падпарадкаваньне ўсяго ёй і нацыі — гэта фанатызм, які прыводзіць да нацызму й фашызму.



Гэтыя словы сьведчаць, што некаторыя ўдзельнікі зьезду здолелі, на шчасьце, запанаваць над эмоцыямі і захавалі здаровы розум. Толькі б такіх было болей.

«Наш зьезд — гэта можа і ўтопія, — закончыў сваё ўступнае слова Златка Топчыч. — Аднак без утопіі мы не былі б сабою...»

*«Polityka»*



Усю ноч ліў дождж. Але ранак быў напоўнены вясёлкавым зьзяньнем. Павал Птушнік на Паляне Надзеі гаварыў да грамады пра радасьць:

— Госпадзі, надзялі нас радасьцю, якую Ты праз свайго адзінага Сына абяцаў нам! Бо сьведчыў Ён: Прасіце і атрымаеце, каб для вашай радасьці было дастаткова ўсяго! Госпадзі, аб тваёй радасьці мысьліць мой розум, гаворыць аб ёй мой язык, яе кахае маё сэрца і аб ёй вяшчаюць вусны. Згаладалася па ёй мая душа, прагне цела і мроіць аб ёй уся мая істота...

Не дачакаўшыся канца, я пабегла да старых паганскіх камянёў, бо, паводле Ракі, Птушнік прыходзіць сюды проста з Паляны Надзеі. Дарогу я ведала цудоўна, але ўсё роўна баялася зблудзіць, трывожылася, што лябірынт зноў злосна пакпіць зь мяне й зноў я апынуся ня ў тым месцы, на якое спадзявалася. Але я ўжо здалёк пачула клёкат глушцоў. Ён напомніў мне жудасны гук трашчотак, які грыміць у храмах перад Вялікаднем замест мэлядычнага гучаньня званоў.

Паганскія камяні, пакладзеныя сямю канцэнтрычнымі кругамі, відненіся на высокім кургане, зарослым асінамі. Гэта былі белыя, у рост чалавека стэлы зь нечытэльнымі надпісамі, рунамі, якія штогод аднаўляла нябачная рука: фарбавала ў чырвоны й чорны колер. Пасярод цэнтральнага круга ляжаў пляскаты, прызначаны калісь для ахвярапрынашэньняў камень. На яго чорнай, паліраванай, усё яшчэ бліскучай паверхні глыбокімі равочкамі кружыліся 77 свастык. Здавалася, што яны напоўненыя сьвежай крывёй, бо прыгнятальна-яскравай чырвані ня здолеў аслабіць ні вецер, ні дождж, ні час. Людзі казалі, што гэты дзіўны камень укрывае браму ў Пекла, а калі адваліць яго, зямлю заліюць няшчасьці, пра якія сьведчыць Апакаліпсіс. Іншыя сьцьвярджалі, што пад каменем пахаваныя бізантыйскія манахі, якія чамусьці скончылі жыцьцё самагубствам, тыя самыя, што сканструявалі ў храме цудоўны арган. Калі вятры дзьмуць ад кляштару, таямнічыя парывы пераплятаюцца сярод белых каменьняў, і здаецца, нібы гучыць арган... Трэція даводзілі, што гэта не магілы самазабойцаў мніхаў, а чырванавалосых гігантаў, прыбылых з поўначы. Яны памерлі ў гэтых мясьцінах ад тугі, і ад тугі пяюць іх велічныя душы, і калі падзьме паўночны вецер, каменьні завываюць змрочнымі мэлядычнымі галасамі. Як бы там ні было, але паганскіх камянёў усе пазьбягалі.

Калі я ўбачыла чорных глушцоў, што клекаталі й скакалі сярод белых камянёў, мяне праняў жах. Я не адважылася падыйсьці бліжэй, а бадзялася наўкола кургана, і раптам убачыла Паўла Птушніка. Ён стаяў на самай вяршыні кургана, склаўшы на грудзях рукі, і глядзеў на скаклівых птушак. Папугайчыкі кудысьці зьніклі — можа, нават іх страшыла гэтае месца? Ніякай сьцяжынкі не было, таму я ўзабралася наверх па сьлізкай з хмялёвым пахам траве. Зьдзівілася, бо зусім побач, нібы цёмна-зялёная сьцяна, вырас лес. Я падбіралася на кончыках пальцаў да пустэльніка, але ён адчуў маё набліжэньне, павярнуўся й заўсьміхаўся.

— Я сёньня зьяжджаю, — прамармытала я.

— Няўжо? — прамовіў ён.

І мы кінуліся адно аднаму ў абдымкі! Раней я думала, што так здараецца толькі ў балядах мэнэстрэляў. Я прыціскалася да Паўла так моцна, бо хацела пранікнуць у яго.

— Ці ведаеш, чаму людзі добра адчуваюць сябе абдымаючыся? — спытаўся ён, песьцячы языком мае вуха.

— Не...

— Яны ўсё жыцьцё падаюць. Падаюць і падаюць. І толькі абняўшы адзін аднаго, спыняюцца. Перастаюць падаць, — ён усё больш горача цалаваў маю шыю.

Пасьля пустэльнік схапіў мяне за руку й вялікімі крокамі пабег ў бок лесу. Талак талак талак — клекаталі глушцы. Штось пагрозьліва шапталі пісьмёны рунаў. Усё хутчэй і хутчэй кружыліся свастыкі на чорным ахвяравальным камяні. Падзьмуў вецер, і пракацілася хваля прасякнутага нечалавечым жалем гуку — бы сьпеў памерлых папугайчыкаў, бы арган...

Подбегам, патанаючы ў мяккім імху, чапляючыся адзеньнем за сукі, я ляцела за Паўлам Птушнікам. Празь некалькі імгненьняў мы ўжо былі ў ягонай пячоры.

Папугайчыкі відненіся пад самым скляпеньнем і здаваліся ў паўзмроку зусім шэрымі, нібы высечанымі з каменя.

Павал Птушнік разбэрсаў мой гарсэт і цалаваў грудзі, прагна смокчучы й пакусваючы смочкі. Дрыготкімі рукамі я сьціскала яго галаву. Здавалася, што яго ўспацелы лоб праломіць маю грудзіну, а мае ненасытныя пальцы праб'юць яго чэрап, і мы абліемся гарачай ліпкай крывёю.

Пасьля ён укленчыў перада мной, і, падняўшы цяжкі аксаміт сукні, цалаваў ступні, лыткі, сьцёгны. А я, нават акунаючыся ў найвялікшую асалоду, успомніла голыя ногі Ракі, што стаяла на алтары разбуранай капліцы.

— Гэта я, гэта я павінна кленчыць перад Вамі, — зашаптала я нібы трацячы прытомнасьць. — Я, а не Вы перада мною...

Я ўкленчыла й адчула, быццам гарачая чырвоная імгла ахутала мяне. Нейкае ймгненьне мы кленчылі, гледзячы адзін на аднога затуманенымі вачмі. Пасьля ён мяне абняў і без усякіх намаганьняў перакуліў на зямлю. Узлёг усім цяжарам свайго вялікага цела, і мне гэта незвычайна спадабалася. Ён нібыта распаліў мяне — я гарэла, дрыжэла й зьвівалася, як ахопленая полымем. Тады гэты чалавек як бы трохі ахаладнеў, укленчыў, асядлаўшы мае голыя ногі й сказаў хрыплаватым, загадным голасам:

— Распраніся!

Я распраналася, гледзячы, як ён сочыць за мной. А зьверху, схіліўшы галовы, на нас глядзелі паўкаменныя папугаі. І я тады нібы аддзялілася ад свайго цела, і, павіснуўшы высока над скляпеньнем, зь цікаўнасьцю назірала на падлозе за шалеючай у абдымках мужчыны кабетай, якая крычала зусім незнаёмым мне голасам.

— Дарагая мая, — загаварыў Павал Птушнік, гледзячы, як я апранаюся, — зразумей, я хачу зразумець самую сутнасьць прыгажосьці, і колькі я ні шукаў яе, не знайшоў нічога прыгажэйшага, чым цела жанчыны. Як пісаў Альбэртус Матус у сваім творы «De Divinis Nominibus», у разьдзеле «De Pulchroet Bono»: «Для прыгажосьці, як і для цела, патрэбныя адпаведныя пекныя прапорцыі і цудоўныя колеры... Таму ўжо сама ўнівэрсальная прырода прыгажосьці патрабуе, каб існавалі агульныя прапорцыі паміж усімі рэчамі ды іх падзелам і асновамі, і каб яны былі цудоўныя чысьцінёй сваіх формаў...» Ах, дарагая, ты ёсьць само ўвасабленьне прыгажосьці, яшчэ не сьпяшайся, не апранайся, дазволь майму воку пацешыцца...

Я адчувала, як Павал Птушнік няўмольна аддаляецца ад мяне, і таму сьпяшалася апранацца.

Калі я вярнулася ў сваю кельлю, я ўжо ведала, што ніколі й нікуды з гэтага кляштара не паеду. Увесь сусьвет здрыгануўся, затрымцеў і зьнік, быццам яго паглынулі воды вялікага патопу. Застаўся толькі адзін-адзіны карабель. У яго зьмясьціліся храм, кляштар, прытулак пілігрымаў, капліца, у якую ляснуў пярун, лугі з вазёрцамі, балоты, дарогі й сьцяжынкі, сплеценыя ў лябірынт, чорны лес, прасека, рудая скала... На гэтым караблі плыла й я.

Усё астатняе засталося дзесьці там. Застаўся муж, пяшчотны, трохі сярдзіты, з вачмі, заўсёды поўнымі зьдзіўленьня, якія, здавалася мне, я кахала й баялася страціць, чыйго каханьня й дзіцяці я прыехала прасіць да Паўла Птушніка... Застаўся мой дом, поўны сьвятла й ценяў, цішыні й мэлядычных гукаў, люстраў і мноства прыгожых рэчаў, да якіх я любіла дакранацца, бо гэта пацьвярджала маё быцьцё. Засталася вялізная аранжэрэя, дзе ў цёплым вільготным паветры праразталі, мацаваліся, разрасталіся, віліся, распускаліся, цьвілі, вавязвалі й сьпялілі плады найдзівосьнейшыя расьліны. Кветкі адных зьвінелі блакітнымі званочкамі, другіх зьзялі найясьнейшымі зорачкамі Млечнага Шляху, трэція пазіралі праз лістоту нібы жоўтыя зьвярыныя або блакітныя вочы анёлаў, чацьвертыя ківалі ружовымі пальчыкамі, плямкалі вішнёвымі губкамі, шчэрылі беласьнежныя зубы, вытыркалі фіялетавыя языкі, біліся, як аранжавыя сэрцы або сачыліся чырвонымі, як кроў, кроплямі. Спляталіся сьцяблінкі й сьцяблінкі: то з далікатным пушком, то гладкія, нібы зьмеі, што вылазяць са скуры, блыталіся гаранкі, усыпаныя каралямі насеньняў або наёршаныя зласнымі шыпамі; уздымаліся ствалы: стройныя, нібы струны арфы, цьвёрдыя, нібы калёны катэдры. Неапісальнай сакавітасьцю выдзялялася лісьце: і жоўта-зялёныя, амаль празрыстыя, як вітражнае шкло, і тоўстыя, бліскучыя, ледзьве ня чорныя, бы адлітыя з мэталу. Часам я адчувала сябе там як у райскім садзе перад грэхападзеньнем Евы, дзе не вядомыя ні дабро, ні зло, ні грэх, ні пакараньне й нават сьмерць...

Усё гэта засталося дзесьці там. Я сашкрэбла са сьценаў сваёй кельлі плесьню і ўкінула белы ліпкі пух у агонь. Лягла ў ложак, хоць пасьцель была такой вільготнай, што хоць выкручвай. Зьвінелі званы, і зычны звон балюча біўся ў мае скроні. Празь імгненьне здавалася, што ўсё, што са мной адбываецца, усяго толькі сон, і я хутка прачнуся.

Гледзячы, як спакваля гусьцее змрок, я думала: хто ж мне засылае гэтае выпрабаваньне — Бог ці сатана?

Пераклаў зь літоўскай Алег Аблажэй

# ЛЁНДАНСКІ ВІТРАЖ

*Працяг са старонкі 13*

й Сэнтымій Север. У Васпасіяна важыць табаку няма чым — марморовы орган нюху застаўся недзе на берагах Тыбру, хоць гэтага, прызнаем, больш заслугоўваў той самы ворган ягонага сына, які, пачуўшы, адкуль бацька бярэ грошы, няўдзячна круціў носам перад антычнаю публікай, у чые шэрагі ўплішчылася пара пісакаў, што ліхаманкава занатавалі сямейную сцэну дзеля нашчадкаў.

Этрускія аздабленьні й фрэскі прыводзяць на памяць рыфмы першакурсьніка Вінцэся Мудрова: дакоры — нарыхтканторы, этрускі — беларускі.

Калісьці ля гэтых фрывольных сонечна-блакітных фрэсак прастойваў, успамінаючы яшчэ не закаламучаную вялікай хіміяй агульную раку нашых дзяцінстваў, п'яны ад голаду Восіп Цадкін. Наступны ягоны прыпынак будзе пры вушатых стодах з выспы Вялікадня, каля якіх Цадкін, адолеўшы прыступ галавакручэньня, наважыцца купіць сёньня замест тварожнага пудынгу яшчэ адзін разец, што потым будзе разам з усімі астатнімі прывезенымі зь Лёндану разцамі зламаны аб прыцягнуты ледавіком пад Віцебск гранітны валун.

А калі напрыканцы Кліо завабіць вас да паліцы зь інкунабуламі, у вас зьявіцца шанец пакінуць Брытанскі музэй з стрэмкаю ў сэрцы, бо вы прыгадаеце, што яшчэ да пачатку XV стагодзьдзя друкарні, якія йснавалі ў 260 эўрапейскіх гарадах (у адной Венэцыі іх было роўна ў два разы болей, чым старонак у першай кіжцы І.Бабкова), ня надта напружваючыся, выдавалі болей за 40 тысяч кнігаў накладам 10 мільёнаў асобнікаў. У атачэньні гэткіх лічбаў прыярытэт Скарыны перад Фёдаравым, шчыра кажучы, будзе слабой суцехаю. Нацыянальнае самалюбства здолее трохі акрыяць адно тады, як вы даведаецеся, што першым друкаром, які пасяліўся ў лёнданскім sity ажно ў 1480 годзе, быў нейкі Jon Lettou, або папросту ян Ліцьвін — гэта пацьвердзіць першы-лепшы ангельскі гісторык.

## СУХОЕ ВУХА

Пра Яна Ліцьвіна распавядзе вам нехта падобны да Карлсана, што ўжо пераступіў тую мяжу, за якою левітацыя робіцца нязбыўнаю марай. Але як толькі гэты чалавек ухопіць за аброць свайго коніка, што завецца беларускай мінуўшчынай, адразу зробіцца відавочным, што лёнданскі Карлсан яшчэ здатны падымацца вышэй за коміны.

Гісторыя кожнага адметнага жыцьця зазвычай і пачынаецца зь нечага адметнага. Гэтая гісторыя пачалася з сухога вуха.

Вуха, або — як кажа ягоны спадкаемец спадар Гай Пікарда — «вуша» належала французу, якога звалі Франсуа Абрагам Разье. Франсуа ўхапіў матчыну цыцку ў 1793 годзе, а таму ягоная служба ў маршала Даву выглядае цалкам натуральнаю. Няцяжка ўявіць і раскладзенае ўвосень 1812-га недзе на беларускіх абшарах Смаленшчыны вогнішча, пры якім кавалерыйскі лейтэнант Разье ладзіцца нанач, неабачліва адсунуўшыся «трошачкі далёка ад агонь».

У чытальнай залі выяўна, да прыкметнага цёплага казытаньня ў носе цягне дымком пачатку мінулага стагодзьдзя, і задаволены трансцэндэнтным эфэктам сп. Гай доўжыць свой халерычны аповяд аб прадзедзе.

«Уначы прапала тэмпэратура,» — унікліва кажа ён і, вычакаўшы неабходную пярэрву, цешачыся з такой відавочнай прычынна-выніковае сувязі падзеяў, урачыста дадае: «А ўраньні прапала вуша!»

Праўдзівей, «вуша» не прапала, а проста адвалілася. А паколькі Франсуа быў чалавек ашчадны, адмарожаную частку свайго цела ён не зашпурнуў у хмызьнях, а любоўна высушыў і забраў з сабою ў Парыж.

Па часе табакерка з вухам, што ўжо ператварылася ў фамільную рэліквію, трапіла на вочы спадару Гаю, гадаванцу юрыдычных факультэтаў Сарбоны й Оксфарду. Ён знайшоў на мапе Смаленск і Менск, па вуліцах якіх гарцаваў зухаваты кавалерыйскі лейтэнант, пасьля завітаў у беларускую царкву, захапіўся беларускай гісторыяй і ўніяцкімі сьпевамі і ўрэшце, памяняўшы адвакацкую практыку на навуковыя студыі, пусьціў карані ў «Фінчлейскай Беларусі».

Таго вечару, дзякуючы вуху, мы найбольш гаманілі пра расейскую кампанію Напалеона. «Вы чулі пра Банапарта і беларускі бабушка?» — бліскаў вачыма мой суразмоўца. — Банапарт пытаецца ў беларускі бабушка, як яна жадае: каб французы пагналі рускіх далей, або каб рускія пагналі рускіх назад?» Напэўна, і вы адчуеце да невядомае «беларускі бабушка» сымпатыю, бо наша мудрая старая адказала валадару Эўропы так: «Няхай французы гоняць рускіх так далёка, каб не вярнуліся ні рускія, ні французы».

Я даведваюся й шэраг іншых зьвестак, яшчэ не спраўджаных у гістарычных крыніцах. Напалеон, напрыклад, слухаў беларускую гаворку й з падколкаю казаў палякам з свайго почту, што гэта ня польская мова і тут ніякая ня Польшча.

А Кутузаў нібыта штодня спаў па чатырнаццаць гадзінаў.

## НЯЧЫСЬЦІК

Ад брытанскага падданага Пікарда вы можаце пачуць яшчэ аб адным адметным лёнданцы, які за свой тутэйшы побыт пасьпеў выпусьціць трыма выданьнямі ўласную беларускую паэму «Нячысьцік» — пра селяніна Мікіту, што «імеў жонку, як зьмяю». Апрача жонкі-зьмяі Мікіта гадаваў парсючка, якога собіла ж гаспадару забіць на каўбасы акурат у Вялікі пост. Пакуль жонка лётала да жыда па гарэлку, нячысьцік скраў каўбасы й рэшту парсючка. Жончын маральны кодэкс не замінаў ёй пажадаць Мікіту сьмерці, што з дапамогаю інфэрнальных сфэраў адразу ж збылося. Мараль суворая, ды справядлівая: ня еш у пост скароміны.

Аматары роднае літаратуры ўжо ўспомнілі, што гэты жаласны сюжэт апрануў у немудрагелістыя рыфмы прыдзьвінскі шляхціц Аляксандар Рыпынскі, які пасьля паўстаньня 1830 году ратаваўся на чужыне, пражыўшы дзесяць гадоў у лёнданскім прадмесьці Тотэнгам, дзе рэкамэндаваўся мастаком, фатографам і настаўнікам францускае ды нямецкае мовы й маляваньня. (У Тотэнгамскім музэі дагэтуль перахоўваецца пара гравюраў зь яго карцінаў.)

Паколькі дом Рыпінскага ацалеў, гісторыя прадпрыймальнага сына Прыдзьвіньня мела працяг. Гавораць, нібыта ў пабе паблізу ад таго дому аднойчы выпіваў доктар Адам Мальдзіс. Пачуўшы, што наведнік зь нейкае там Беларусі, мурын-афіцыянт застаўся зусім абыякавы: праблемы Каморскіх выспаў ці Заходняга Самаа абыходзілі яго нязьмерна болей. Тады д-р Мальдзіс як быццам зазначыў: калі б павесіць на будынку мэмарыяльную табліцу, што сюды заходзіў кульнуць кілішак паэт А.Рыпінскі, кожны беларус, трапіўшы ў Лёндан, ушаноўваў бы гэтае месца ня меншай, а верагодна (бо сякі-такі поступ цывілізацыя ўсё ж зьведала) значна большай колькасьцю кілішкаў віскі або кухляў добрага цёмнага піва Guiness. Замест мурына перад столікам імгненна вырас гаспадар пабу з нататнікам у руцэ. Першым яго пытаньнем было: колькі на сьвеце беларусаў?

## UNDERGROUND

Дзякуючы інструктажу я без праблемаў перакладаю ў падземцы пагрозьлівую тыраду чорнаскурага дзяжурнага. Ён гаворыць: «Ня трэба ля-ля-ля». На шчасьце, я зьяўляюся ня ўдзельнікам, а гледачом. Тры суразмоўніцы ахоўніка парадку лапочуць па-польску. Сытуацыя досыць банальная. Аватурная польская прадпрыймальнасьць зноў сутыкнулася з адмысловай ангельскай прадбачлівасьцю.

Рэч у тым, што на шмат якіх станцыях лёнданскага андэргграўнду вы прасьцей простага можаце сесьці ў вагон без усякіх жэтонаў, праязных квіткоў, турнікетаў і правяральшчыкаў. Але ваш сум па турнікетах ня здоўжыцца. Яны сустрэнуць вас на выхадзе і — у адрозьненьне ад айчынных, якія зазвычай мерацца спотайку выцяць вас па якім-небудзь далікатным месцы — усяго толькі запатрабуюць засунуць ім у нутро ваш ticket з датаю, коштам, указаньнем зоны etc. Пасьля гэтага перад вамі адкрыюцца два шляхі. Адзін зь іх будзе ўвасабляць звычайна цёмнаскуры мацак з пачкам квіткоў на штраф, роўны палове сярэднемесяцовага заробку грамадзяніна РБ. Другі варыянт падрабязна разгледжаны ў навэле Хуліё Картасара «Нататкі з бляноту».

## ЭЖЭН ЁНЭСКО

Самавіта й паважна, пасылаючы тым, хто застаецца на беразе, разьвітальныя фантаны мэмуараў і фантанчыкі інтэрвію й запаветаў, адплываюць у вечнасьць літаратурныя левіяфаны XX стагодзьдзя. Сымбалічна й суцешліва, што пра гэта вы даведваецеся ўжо ня з купленай на аўтастанцыі ў Лепелі «Советской Белоруссии», а з набытага на Piccadilly кіляграмовага выпуску «The Gardian», адкуль астатні раз усьміхнецца вам сканалы ўчора ў Парыжы Эжэн Ёнэско.

Не выключаю, што якраз такой эфэктнаю фразай вам захочацца завяршыць нататкі, збольшага накіданыя ў вагоне «Астэндэ—Масква», які недзе ў Брусэлі ці Аахене падчэпяць да міжнароднага экспрэсу «Парыж—Масква». Але жыцьцё зноў давядзе сваю зьверхнасьць над літаратураю й літаратуршчынай, змусіўшы вас на пастскрыптум.

## ІНСТЫТУТ КУЛЬТУРЫ

Парыскі цягнік прыбудзе апоўначы на станцыю «Інстытут культуры». Некультурны маскоўскі праваднік доўга ня будзе адчыняць дзьвярэй, ня верачы, што за цёмнымі вокнамі — сталіца незалежнае Рэспублікі Беларусі. Нарэшце зь непрасьветнае цемры ў вагон пачнуць ламацца сустрачальнікі. Хтосьці будзе падсьвечваць ліхтарыкам плякацік, адрасаваны дэлегатам нейкага міжнароднага кангрэсу.

На вагонных прыступках вы моцна-моцна заплюшчыцеся, каб на імгненьне зноў адчуць пах лёнданскіх вішняў і нарцызаў, і скочыце на нябачны друз, што здрадліва папаўзе ў вас пад нагамі.

— Is it Minsk? Is it Minsk? — будзе разгублена пытацца якісьці гаротны дэлегат міжнароднага кангрэсу, што праз хвілю разам з валізамі абрынецца вам на голаў.

Нехта невідочны зычліва, з традыцыйнай беларускай гасьціннасьцю адкажа зь цямрэчы голасам верагоднага кандыдата ў нашыя прэзыдэнты:

— Мінск, Мінск, ё... тваю маць...

*Красавік, 1994.*





# *ШТО ПІШУЦЬ?*

Доўга б яшчэ не сабраўся напісаць у «Нашу Ніву», калі б ня тая, бадай, традыцыйная непавага да саміх сябе, якая купінай на роўнядзі ўплішчылася ў вандроўныя нататкі «Promenade» ў нумары 5 газэты сёлета. Так мы ўжо, відаць, прывучаныя, што, як убачым нешта вартае ўвагі ды захапленьня, то адразу ж пачынаем шукаць сьведчаньне замежнага паходжаньня. Можна дапусьціць, што аўтар напісанага скарыстаў сьведчаньні слонімцаў, калі «падарыў» польскім рэстаўратарам работу, якую «зь вялікім піетэтам і вельмі эстэтычна», ад сябе дададзём, у найкарацейшыя тэрміны выканала ў слонімскім касьцёле сьв. Андрэя вядомае ў сфэры беларускае рэстаўрацыі прадпрыемства «Сант» Сяргея Казлова. Рэстаўрацыя жывапісу на вэртыкальных плашчызнах муроў у інтэр'еры зроблена рукамі мастакоў-рэстаўратараў з АП «Менскрэстаўрацыя». Дзеля справядлівасьці трэба сказаць, што частку жывапісу на столі адрэстаўравалі польскія спэцыялісты. Але іх работа складае каля пяці адсоткаў агульнага аб'ёму рэстаўрацыйных работ у касьцёле.

Ігар Чарняўскі

# *ФУНДАТАРЫ «НН»*

*Робэрт Аляксандар Пухоўскі з ЗША — Сарваку (Малайзія)*
*Robert Alexander Pochowski, USA — Sarawak (Malayzia) — $ 100*

***Вялікі дзякуй!***

# *ПАШТОВАЯ СКРЫНКА*

**В.С. зь Вецебску.** Вашыя матэрыялы дарэчы. Ці не рабілі б Вы адразу да публікацыі аглядныя тэксты, інфармацыйныя падборкі?

**НАША НІВА** №6(24) Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Рэдактар Сяргей Дубавец. Засавальнік і выдавец Павал Жук. Адрасы для допісаў: 2041 Вільня а/с 2082 і 220123, Менск а/с 71. Падпісны індэкс у Літве: 67233, на Беларусі: 63125. Рэдакцыя (Вільня, Жыгімонта 12/2): Алег Мінкін (адк. сакратар), Сяргей Шупа (літ. рэдактар), Сяргей Харэўскі (маст. рэдактар). Менскае бюро (Менск, Іванаўская 56): Алег Дзярновіч (загадчык), Ігар Бабкоў (дыскурс). Рэдакцыйная Рада: Уладзімер Арлоў, Сяргей Астраўцоў, Адам Глёбус, Лявон Луцкевіч, Генадзь Сагановіч. Афсэтны друк. Фармат А3. Агульны наклад 20 тыс. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку» (22004) Менск, праспэкт Ф.Скарыны, 79). Кошт паводле дамоўленасьці. Падпісана ў друк 7.7.94 Замова 966

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12